

Смаленскі абраз Маці Божай Адзігітрыі, XVII ст

2.91 СПАДЧЫНА

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ

## У НУМАРЫ





**ЧАСОПІС ВЫДАЕЦЦА КОШТАМ ТВЦ «ПАЛІФАКТ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

Тэхнічны рэдактар З. М. МІКІШЧАНКА.

Слайды **В. Дубінкі.**

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54, 34-26-50.

Здадзена ў набор 27.02.91. Падпісана да друку 11.04.91. Фармат $70 \times 108^{1}/_{16}$. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,15. Ум. фарб.-адб. 22,4. Ул.-выд. арк. 12,64. Тыраж 7468 экз. Зак. 107. Цана 1 руб.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць 6 разоў на год.
Выдавецтва «Полымя»
Мінск

# НЕ БЫЦЬ АБЫЯКАВЫМІ

На памяць прыходзіць сёння навукова-практычная канферэнцыя «Народ, культура, перабудова». Тады справядліва прагучалі прапановы аб неабходнасці значнай перабудовы культурнай палітыкі ў рэспубліцы. У рэкамендацыях, якія прыняла канферэнцыя, органам культуры, народнай асветы, навуковым установам, творчым саюзам, грамадскім арганізацыям прапанавана распрацаваць сучасную, навукова-абгрунтаваную канцэпцыю далейшага развіцця нацыянальнай культуры, звярнуўшы асаблівую ўвагу на яе арганічную сувязь з лепшымі традыцыямі мінулага.

Канферэнцыя выказалася за прыняцце рашучых мер па развіццю ў рэспубліцы гістарычнай навукі, краязнаўства і музейнай справы, прапанавала пачаць актыўную работу па выяўленню і вяртанню культурных каштоўнасцей беларускага народа, якія апынуліся за межамі рэспублікі.

У гады перабудовы сапраўды ўзрасла цікавасць да культурнай спадчыны. Культура стала настойліва ваяваць за тое, каб агульначалавечыя нормы — мараль, дабрыня, чалавечнасць, справядлівасць, праўда, міласэрнасць надзейна ўваходзілі ў чалавечую псіхалогію, станавіліся часткай душы народа. Да пазітыўнага вырашэння праблем духоўнасці актыўна падключыўся і Фонд культуры, само ўтварэнне якога — адна з яркіх прыкмет станоўчых зрухаў, што адбываюцца ў краіне. Захаванне і засваенне духоўнай спадчыны цяпер як ніколі важныя і як урокі патрыятычнага мыслення народа, і як урокі мінулага для назапашвання і пашырэння культурнага пласта,— дзеля выхавання чалавека.

Духоўнасць — той стрыжань, на які могуць і павінны абапірацца ўсе ідэі і планы, практычная стваральная дзейнасць.

Культура нарэшце павінна прыйсці ў паўсядзённы побыт. Як гэта зрабіць? Адназначна адказаць цяжка. Трэба заўважыць, што ў рэспубліцы і краіне пакуль не існуе гуманітарнай канцэпцыі, а гэта ўскладняе праблему. Мы прыцягваем людзей, так сказаць, «знізу». Яны лепш ці горш, аднак працуюць. Але ж культура павінна стварацца і «зверху». Яна павінна напластоўвацца адначасова з развіццём усёй матэрыяльна-тэхнічнай базы грамадства.

Ёсць нямала прыкладаў прадуманых, зацікаўленых адносін да культуры ў рэспубліцы. Аднак, на жаль, у аснове сваёй яна развіваецца без належнай падтрымкі мясцовых улад, без прадуманай праграмы.

Нярэдка мы як бы забываемся, што сапраўды рэвалюцыйныя зрухі цяпер неабходныя не толькі ў тэхніцы і тэхналогіі вытворчасці, але і ва ўсведамленні сацыяльных і духоўна-маральных праблем, якія адносяцца да самых патаемных глыбінь народнага жыцця. Сёння ўжо час зразумець, што шлях сапраўднага паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця ляжыць праз удасканаленне чалавека.

Ад розных прычын цяпер у нас з'явіўся новы тып людзей, якія валодаюць ведамі ў розных галінах гаспадаркі, але яны глухія да прыгажосці, абыякавыя да культуры, жывой прыроды. Праўда, і абвінавачваць іх у гэтым асабліва не хацелся б, бо ў навучальных установах іх не далучалі да культурнай спадчыны, да духоўна-маральных каштоўнасцей.

Несумненна, наспела неабходнасць павышаць узровень духоўнасці культуры, свядомасці такіх «невукаў» з дыпломамі. Але ж гэта ажыццявіць не проста. Патрэбна доўгачасовая, глыбока прадуманая праграма, здольная аб'яднаць намаганні ўсіх арганізацый культуры. Мы лічым, што якраз на гэта і скіравана доўгачасовая праграма «Спадчына».

У аснове праграмы прадугледжваецца супольнасць намаганняў творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый па захаванню і прымнажэнні нацыянальнага культурнага багацця, больш поўнаму і паглыбленаму засваенню багаццяў айчыннай і сусветнай культуры. Не маем права мы быць абыякавымі і да памяці народных асветнікаў, выдатных дзеячаў культуры нашага краю. Па-мойму, мы проста не ацанілі належным чынам той спадчыны, якую пакінулі нам продкі ў літаратуры, музыцы, выяўленчым мастацтве, архітэктуры. Толькі пералік імёнаў славутых людзей даволі вялікі. У праграме «Спадчына» прадугледжана запоўніць хоць збольшага «белыя плямы» нашай гісторыі.

Гістарызм, абвостранае пачуццё сувязі часоў — вось яшчэ адна характэрная рыса культуры. Не трэба забываць, што паглыбленае пачуццё гістарызму, непадробная і сур'ёзная цікавасць да мінулага — сведчанне развітай грамадзянскай самасвядомасці, прыналежнасці да духоўнай сталасці.

Гаворачы пра духоўнасць, нельга не нагадаць пра яе вытокі, якімі з'яўляецца народная творчасць. Справядліва сказаць, што чалавек становіцца асобай толькі па меры таго, калі ад маралі асабістай ён ідзе да маралі грамадзянскай.

Цяпер мы асаблівую ўвагу надаем каардынацыі намаганняў на выяўленне і захаванне фальклору, правядзенне фестываляў беларускай народнай музыкі, адраджэнне свят каляндарнага цыкла.

Настаў час па-сапраўднаму задумацца і пра будучае народнага рамяства. Пакуль толькі на выстаўках народнай творчасці можна ўбачыць сапраўдныя высокамастацкія вырабы. Але гэта ўжо, шчыра кажучы, «апошні рэзерв» нашых майстроў. І калі ў бліжэйшы час не будуць прыняты захады па памнажэнню іх традыцый, выхаванню вартай змены, то потым ужо будзе позна. Адной з першачарговых сваіх задач трэба бачыць стварэнне Таварыства народных майстроў, арганізацыю рэгіянальных цэнтраў — майстэрняў народнага рамяства.

Асаблівы клопат — захаванне архітэктурнай спадчыны.

Замнога праблем — мастацкіх, будаўнічых, сацыяльных, ідэалагічных — накапілася ў справе аховы помнікаў. Гэтыя пытанні набываюць асаблівую актуальнасць у сувязі з тым, што больш за тысячу з тысячы двухсот дванаццаці помнікаў архітэктуры, пастаўленых на ўлік у рэспубліцы, знаходзяцца ў занядбалым стане. Улічваючы недаскана-

**ласць дзеючага заканадаўства аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры, трэба завяршыць падрыхтоўку прапаноў па ўдасканаленню некаторых палажэнняў гэтага заканадаўчага акта. Асноўная небяспека для помнікаў зыходзіць, на вялікі жаль, ад мясцовых органаў улады, чые некваліфікаваныя дзеянні і, асабліва бяздзейнасць, вядуць да фізічнага знішчэння помнікаў, страце іх гістарычна-культурных каштоўнасцей.**

**Вялікія праблемы ў рэспубліцы паўсталі з наданнем статуса дзяржаўнасці беларускай мове.**

**За апошнія дзесяцігоддзі склалася парадаксальная сітуацыя: маючы развітыя беларускую літаратуру, нацыянальны тэатр, навуку, у грамадскім жыцці мы звялі афіцыйнае ўжыванне беларускай мовы амаль да таго ўзроўню, на якім яна знаходзілася да кастрычніцкай рэвалюцыі. Родная мова аказалася неабавязковай у школах, яе рэдка пачуеш у дзяржаўных установах.**

**Няма нацыянальнай культуры без нацыянальнай мовы, няма нацыянальнай мовы без нацыянальнай культуры.**

**Дзейнічаць сугучна з часам, у духу перабудовы — важнейшы абавязак усіх нас. Культура — адзіная, як бы мы ні спрабавалі яе размяркоўваць па ўстановах і арганізацыях. Гэта шчаслівы і цяжкі груз, які мы зможам несці толькі разам.**

**ІВАН ЧЫГРЫНАЎ,**
**старшыня праўлення**
**Беларускага фонду культуры**

# БЫЛА Б ЖЫВОЙ ДУША

Гісторыя пра тое, як беларускія кінематаграфісты ў мінулую восень пазбавіліся свайго Дома кіно, заслугоўвае, як цяпер модна казаць, асобнага сцэнарыя. Але ж у тым, што вядомы Чырвоны касцёл у Мінску доўгія гады быў звязаны з нашым кіно і выконваў функцыі так званага «кінематаграфічнага храма», можна знайсці і пэўную метафару. Яна, безумоўна, не без драматычнага адцення. Як здарылася, што беларускія кінематаграфісты, хоць і не па сваёй волі, апынуліся ў ролі «захопнікаў» чужой духоўнай прасторы?

Справа не толькі ў відавочных прычынах, не ў тым, што палітычныя мэты ў нас даўно зрасліся з экраннымі сродкамі іх дасягнення. Скажам шчыра: кінамастацтва, маючы спецыфічныя здольнасці да масавага гіпнозу, за доўгія дзесяцігоддзі само непрыкметна зрабілася яго ідэйнай і духоўнай ахвярай. А таму і так цяжка сёння яму выйсці з гэтага пасіўнага стану. Нават у галіне дакументалістыкі, якая па прыродзе сваёй валодае тэхнікай хуткага рэагавання на надзённыя запатрабаванні грамадства.

Помніцца, у самы разгар перабудовачнай эйфарыі творчае аб'яднанне «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» запрасіла прадстаўнікоў грамадскасці на абмеркаванне дакументальнай стужкі рэжысёра М. Ждановускага «Ёсць у горада душа». На кінастудыі праціўнікаў у фільма не было. Аднак, узнятая аўтарамі вострая тэма — небяспека парушэння гістарычнага цэнтра Мінска ў выніку пабудовы другой

чаргі метрапалітэна — выклікала рэзкія пратэсты з боку гарадскіх уладаў. Як гэта не дзіўна, але на абарону праекта адкрыта сталі і архітэктары, на чале з сумнавядомым Мусінскім. Ён у фільме імкнуўся даказаць, што новае лепей за старое, што нельга адначасова зберагчы гістарычныя кварталы і забяспечыць нармальнае функцыянаванне транспарту.

Гэты дэмагагічны аргумент выклікаў вострае да сябе стаўленне ў многіх мінчукоў. Таму прынцыповая пазіцыя, якую адстойвалі ўдзельнікі абмеркавання, узяла ўсё-такі верх. Праект другой лініі быў перапланаваны. Тым больш, што ў падтрымку гэтай ідэі выступілі і іншыя сродкі масавай інфармацыі: тэлебачанне, рэспубліканскі і саюзны друк. Інтэлігенты-патрыёты змагаліся за захаванне архітэктурнай спадчыны, і яны ж адстойвалі права фільма дайсці да гледача.

Калі сёння, праз чатыры гады, звяртаешся да гэтай гісторыі, нельга не задумацца пра тое, які магутны сэнс набывала слова «душа». Менавіта яна аб'яднала ў адзіным эмацыянальным парыве розных людзей, такіх розных і настолькі аднолькавых у сваім адчуванні, што ўсе мы людзі адной зямлі, што лёс яе спадчыны, як і будучыні, у нашых руках. Тады гэтая думка не прыходзіла ў галаву. На хвалі галоснасці здавалася, што дастаткова назваць з дакументальнага экрана негатыўныя з'явы сваімі імёнамі, цвяроза акінуць позіркам застойнае мінулае, каб адразу і назаўсёды вызваліць душу, як птушку з клеткі.

Сёння сацыёлагі сцвярджаюць, што людзі сталі меней даверлівымі да будучыні. Сённяшні месяц роўны чатыром, а то і пяці, якія пражывала грамадства яшчэ колькі гадоў таму. Час цяпер сціснуўся, і жыццё стала падобным на шагрэневую скуру. Вось тут і абвастраецца праблема духоўнасці. Хто ці што можа даць чалавеку надзею, дзе возьме моцы яго душа, якая разгубілася перад жорсткай матэрыяй сучаснага побыту?..

А можа беларуская кінадакументалістыка ўзяла б на сябе функцыю, скажам, дарадчыка? Чаму б і не? Менавіта дакументальны экран павінен рэвербераваць грамадскія абертоны і фільтраваць іх у чыстым гучанні сапраўднай культуры. Аднак рэчаіснасць такая, што і кіно таксама ідзе да свайго аднаўлення праз страты гіпнатычных ілюзій.

Карціны, якія сёння ўваходзяць у наша эстэтычнае асяроддзе, дакладней, ствараюць яго, нясуць на сабе гэты адбітак. Вось цэлы пласт фільмаў, якія з'явіліся ў апошнія два гады: «Быў, ёсць, буду» (у памяць У. Караткевіча), «Цішка Гартны» і «Алесь Гарун» — рэжысёр Ю. Цвяткоў; «Язэп Драздовіч», «Францыск, сын Скарынін», «Кірыла Тураўскі» і «Роздум ля палітры» (пра мастакоў XIX ст., якія нарадзіліся ў Беларусі) — рэжысёр С. Гайдук; «Вяртанне Міхася Забэйды» — рэжысёр Р. Ясінскі, «Ларэц старажытнасцей» (пра беларускага асветніка і падарожніка Ф. Струкава) і «Ефрасіння Полацкая» — рэжысёр В. Моракава; «Адам і Марыля» (лірычнае эсэ пра каханне Адама Міцкевіча) і «Ахоўваецца дзяржавай» (пра стан старажытнага дойлідства сёння) — рэжысёр Ю. Марухін; «Максім Багдановіч» В. Сукманава. Успомнім і фільмы, якія прысвячаюцца народнай творчасці: «Гудзёлка» і «Цымбальныя званы» — рэжысёр А. Канеўскі, «Паранясі, божа, хмарку» — рэжысёр І. Шклярэўскі. Усё гэта зроблена ў рэчышчы праграмы «Адраджэнне», якая выклікала рашучы паварот нашых дакументалістаў да нацыянальнай скарбніцы.

Чаму ж гэтыя фільмы не з'явіліся раней? Дапусцім, было цяжка «прабіць» тэмы Язэпа Драздовіча ці Цішкі Гартнага, Алеся Гаруна

ці Міхася Забэйды... Аднак, былі адкрытымі для грамадскасці Ефрасіння Полацкая, Фёдар Струкаў, Францыск Скарына. Прасцей за ўсё было б цяпер ківаць на адміністратыўна-камандную сістэму і той палітычны клімат, стварацць які яна была майстрам.

Калі справа толькі ў гэтым, тады, безумоўна, дзіўным выглядае, напрыклад, такі фільм, як «Максім Гарэцкі» І. Калоўскага. За гэтую работу, у прыватнасці, мастаку, цяпер ужо нябожчыку, была нададзена Дзяржаўная прэмія БССР. Не, відаць, пытанне не толькі на сумленні былых кіраўнікоў рэспубліканскага Дзяржкіно і аддзела культуры ЦК КПБ, якія ажыццяўлялі пільны кантроль над рэпертуарнай палітыкай. Відавочна і тое, што нашым «летапісцам» не хапала галоўнага — патрэбы душы ў адчуванні сябе нацыянальным мастаком. Мне падаецца, што многія з іх сустрэлі перабудову на той самай эмацыянальнай духоўнай прасторы, дзе нікому не прыходзіла ў галаву спыніцца і па-сапраўднаму задумацца пра свае карані.

У папулярнай беларускай тэлеперадачы «Кінаэкран — 91» рэжысёр С. Гайдук, які найбольш актыўна працуе ў ажыццяўленні праграмы «Адраджэнне», прадстаўляючы свае стужкі «Роздум ля палітры» і «Кірыла Тураўскі», мімаходзь сказаў слова пра традыцыі. Прыйшлося да слова ў час кароткага інтэрв'ю.

Дык вось з традыцыямі ў дадзеным кантэксце не ўсё так проста. Зараз у нашым дакументальным кінематографе склалася унікальная сітуацыя. Ніколі раней, нават у эпоху «праблемнага» ці «сацыяльнага» фільма, мастак-дакументаліст не адчуваў так блізка, побач з сабой, гледача. У іх цяпер, можна сказаць, аднолькавы погляд на свет, ідэнтыфікаваныя ўяўленні аб прыгажосці, якой у жыцці не хапае як кінематографу, так і аўдыторыі. Калі з гэтым феноменам сутыкаешся ў стужцы С. Гайдука «Вярба няніцая», дзе размова ідзе пра махінацыі ў валютным магазіне «Бярозка», то справа тут зразумелая і натуральная. Зусім інакш ставішся да гэтага эмацыянальна-інтэлектуальнага унісону ў тэматыцы, якая закранае культуру.

З асэнсаваннем традыцый тут пакуль няпроста. Маргіналізаваная свядомасць, якая, хацелі б мы таго ці не, ахапіла ў апошнія гады і сферу мастацкай творчасці. Асаблівы яе ўплыў бачны на дакументальным экране, дзе «сацыяльнасць», «аператыўнасць», «рэпартажнасць» пасунулі на другі план уласна эстэтычныя аспекты. Вось і ў апошніх работах, дзе, здавалася б, сама тэма патрабуе ўзнёсласці духа, лірычнага строю думак, бачыш усё той жа рэпартаж: бясконцыя «прамыя» сінхроны, калі субяседнік, як з экрана тэлевізара, глядзіць табе ў твар, ці звычайнае адлюстраванне родных краявідаў, а то і вуліц з помнікамі ў замежных сталіцах, дзе жылі ці бывалі нашы славутыя суайчыннікі. Кіно нібыта ўспомніла свайго продка — фатаграфію, толькі ў яе сучаснай форме — слайда.

Безумоўна, у гэтых дакументальных фільмах мы заўважаем усю дээстэтызацыю ўнутранай структуры. Ад гэтага цікавыя тэмы і драматычныя лёсы ўспрымаюцца на паўсядзённым побытавым узроўні. Людзі розных гістарычных эпох — і Францыск Скарына, і Міхась Забэйда, і Язэп Драздовіч, і Алесь Гарун — у такім люстэрку пазбаўлены сваіх індывідуальнасцей. Кіно — гэты магічны сродак аднаўлення асобы ў арыгінальным спалучэнні аўтарскага бачання і гістарычных, рэальных фактаў — не выконвае сваёй прыроднай функцыі. Пакуль на фоне багатай у сваёй сукупнасці нацыянальнай спадчыны мы -стракаемся не з кінамастацтвам, а з фактам культурнага прасветніцтва, ды і то вельмі завужанага.

На двух розных праглядах у Доме літаратара на гэты конт давялося пачуць амаль аднолькавыя думкі. У першым выпадку малады чалавек звярнуў увагу на тое, што ў карціне «Алесь Гарун» не выкарыстаны матэрыялы Іркуцкага архіву, дзе захоўваюцца спісы вязняў, сярод якіх быў паэт,— апісанне яго знешніх прыкмет, заробкаў на залатых прыісках і г. д. Усе гэтыя дакументы маглі б больш дакладна распавесці як пра сібірскі перыяд, так і пра жыццё выдатнага беларускага адраджэнца. На другім абмеркаванні, пасля прагляду фільма «Міхась Забэйда», мая суседка, музейная работніца, заўважыла, што нестае ў фільме фотаздымкаў і матэрыялаў аб знаходжанні спевака ў Мінску ў 1963 годзе.

Адсюль, між іншым, і пачынаюцца супярэчнасці паміж сур'ёзнасцю задачы і той дастаткова «папулярнай» метадалогіяй, з дапамогай якой наша кіно звяртаецца да культуры.

Так, сёння адраджэнне духоўнай спадчыны, як у жыцці, так і на дакументальным экране, пачалося. Але напрошваецца натуральнае пытанне: ці ёсць у гэтым працэсе сістэма, ці ўпісваецца яна ў іншыя нацыянальныя праграмы? Адкрытай застаецца і праблема з пракатам гэтых карцін. Вядома, яны павінны быць шырока прадстаўлены на беларускім тэлеэкране. Добра было б наладзіць іх выпуск на відэакасетах для школ, ВНУ.

Кіно па крупінках асвойвае не вельмі яму пакуль што знаёмы складаны духоўна-псіхалагічны вопыт народа. Хоць і з цяжкасцямі, але ўсё ж закладваецца падмурак нацыянальнай кінасвядомасці, якая паступова ўваходзіць у новае эстэтычнае асяроддзе. Кінематографу патрэбны абгрунтаваныя веды пра культуру народа і яе вытокі. Яму патрэбны творцы — асобы з асэнсаванай грамадзянскай і мастакоўскай пазіцыяй. Можа, тады ад фіксацыі падзей мінуўшчыны ён пяройдзе да іх мастацкага асэнсавання — да кіно, якое, дзякуючы сваім агромністым магчымасцям, сыграе не апошнюю скрыпку на нашым шляху да адраджэння.

**Ніна ФРАЛЬЦОВА**

# ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Прыемна, што беларуская гістарычная навука, супольнасць вучоных-гісторыкаў паварочваецца аблічам да патрэбаў грамадства, адкрывае белыя плямы нашых дзеяў, дапамагае народу ў нялёгкую хвілю выбару лёсу знайсці апірышча ў слаўнай мінуўшчыне Беларусі. Сведчаннем добрага зруху — ладжаныя Аддзелам гісторыі Беларусі эпохі феадалізму Інстытута гісторыі АН БССР чытанні «Народы Усходняй Еўропы ў барацьбе за дзяржаўную незалежнасць. З нагоды 580-годдзя Грунвальдскай бітвы». Чытанні прайшлі 26 снежня 1990 г., сабралі тых, каму ёсць што сказаць, і ўдзячных слухачоў, сярод якіх, і гэта вельмі істотна, былі настаўнікі, студэнты, людзі тэхнічных прафесіяў.**

**Так сталася, што спавешчанні ды выступы, часам падкрэслена дыскусійныя, трактавалі розныя моманты барацьбы за сваю незалежнасць менавіта Беларусі. Але пэўнае звужэнне тэмы, заяўленай у абвестцы, здаецца, пайшло на карысць слухачам: яны атрымалі аб'ёмнае ўяўленне пра наш цяжкі і доўгі шлях да свабоды.**

**Сярод больш спецыяльных выступаў хочам адзначыць цікавае спавешчанне Уладзіміра Кароткага «Праблемы нацыянальнага і дзяржаўнага адзінства ў творчасці П. Скаргі і М. Сматрыцкага», дзе вучоны заклікаў разглядаць канфесійныя праблемы ў кантэксце адпаведнай эпохі; герой спавешчання Віктара Пасталіцы — удзельнік Кулікоўскай бітвы князь Баброк-Валынскі.**

**Чытанні на добрай ноце скончыў Валянцін Голубеў. Ён прасачыў пераемнасць традыцыі незалежнай дзяржаўнасці ад Полацкага княства праз Вялікае княства Літоўскае і паўстанні XIX ст.— да БНР, БССР і будучай Рэспублікі Беларусі, над праектам канстытуцыі якой працуе творчая група Вярхоўнага Савета.**

**Друкуем фрагменты некаторых выступаў.**



**ПАВЕЛ ЛОЙКА,**
**кандыдат гістарычных навук:**

Калі ў нас з'явіліся нейкія парасткі эканамічнага і палітычнага суверэнітэту, то пра нацыянальнае адзінства беларусаў, якое павінна замкнуць трыяду, гаварыць не даводзіцца. Менавіта ідэя еднасці закладалася як галоўная ў сённяшнюю сустрэчу. Ідэя той еднасці, якая дапамагла продкам нашым выстаяць супраць варожых нашэсцяў, выжыць на еўрапейскім «скразняку». Таму мы сёння радыя вітаць у гэтай зале ўсіх тых, хто нясе ў свет шырокі слова, веды, хто гадуе грамадства. Аб'яднанымі намаганнямі мы далучым дзяцей, унукаў нашых да прыгожых і чыстых крыніцаў беларускай гісторыі, культуры, выхаваем іх на гераічных здабытках продкаў. І калі, завітаўшы ў дзіцячы садок, пабываўшы ў школе, пагутарыўшы са студэнтамі, адчуем, што сустрэліся з **беларусамі**, тады мы зможам годна зірнуць адзін аднаму ў вочы і сказаць: ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.

**МІХАСЬ ТКАЧОЎ,**
**доктар гістарычных навук:**

# «За няпоўныя сто гадоў — сто сорак крыжацкіх паходаў...»



XIV стагоддзе было нейкім ненармальным векам. Гэта век, калі мітусілася ўся Еўропа, калі ідэі рыцарства падымалі на крыло прадстаўнікоў дваранскіх сем'яў розных зямель Іспаніі, Партугаліі, Італіі, Францыі і г. д., і ўсе яны шукалі баявых подзвігаў менавіта на ўсходзе Еўропы. Слава непрыступных замкаў Беларусі даходзіла нават да Англіі. Кожны рыцар меў за гонар схадзіць у паход на непрыступны Гартэн (Гародню), які не паддаваўся наступу гэтых страшных сілаў.

Пры тлумачэнні прычынаў таго, што нашы продкі адстаялі сваю незалежнасць ад тае навалы, перш хачу падкрэсліць: пры зліцці эканамічнага, вайсковага, культурнага патэнцыялу беларускіх і літоўскіх земляў у XIII ст. ўтварыўся іх палітычны і эканамічны сімбіёз. Гэта было аб'яднанне не мечам, можна сказаць, у значнай ступені не мечам. Гэта было аб'яднанне на падставе **рада**, дагавору, які, у адрозненне ад нашых сённяшніх дакументаў, быў вельмі лаканічны. Ён гучаў так: не рухаці старыны, не ўвадзіці навіны, а на вайну разам.

Літоўцы атрымалі з рук беларусаў абсалютна гатовыя інстытуты ўлады: судаводства, юрыспрудэнцыі, вайсковай справы; традыцыі будаўніцтва магутных замкаў. Дзесяткова-соценная вайсковая сістэма, якая існавала на старабеларускіх землях з вельмі аддаленых часоў, арганічна злілася з ваеннай структурай арганізацыі абароны краю ў Літве. У складзе Беларусі было больш за 30 гарадоў, у той час калі Літва практычна не мела яшчэ ніводнага горада. 9/10 насельніцтва Вялікага княства Літоўскага складалі этнічныя беларусы, нашыя з вамі продкі, якія моцай свае зброі, сваім талентам працістаялі той самай заходняй навале.

Аснову войска складалі гарадскія апалчэнні Беларусі; простыя воі — сяляне, служылыя баяры. Нямецкія дакументы XIV — XV стст. называюць у беларуска-літоўскім войску наступных людзей: баяры (нобілі), людзі асабіста вольныя, слугі (кнехты), смерды-сяляне (іх храністы звалі чамусьці «паганыя») і, урэшце, адпушчанікі (адпушчаныя на волю рабы). Іхнім абавязкам было не толькі ўдзельнічаць у паходах, але і ахоўваць межы дзяржавы. Гэта была так званая «старожа польная», вельмі старажытная павіннасць гарадоў і валасцей выстаўляць на ўзмежжа невяліікія мабільныя групы коннікаў, якія рэгулярна мяняліся.

Дакументы сведчаць, што сітуацыя вымагала ад вялікіх князёў максімальных высілкаў пры арганізацыі абароны краю і паходаў у адказ углыб рыцарскіх земляў. Вітаўт нават пастанавіў, што кожны баярын абавязаны быў з'яўляцца на службу толькі конна. Калі ж нехта каня не меў, мусіў прадаць у рабства жонку і дзяцей, але каня купіць. Магчыма, гэтае паведамленне нямецкага храніста ў нечым перабольшвае сітуацыю, але ад ісціны яно недалёка.

Першымі, хто прыняў на сябе ўдары наваяўленага воінства, былі Полацкія землі ў Падзвінні, там, дзе знаходзіліся вядомыя Ерсіка і Кукенойс. Гэтыя землі Латгаліі былі падпарадкаваныя Полацку, кантралявалі вельмі важны гандлёвы шлях, багаты шлях, які адкрываў дарогу не толькі купцам, але і агрэсіі супраць Полацкай зямлі, на Віцебшчыну, на Смаленшчыну і далей — у Масковію. Полацкі князь Уладзімір процістаяў гэтай сіле даволі ўдала; не можам мы забыць імя і князя Вячкі, які на латгальскіх землях сцягаў славу свайму мячу. Мы павінны ўспомніць палачанаў, гаворачы пра вядомую бітву ля воз. Дурбэ ў 1260 г., дзе крыжакі былі разбітыя ўшчэнт; і пра бітву 1261 г. пад Ленавардэнам, дзе крыжакі таксама былі павернутыя назад.

Пасля гэтага пачаліся таранныя ўдары лівонцаў у сцены славутага Полацка (гэта паходы 1333, 1334, 1366, 1382, 1386 гг.). У прамежку паміж гэтымі штурмамі ды аблогамі Полацка адбыліся каласальнай важнасці бітвы. Гэта перш за ўсё бітва на рацэ Стрэве ў 1348 г., дзе аб'яднанае беларуска-літоўскае войска на чале з Альгердам і Кейстутам процістаяла аб'яднанаму войску рыцараў практычна ўсёй Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Паводле звестак нямецкага храніста, на полі бітвы было больш за 40 тыс. рыцараў на чале з магістрам Тэўтонскага ордэну, якія прыйшлі сюды не толькі з Нямеччыны, але з Францыі, з Чэхіі, а нават з Англіі. Храніст кажа, што аснову ваярства Беларуска-Літоўскае дзяржавы складала ваеннае апалчэнне, гараджане Полацка, Берасця, Віцебска, Смаленска, а таксама Уладзіміра-Валынскага. Іх было не менш за 40 тыс. Мусім прызнаць, што гэта была адна з найбуйнейшых еўрапейскіх бітваў, якая па гістарычнай значнасці ненашмат саступае, а, можа, стаіць упоравень з Кулікоўскаю бітвай. Перамога на гэтым «полі брані» зачыніла дарогу далейшай экспансіі крыжакоў у бок Смаленшчыны і Масковіі.

Трэба аддаць даніну павагі дзвюм гераічным заставам на Дзвіне — Полацку і Віцебску. Віцебск на тыя часы меў фенаменальныя ўмацаванні: тры паясы мураваных сценаў, якія адзначаны ў «Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх» к. XIV ст. Там быў не толькі Верхні і Ніжні замак, але на Верхнім замку яшчэ першапачатковае гарадзішча таксама было абнесена мурамі. Гэты бар'ер крыжакі не змаглі пераадолець некалькі стагоддзяў; больш таго, за ўвесь час існавання Віцебска замак быў узяты толькі раз — у 1654 г.

Хачу сказаць пра яшчэ адзін горад, які мы па праву лічым у значнай ступені калыскай беларускай дзяржаўнасці наступнага за Полацкам этапу — пра Наваградак. Гэта адзін з першых нашых гарадоў, які сутыкнуўся з крыжакамі Лівонскага ордэну. У 1250 г. магістр Лівоніі Андрэй фон Штырлянд, спаліўшы па дарозе ўсё, што можна было, прайшоўшы праз Смаргоншчыну, Крэва, ля Іўя, пачаў аблогу Наваградскага замка. Людзей рыцары, як паведамляе храніст, свабодна рэзалі, як быкоў, не шкадуючы ні жанчын, ні дзяцей. Вось такі быў уступ да вялікай трагедыі, якую мы спынілі толькі ў 1410 годзе.

Чарговы наступ на Наваградак адбыўся ў 1314 г., калі магістр Генрых фон Плотке пачаў аблогу з дапамогай камнямётаў і шматлікіх штурмаў. Вядомы па Міцкевічавых творах магістр Конрад Валенрод спрабаваў знайсці сваё шчасце пад мурамі гэтага непадступнага замка ў 1391 г. Нарэшце, магістр Конрад фон Юнгінген і маршал Вэрнэр Цытынгер не змаглі ўзяць Наваградак у 1394 г. Ён так і застаўся непрыступнай скалой на шляху агрэсіі.

У гэты час над зямлёй Беларусі, над Панямоннем узыходзіць шчаслівая зорка выдатнага палкаводца беларускай зямлі Давыда Гарадзенскага. Лёс гэтага чалавека непарыўна звязаны з лёсам Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Пскоўшчыны. Не буду сёння распавядаць пра ягонага бацьку Даўмонта, які таксама «сцяжаў славу» пад сценамі Пскова, дзе ён быў служылым князем, скажу пра Давыда. Выгадаваны ля бацькавага стрэмені, хадзіўшы з ім на лівонцаў, Давыд у 1299 годзе апынуўся ў Гародні. Гэты віцязь закрыў дарогу крыжакам у Панямонне на 25 гадоў.

Больш таго, воі Давыда Гарадзенскага, а гэта пераважна воі з панямонскіх земляў і гарадоў, рабілі кінжальныя рэйды ўглыб Прусіі, яны хадзілі ўглыб Германіі, даходзячы да Брандэнбурга і Франкфурта на Одэры. І там, «на двары» ў крыжакоў, у іх дома, паказвалі, што вайна — гэта дрэнная справа. І немцы гэта рэальна ўсведамлялі, таму што ўжо не жонкі і дзеці гэтых, як яны казалі, варвараў, але ўласныя іхнія жонкі і дзеці крычалі на ўласным падворку, які знікаў з агнём і дымам; наступала кара нябесная.

Давыд Гарадзенскі неаднойчы прыходзіў на дапамогу пскавічам, якія лічылі яго сваім князем. З Гародні, прадзіраючыся праз глухія лясныя нетры, ён ляцеў да Пскова, ратуючы сваіх блізкіх, крэўных, сяброў.

Мы ведаем, што жыццё Давыда трагічна абарвалася, калі адзін з польскіх рыцараў, Андрэй Гост, падкуплены крыжакамі, па-здрадніцку, ударам кінжала ў спіну, забіў Давыда — і знішчыў надзею Панямоння і Літвы паспяхова процістаяць далей крыжацкай агрэсіі.

Ключом да земляў беларуска-літоўскага Панямоння з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэну справядліва лічылася Гародня. Ужо ў 1284 г. крыжакі першы раз раптоўна напалі на Гародню і, дзякуючы здрадзе двух бартаў, якія нядаўна перасяліліся з Прусіі, была адчынена брама і замак паў. Але гэта адзін з нямногіх выпадкаў, калі замак быў заняты. Крыжакі зрабілі амаль 20 паходаў на Гародню, аднак замак узялі толькі тройчы, і штораз прычынаю была не слабасць абароны, а здрада ці іншая прычына.

Доўга здавалася неверагодным, як мог тагачасны горад выстаяць супраць камнямётных машын і таранаў, супраць актыўнага штурму рыцараў, якія ведалі тактыку ўзяцця розных гарадоў і замкаў. Археалогія адказала на гэтае пытанне.

Апошнія пяць гадоў на тэрыторыі Гарадзенскага замка вялі раскопкі археолагі з Рэспубліканскіх навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань на чале з А. Трусавым, ленінградскія археолагі на чале з нябожчыкам П. Рапапортам, група Гарадзенскага універсітэта, якую ўзначальваў я. Раскопкі адназначна даказалі, што ў той час Гародня была ўнікальным паселішчам: цэнтрам надзвычай высокай культуры, своеасаблівай архітэктурнай школы.

Аднак самае цікавае тое, што Гародня — горад унікальны на ўсходняй славяншчыне: ён меў **мураваныя** абарончыя сцены і мураваныя абарончыя вежы, пабудаваныя з плінфы і валуна. Тэхніка муроў-

кі была абсалютна такая, якую мы сёння бачым, падышоўшы да сцяны Каложскай царквы. Гэта было настолькі нечакана, што акадэмік Ліхачоў адразу не паверыў. Ва Уладзіміры, у Кіеве толькі брамы былі мураваныя, як, прыкладам, Залатая брама ў Кіеве. Але каб цэлы дзяцінец быў абнесены мурам — такога нідзе не было! Менавіта гэтыя сцены вельмі доўга ратавалі замак ад крыжацкіх штурмаў, пакуль у к. XIV ст. падчас вялікага пажару замак не выгараў, не прыйшлося гэтую сцяну скінуць і паставіць мур, які мы бачым сёння.

Так што непрыступнасць Гародні тлумачыцца вялікім умельствам мясцовых дойлідаў, якія закавалі ў мураваную браню персі гэтага непрыступнага горада. І аб іх паламалі мячы і дзіды і рыцары нямецкіх земляў, і англічане, якія прыходзілі сюды пад сцягам Св. Георгія, і французы, і многія-многія іншыя.

Мы яшчэ не ўсё ведаем. Мы да нядаўна не ведалі, што і крэўскія сцены паспыталі на сабе ўдары рыцарскіх камнямётаў: аніводная рыцарская хроніка не кажа пра гэта. Але раскопкі, якія правялі А. Трусаў, Г. Сагановіч, я, дапамаглі знайсці каменныя ядры пад замкавымі сценамі ды сляды пажараў.

Я спадзяюся, што наша гісторыя і археалогія яшчэ прыўзнімуць завесу над таямніцай, з-за якой выгляне праўда, і стане нам ясна, чаму мы выстаялі і дзякуючы чаму адраджаемся сёння. Удумайцеся: за няпоўныя сто гадоў было сто сорак паходаў,— і вы зразумееце, чаму наш народ так шанаваў, так любіў Пагоню, чаму ён гэты сімвал захаваў да нашых дзён. Давайце не забываць тую баявую мінуўшчыну, каб яна была вялікай навукай і нам, і тым, хто шукаў шчасця пад нашымі сценамі, ды не знайшоў. У гэтым вялікая Боская ісціна: шчасце — там, дзе жыве твой свабодны і незалежны народ.



**ГЕНАДЗЬ САГАНОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук:**

## «Тэрмін «нашэсце мангола-татараў на Беларусь» — надуманы»

Пытанне ўзаемадачыненняў мангола-татараў і княстваў на тэрыторыі цяперашняй Беларусі ў XIII ст. вельмі важнае, паколькі з адказам на яго звязваюць тлумачэнне далейшых гістарычных лёсаў беларусаў, звязваюць формы і шляхі ўтварэння Вялікага княства Літоўскага.

Сведчанняў пра гэтыя дачыненні мала, у асноўным гэта неадназначныя і глухаватыя паведамленні летапісаў, перадусім Хронікі Лі-

тоўскай і Жмойцкай ды Хронікі Быхаўца, якія ўвайшлі потым у Хроніку Мацея Стрыйкоўскага, у працы Тэадора Нарбута, М. Балінскага ды іншых. Найбольш каштоўнае і ранняе паведамленне — гэта запіс у Іпацеўскім летапісе пад 1240 г.: «Данилови же, со братом пришедшу ко Берестью, и не возмогоста ити в поле, смрада ради множьства избьенных».

Прынята лічыць, што гэта справа татараў — «мноства ізбіенных». Магчыма. Але ёсць падставы і для сумневу. Калі гэта татары, дык чаму ў 1240 г., а не ў 1241, да пачатку якога яны былі занятыя вайной у Паўднёва-Заходняй Русі, дастаткова далёка ад Берасця; калі гэта татары, дык чаму не з агульнапрынятай для іх тактыкай знішчэння цэлага горада; чаму гэта не можа быць справай іншых?.. Паходы літвы, яцвягаў, Польшчы, галіцка-валынскіх князёў, князёў Чорнай Русі адзін на аднаго адбываліся вельмі часта, і Берасце стаяла фактычна адкрытым на шляху кожнага з іх.

Далейшыя паведамленні летапісаў вельмі падобныя. Хроніка Літоўская і Жмойцкая за 1258 г. паведамляе, што князь Радзівіл прыйшоў у Панямонне, адбудаваў там сабе замак у Наваградку, які ляжаў пабураны Батыем, а пасля знайшоў пабураныя праз таго ж Батыя Берасце, Дарагічын, Сураж, Бранск, Бельск і таксама адбудаваў. Амаль тое самае — у Хроніцы Быхаўца.

Гэтае паведамленне адразу здаецца непраўдападобным. Які Радзівіл у XIII ст.? Чаму літоўскі князь адбудоўваў Бранск, Бельск, іншыя гарады, якія ляжалі далёка на захад?

Тая ж Хроніка Літоўская і Жмойцкая піша, што ў 1263 г. хан Кідан, унук Батыя, заняволіў тэрыторыю Беларусі, а калі даведаўся, што яе ж падпарадкоўвае Радзівіл, дык прыйшоў да Мазыра ваяваць, і Радзівіл з войскам разбіў Кідана ля вусця Прыпяці. У 1272 г., паводле Хронік Літоўскай і Быхаўца, хан заволжскі Балаклай запатрабаваў у Скірмунта, князя літоўскага, даніну, і калі той адмовіўся, Балаклай на «яго пайшоў вайною», і ля Койданава нібыта Скірмунт ушчэнт разбіў Балаклая. Паводле іншых версіяў, гэта быў не Балаклай, а Кайдан, ад імя якога нібыта паходзіць назва Койданава.

Аніводная з гэтых постацяў — не гістарычная.

У 1276 г., таксама паводле Хронікі Літоўскай і Жмойцкай, хан Курдан, сын забітага Балаклая, помсцячы, прыйшоў і спустошыў беларускія землі, а Транята сабраў князёў, дружыны іхнія, і яны разам разбілі Курдана над Акунеўкаю за Мазыром. І, нарэшце, у 1284 г. нібыта князь Рынгальд разбіў татараў Курдана пад Магільнам на Нёмане. Ізноў — міфічныя постаці...

Цікава, што ва ўсіх гэтых прыкладах ёсць агульнае. Усе яны паказваюць, што беларускія землі былі заваяваныя, падпарадкаваныя літоўскімі князямі ў супрацьборстве з мангола-татарамі; усе яны датуюцца часам пазнейшым, чым часы паходаў Бату-хана; нарэшце, ва ўсіх выпадках літоўскія князі перамагаюць. Няўзброеным вокам відаць, што гэта — схема-штамп ідэалагізацыі гісторыі, гэта легендарныя сюжэты, прыдуманыя хутчэй за ўсё ў XVI ст. дзеля гераізацыі літоўскіх князёў і тлумачэння, чаму яны павінны валодаць на Беларусі.

Можна было б звярнуцца да археалагічных матэрыялаў. Археалогія таксама маўчыць: на Беларусі не выяўлены матэрыялы, якія б фіксавалі катастрофу гарадоў, што гінулі ад дзікіх азіятаў. Няма і блізка таго, што ёсць у Таржку, Казельску, Разані, Кіеве ці іншых гарадах, знішчаных мангола-татарамі, гарадах, якія былі ў зоне панавання Батыя.

Татары сапраўды маглі апынуцца на Беларусі, прынамсі, у 1238—1240 гг., калі яны былі зусім блізка, падбіваючы Чарнігаў, Пераяслаў, нішчачы гарады на Дзясне. Да Гомлі было недалёка, і шлях гэты не меў сур'ёзных прыродных перашкодаў.

Татары маглі б уварвацца на Беларусь і пасля захопу Кіева. Калі ў к. 1240 - пач. 1241 гг. яны адпачывалі каля Уладзіміра-Валынскага, дык, напэўна, рабілі рэйды ў вялікім радыусе. Калі зыходзіць з таго, што татараў перад Уладзімірам-Валынскім было каля 100 тыс., як цвердзяць шматлікія аўтары, то коняў у іх мела быць утрая болей: кожны татарскі вой меў сама меней двое-трое коняў. Гэтая арда не магла сябе пракарміць на месцы і мусіла пасылаць вялікія аддзелы для нарыхтоўкі фуражу альбо бесперапынна рухацца. Аднак больш праўдападобныя сведчанні кажуць, што тут, пад Уладзімірам-Валынскім, магло быць не больш за 40—50 тыс. татараў — гэтулькі было пад Кіевам. Яны штурмавалі Кіеў, і нелагічна дапускаць, што пасля штурму, пасля стратаў іх пабольшала ўдвая.

Гэтая групоўка татараў пасля Уладзіміра-Валынскага на пач. 1241 г. рушыла на Польшчу, Венгрыю, Чэхію. Прыблізна 10 тыс. павёў Орду на Польшчу, астатніх хан Батый скіраваў на Венгрыю. Ёсць версія, што ад «польскай» групоўкі аддзялілася частка, якая пайшла сваім шляхам праз Чорную Русь, Прусію, Яцвезь на Уроцлаў. Гэтую версію падтрымліваюць некаторыя польскія і нямецкія гісторыкі. Нямецкім яна асабліва імпануе, бо дае магчымасць сцвярджаць, што ў барацьбе з азіяцкім нашэсцем бралі ўдзел крыжакі. Але, на жаль, ані беларуска-літоўскія летапісы, ані кронікі польскія ці нямецкія не падаюць канкрэтных матэрыялаў на карысць гэтай версіі.

Такім чынам, у часе мангола-татарскага нашэсця ў сярэдзіне XIII ст. беларускія землі не былі кранутыя. У кожным разе, землі на захад ад Дняпра і на поўнач ад Прыпяці не зведалі лютасці мангола-татараў. Вядома, даволі дзіўна, чаму Беларусь, каля якой гэтак блізка былі «непераможныя» войскі Батыя, засталася некранутая. У агульнапрынятай, традыцыйнай гісторыяграфіі называліся розныя прычыны.

Гаварылася, што татары не прыйшлі сюды таму, што яны былі знясіленыя барацьбой з рускімі княствамі. Няпраўда. Як жа — знясіленыя, калі пасля Кіева яны мелі яшчэ 40—50 тыс.— гэта не менш, чым на самым пачатку нашэсця, калі яны ішлі на паўночна-ўсходнія княствы! Яны ж прайшлі-пранесліся яшчэ і па Еўропе — практычна без стратаў і паразаў, і невядома, што было б, калі б не памёр вялікі хан і яны не сталі тэрмінова вяртацца.

Сярод прычынаў называлася ваенная моц нашых земляў. Але ж моц гэтая была адносная: тут яшчэ не было еднасці, княскія дружыны былі малалікія. Не думаю, што Беларусь магла б выставіць большую сілу, чым тыя ж еўрапейскія краіны або княствы паўночнага ўсходу.

У ліку прычынаў называецца тое, што з беларускімі землямі ў саюзе была Літва, як быццам вельмі моцная ў вайсковым сэнсе. Але праз нейкі час сюды прыйшоў са значна меншымі сіламі хан Бурундай і не сустрэў вялікага супраціву.

І яшчэ адзін аргумент: татары не ішлі сюды таму, што ім не было чаго рабіць у густых лясах Беларусі пасля прастораў Украіны. Але чаму ж яны хадзілі ў не менш лясістыя землі паўночнага ўсходу?

Думаю, што не тут трэба шукаць тлумачэння, чаму Беларусь абышло нашэсце сярэдзіны XIII ст. Былі нейкія ўнутраныя прычыны. А мангола-татары з'явіліся на Беларусі ажно праз 20 гадоў, у 1259 г. Калі князі літоўскія выявілі ініцыятыву ды актыўнасць на Смаленшчыне

і ў кірунку да Кіева, тады залатаардынскія ханы паслалі на Беларусь вялікую сілу з ханам Бурундаем на чале. Той дзейнічаў разам з галіцка-валынскімі князямі Данілам і Васількам. Як піша Наўгародскі летапіс, «взяша татарове всю землю Литовскую, а самих избиша».

Наступнае ўварванне татараў на Беларусь разам з рускімі князямі адбылося пазней, у 1275 г. Праз два гады на просьбу маладых галіцка-валынскіх князёў сюды ўварвалася нагайская арда, якая ўдарыла па Навагрудку і Горадні. Вось, бадай што, і ўсе ўварванні мангола-татараў на Беларусь у XIII ст.

Такім чынам, тэзіс старой гісторыяграфіі пра тое, што мангола-татарскае нашэсце спрыяла «захопу беларускіх земляў літоўскімі феадаламі» і таму нібыта мела непасрэдны ўплыў на ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага, не адпавядае гістарычнай рэальнасці. Думаю, што сам тэрмін «нашэсце мангола-татараў на Беларусь» — надуманы. Сама больш можна гаварыць пра наезды, уварванні.



**ВОЛЬГА ІПАТАВА,**
**пісьменніца:**

## «Змаганне за незалежнасць — гэта і барацьба за культуру»

Хачу падзяліцца ўражаннямі, якія ўзніклі ў мяне за два гады працы ў часопісе «Спадчына» і над гістарычна-асветніцкай тэлепраграмай «Спадчына». З апошняй былі вялікія цяжкасці, бо першыя часы даводзілася ламаць лёд абыякавасці, татальнага нігілізму, якім і нашае ТБ, і многія па назве беларускія газеты заражаны ў дачыненні да нацыянальнай гісторыі. Да таго ж амаль абавязкова два гады таму на кожную перадачу прыходзілі лісты, гэта значыць не ЁЙ прыходзілі лісты, а НА ЯЕ. Прычым спачатку слалі ў ЦК КПСС, газетам «Правда» і «Известия» і копію — у КДБ, але прайшоў год, і лісты пайшлі чамусьці ўжо на адрас ЦК КПБ, райкам партыі... Аднак копія — па-ранейшаму ў КДБ. Пісалі, якія нацыяналістычныя гэтыя праграмы.

Апошнія паўгода такія лісты перасталі ісці, затое значна пабольшала допісаў ад людзей, па-сапраўднаму зацікаўленых беларускай гісторыяй, лістоў удзячных, лістоў з пытаннем, з праблемай... Па лістах можна назіраць дынаміку росту цікавасці нашага народу да гісторыі, агульную змену настрояў. Можна вызначаць, якія пытанні найбольш хвалююць, дзе балючыя кропкі.

Перадача, прысвечаная уніяцтву, выклікала найбольшую коль-

касць водгукаў — і прыхільных, і рэзка адмоўных. Гэта натуральна, бо тэма абсалютна невядомая большасці нашага грамадства і надта важная. Парадаксальна, але гвалтоўная русіфікацыя, якая ішла ўслед за уніяй, зрабіла «палякамі» амаль мільён беларусаў.

Сведчанне гэтаму — Віленскі край, які ва ўсіх афіцыйных звестках сёння падаецца як асяродак польскіх праблемаў, і няма каму сказаць, што гэта і беларуская праблема. А падобную сітуацыю мы можам мець і на Гарадзеншчыне, бо адбываецца паланізацыя гэтага краю.

Праблемаў шмат. Нам важна навязаць добрыя дачыненні з нашай эміграцыяй, якая шмат зрабіла для беларускай гістарычнай навукі. Людзі гэтыя засведчылі любоў да Бацькаўшчыны і там, у выгнанні, і нам бы хацелася мець магчымасць друкаваць іхнія гістарычныя працы. І яшчэ праблема. Беларусь заключыла дагавор з Расіяй, напэўна, будуць нейкія наступныя дагаворы, але чамусьці ніхто — ні пісьменнікі, ні гісторыкі — не настаялі, каб у дагаворах акрэслівалася пытанне пра зварот нашай культурнай спадчыны. Нашыя скарбы вывозіліся ў Расію і ў XIX ст., і раней, вывозіліся Археаграфічнай камісіяй кнігі, царкоўны рыштунак, творы мастацтва... Усё гэта асела часта непатрэбным там грузам у бібліятэках, архівах, музейных запасніках. Але дагаворы заключаюцца — і мы маўчым... Ды змаганне за незалежнасць — гэта не толькі бітвы, гэта і барацьба за мову, за веру, за культуру.



**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук:**

## «Адлік дзяржаўнасці — з Рагвалода»

Гісторыю барацьбы за дзяржаўную незалежнасць Беларусі трэба пачынаць адтуль, адкуль пачалася сама беларуская дзяржава. А ўзнікла яна, і пра гэта, урэшце, сёння трэба казаць, у тыя часы, калі на Беларусі, у Полацку, з'явіўся першы князь Рагвалод і ягоная знакамітая дачка Рагнеда. Гэта X стагоддзе. Чаму кажам аб дзяржаўнасці Беларусі, на Беларусі ўжо ў тыя часы?

Паглядзіце, якая карціна складалася ў тагачаснай Еўропе. Франкі яшчэ ў III ст. ад Н. Хр. на землях Галіі стварылі першыя племянныя аб'яднанні, а ў VI ст., паводле выразу Маркса і Энгельса, перажывалі родавыя мукі складання феадальнай дзяржавы. Ужо ў VI ст. існавалі

каралеўствы Бургундскае, вест-готаў, якія пазней трапілі пад уладу франкаў. У спрэчках за ўладу Брытанія ішла да ўтварэння дзяржавы ў IX ст. У геаграфічна блізкай да славянскіх земляў Скандынавіі ўтварэнне дзяржаваў прыпадае на X ст.; тут ужо ў VIII — IX стст. вылучаюцца буйныя палітычныя цэнтры — у Даніі, Швецыі і Нарвегіі. Заснаванне Польскай дзяржавы можна аднесці да 60-х гг. X ст., калі Мешку-Мечыславу з дынастыі Пястаў удалося замацавацца на Вялікапольшчы. У X ст. з Франкскай імперыі вылучаецца ўсходнефранкская дзяржава; ад першай саксонскай дынастыі Генрыха Птушкалова пачынае існаванне нямецкая тэўтонская дзяржава.

І вось — на гэтым фоне — у Полацку ў 970 г. з'яўляецца Рагвалод, які, паводле летапісу, трымаў, валадарыў, княжыў Полацкую зямлю, г. зн. быў паўнаўладным валадаром гэтай зямлі ды існавала зямля, валадаром якой ён быў. Ужо ў сутычцы з Ноўгарадам палачанам давялося адстойваць незалежнасць свайго горада, але горад, як вядома, тады быў спалены, і Рагнеда была прымусам забраная ў Кіеў першаю, ці, паводле іншых звестак, другою жонкаю Уладзіміра; Рагвалода ж забілі. Але працяг палітыкі, скіраванай на дзяржаўную незалежнасць, вялі нашчадкі Рагвалода. Нездарма яны лічылі сябе не Рурыкавічамі, як усе астатнія г. зв. «рускія» князі, а Рагвалодавічамі; і летапіс сведчыць, што «адтуль уздымаюць меч Рагваложыя ўнукі супроць Яраслававых унукаў».

Спадкаемцамі незалежніцкай палітычнай традыцыі былі найперш князь Брачыслаў Ізяславіч і асабліва ягоны сын Усяслаў Брачыславіч Полацкія. Некаторыя гісторыкі лічаць, што Усяслаў адзначыў свой шлях шматлікімі войнамі; сапраўды, гэтыя войны ішлі з 1065 па 1078 г. Але, як слушна ў свой час заўважыў Данілевіч, гэтыя 13 гадоў у параўнанні з 57-мю гадамі княжання Усяслава ў Полацку — амаль нішто. Князь бо не толькі адстойваў межы сваёй дзяржавы паходамі на Ноўгарад, Смаленск, Пскоў, але ў першую чаргу будаваў вотчыну сваю, складаў і збіраў землі свайго княства. Акрамя таго, Усяслаў бараніў правы пазбаўленых сваіх спрадвечных вотчынаў: наўгародскага князя Расціслава Уладзіміравіча, Алега Святаславіча Чарнігаўскага, Барыса Вячаславіча Смаленскага. Усяслаў выступіў разам з імі супраць трыумвіру — трох кіеўскіх князёў Ізяслава, Святаслава і Усевалада.

Полацкая дзяржава жыла паўнакроўным жыццём і ў сваім палітычным развіцці значна абышла іншыя ўсходнеславянскія землі. І гэта не дзіва. Яскравым сведчаннем таму — факт, што на знакамітых княжацкіх з'ездах у Любечы ў 1097 г., у Віцічаве ў 1100г., на Долабскім возеры ў 1103 г. ніводнага полацкага князя не было. Чаму іх там не было? Мабыць, таму, што ім не было чаго дзяліць з астатнімі князямі; яны трымалі свае вотчыны і не мелі патрэбы дзяліць уладу і землі з кімсьці іншым.

Полацкае княства было настолькі магутным, што запасу яго трываласці хапіла і на наступныя стагоддзі: на тое, каб супрацьстаяць крыжацкай навале, пазней — навале з боку Маскоўскай зямлі і гэтак далей. І калі мы зараз кажам пра адстойванне незалежнасці, пра дзяржаўнасць Беларусі, дык нам, нарэшце, трэба пачынаць адлік гэтай дзяржаўнасці з тае тысячагадовае мінуўшчыны, з дзяржавы Рагвалода і Усяслава.



**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ,**
**пісьменнік:**

## «Трэба казаць пра акупацыю»

Нам доўга і не без поспеху падсоўвалі прыгожую і смачную, як смактунчык на палачцы, казачку пра тое, што Расія ніколі не мела калоніяў. Думаю, кожны з нас можа знайсці досыць аргументаў, каб гэты вялікадзяржаўны міф абвергнуць, таму абмяжуюся толькі канстатацыяй: адметнасць створанай царызмам каланіяльнай імперыі ў тым, што імперыя гэтая не заморская, як Брытанская, а — кантынентальная. Калоніі былі ў непасрэднай блізкасці ад метраполіі, што дазваляла маскаваць каланіяльную эксплуатацыю, маскаваць як эканамічны прыгнёт, гэтак і прыгнёт духоўны. Геаграфічная, а часам і этнічная блізкасць калоніі да метраполіі давала магчымасць навязаць паняволенаму народу, апроч усяго іншага, яшчэ і чужую гісторыю, падсунуць яму чужых герояў.

Так адбылося і з намі, беларусамі.

Сярэднестатыстычны беларус, нават пабуджаны сярод начы, нешта вам скажа пра Лядовае пабоішча, але і сярод белага дня нічога не зможа прыгадаць пра Грунвальдскую бітву. Сярэднестатыстычны беларус перакананы, што мы зусім заслужана шануем імя Суворава, і паспрабуйце сказаць яму, што Сувораў для нашага народа — гэта душыцель паўстання Касцюшкі і кат, які заліў крывёю нашую зямлю. Ды такі беларус хутчэй дасць веры таварышу Кнорыну, які ў 1928 г. вучыў працоўных, што Скарына — сярэднявечны манах, справа якога нецікавая для пралетарскае культуры. Міфы, міфы — і пячатка «совершенно секретно», дагэтуль не сарваная з нашай праўдзівай гісторыі.

Адзін з такіх міфаў — пра «ўз'яднанне Беларусі з Расіяй».

Беларусы добра памяталі крывавую разню Івана Грознага ў Полацку ў 1563 годзе, памяталі выразаны Шарамецьевым Мсціслаў і тое, як Пётр I і Аляксандр Меншыкаў уласнаручна забівалі уніяцкіх святароў у Сафійскім саборы, памяталі яны і пра тое, як напалову скарацілася насельніцтва Беларусі ў вайне 1654—1667 гг., калі дзесяткі тысячаў беларусаў былі прададзеныя на нявольніцкіх рынках Астрахані па 3 рублі за галаву. Таму ні пра якое імкненне да «ўз'яднання з братнім рускім народам» не магло быць і гаворкі. Ніякіх масавых добраахвотных перасяленняў беларусаў у межы Маскоўскай дзяржавы ў гэты час не было. Былі толькі шматтысячныя палоны, якія выводзілі рускія

ваяводы. Вядома, што цар Аляксей Міхайлавіч меркаваў вывесці ў палон 300 тысяч беларусаў, і, я думаю, гэтыя «велічныя планы» былі паспяхова выкананыя. З другога боку, расейскі гісторык С. Салаўёў паведамляе, што ў 1754 г. урад імператрыцы Елізаветы Пятроўны патрабаваў ад Сойму Рэчы Паспалітае выдаць мільён уцекачоў з Расіі (якія, натуральна, асядалі пераважна на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага).

У канцы XVIII ст. у выніку трох разбораў Рэчы Паспалітае адбыўся захоп беларускіх земляў і гвалтоўнае далучэнне іх да Расіі. Спачатку беларускія гісторыкі казалі пра «ўз'яднанне», потым пачалі казаць пра «далучэнне», «інкарпарацыю», а я думаю, што прыйшоў час назваць рэчы сваімі імёнамі (...)

Колькі словаў пра вынік гэтага акту.

Палітычны аспект. Рэч Паспалітая была па сутнасці сваёй шляхоцкаю рэспублікай. Дзяржаўнае жыццё на Беларусі пасля яе далучэння да Расіі мусіла быць зусім інакшым, бо Расейская імперыя была абсалютысцкаю манархіяй.

Эканамічны аспект. 208,5 тыс. прыгонных «мужеска полу» Кацярына II і Павел I раздалі расейскім памешчыкам. Па душах «мужеска полу» лічыліся сем'і, а ў сям'і было ў сярэднім 4—5 чалавек. Значыцца, больш за мільён беларусаў сталі прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, прычым далёка не ўсе з гэтых сялянаў былі раней прыгоннымі. Адбываўся пераход ад прагрэсіўных да рэгрэсіўных формаў арганізацыі феадальнай эканомікі. Напрыклад, да ўключэння Магілёўшчыны ў склад Расейскай імперыі 60 % сялян плаціла тут чынш, а 40 % працавала на паншчыне. У 20-я гады XIX ст. на паншчыне было занята ўжо 97 % прыгонных.

Яшчэ адзін красамоўны прыклад, які датычыць эканомікі. Да 1811 г. падаткі ў беларускіх губернях дзяржава брала ў звонкай манеце — золатам і срэбрам, у адрозненне ад расейскіх губерняў, дзе бралі асігнацыямі. Неафіцыйны курс быў 100 руб. асігнацыямі за 22 руб. срэбрам; такім чынам, падаткі на нашых землях былі ў 4—5 разоў цяжэйшыя.

На змену прафесійнаму войску Вялікага княства Літоўскага прыйшлі рэкруцкія наборы, якіх беларускія землі дагэтуль не ведалі. Да 1793 г. рэкруты служылі ўсё жыццё, у 1793 г. тэрмін быў абмежаваны 25-ццю гадамі, наступнае абмежаванне — да 20-ці гадоў — адбылося толькі ў 1834 г.

Цяпер пра тыя вынікі, якія Абэцэдарскі ды ягоныя паплечнікі называлі вызваленнем ад нацыянальнага ды рэлігійнага прыгнёту. Наконт вызвалення ад прыгнёту нацыянальнага я ўжо сказаў, гаворачы пра мільён беларускіх прыгонных; наконт вызвалення ад прыгнёту ідэалагічнага тут гаварыла спадарыня Вольга Іпатава (у прыватнасці, пра гвалтоўнае скасаванне уніі ў 1839 г.). Крыху дадам. У канцы XVIII ст. праваслаўных жыхароў Беларусі было 6,5 %, уніятаў — каля 80 %. Разам з пераводам нашых продкаў з уніі ў праваслаўе знішчаўся велізарны пласт беларускае культуры. На «ніве» гэтага дратавання асабліва вылучыўся епіскап полацкі Сава. Гэта быў фанатык, чалавек з вузкім мысленнем. Самі ж праваслаўныя гісторыкі вымушаныя былі прызнаць яго, уладзімірца па нараджэнні, нянавісць і антыпатыю да ўсяго мясцовага — пачынаючы ад абрадаў і царкоўнага абсталюнку і да людзей, якія выяўлялі хоць нейкую незалежнасць у думках і дзеяннях.

Дык вось, у часе дзейнасці Савы спіжарні, гарышчы і сутарэнні

ўсіх беларускіх храмаў былі перапоўненыя ўніяцкаю скульптурай. Хоць, калі Сава быў вікарыем маскоўскім, напэўна ж, сам цалаваў статую Міколы Мажайскага, якую праваслаўныя ўважаюць за цудатворны абраз.

Уніяцкая скульптура пераважна загінула ў агні. Адбываліся тады і такія блюзнерскія акцыі, як распілоўка уніяцкіх укрыжаванняў. Уніяцкія ўкрыжаванні XVIII ст. адрозніваюцца ад праваслаўных тым, што ногі Хрыста прыбітыя адным цвіком. Паколькі знішчэнне ўкрыжаванняў магло папросту выклікаць паўстанне, Сава загадаў распілоўваць ім ногі. У той час хадзіў анекдот, надрукаваны ў «Церковно-общественном вестнике» за 1879 г.: «На некотором обеде одно высокопоставленное лицо выразило сожаление, что не прибыл владыка Н.— Недосуг ему,— отвечало другое высокопоставленное лицо,— занят весьма важным делом.— Каким таким важным делом? — Спасителю ноги распиливает».

Вось так дзейнічалі эмісары Рускай праваслаўнай царквы на нашых землях.

Дарэчы, у некаторых уніяцкіх храмах былі знішчаныя бакавыя алтары, перакладалі — у адпаведнасці з праваслаўнымі канонамі — нават падлогу. Абразы італьянскай ды іншых заходнееўрапейскіх школаў ацалелі толькі таму, што ў адваротным выпадку іх давялося б выносіць з цэркваў або перамалёўваць. І тым не менш па загадзе Савы з полацкага Мікалаеўскага, ужо праваслаўнага, сабора, які раней быў касцёлам Св. Стафана, быў вынесены і загінуў абраз «Пабіццё Св. першапакутніка Стафана каменнем», што прыпісваўся Сальватору Розу.

Такім чынам, у канцы XVIII ст. Беларусь была акупаваная царскімі войскамі і стала кантынентальнаю калоніяй імперыі.



**ВАСІЛЬ МЯЛЕШКА,**
**доктар гістарычных навук:**

## «Праблема вайны 1654—1667 гг. заслугоўвае перагляду»

Я хачу спыніцца на адным з сюжэтаў, звязаных з вайной паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у 1654—1667 гг.

Антыфеадальная вайна 1648—1653 гг. паказала, што толькі сваімі сіламі народныя масы не змогуць вызваліцца ад цяжкага феадальнага прыгнёту. Не выпадкова, калі 21 мая 1654 г. пачалася вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай і рускія войскі ўвайшлі на тэрыторыі

Усходняй Беларусі, беларускія сяляне аказвалі ім актыўную падтрымку. Яны нават сумесна з рускімі «ратнымі людзьмі» выступалі супраць шляхецкага апалчэння і наёмнага войска.

Перад пачаткам вайны цар Аляксей Міхайлавіч, які выдаваў сябе за абаронцу інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва, многае абяцаў тым, хто не будзе ставіць апор і пяройдзе на бок Расіі. Асабліва цар прылашчваў абяцаннямі шляхту, якую разглядаў як сваю сацыяльную апору.

Такія захады царскага ўраду не маглі не паўплываць на настроі насельніцтва. Не толькі сяляне, многія гарады, але і шляхта пераходзіла на бок Расіі. На гэты конт гетман Я. Радзівіл заўважыў у лісце да караля, што пад «царскую руку не толькі чэрнь, але і чыну рыцарскага людзей многа абарачаецца».

Падтрымка мясцовага насельніцтва дазволіла рускаму войску да канца 1655 г. заняць амаль усю тэрыторыю Беларусі. У 1654—1655 гадах сяляне папаўнялі ўкраінскія казацкія атрады, ствараліся самастойныя беларускія атрады і нават палкі, якія актыўна змагаліся супраць феадалаў. Ёсць усе падставы назваць гэты час этапам антыфеадальнай барацьбы.

Наступ рускай арміі, як сведчаць афіцыйныя крыніцы, суправаджаўся рабаваннямі, гвалтам з боку служылых людзей-дваран і дзяцей баярскіх. Масу беларусаў гналі ў палон углыб Расіі, прычым і тых, хто прымаў прысягу на вернасць маскоўскаму гаспадару. У верасні 1654 г. са скаргай да цара звярнуліся сяляне розных вёсак Любавіцкага стану Аршанскага павету: «Как мы, сироты твои, прослышали твое государево пришествие, и мы, сироты твои, тебе государю с хлебом и с солью били челом. А ныне у нас, сирот твоих, женишка и детишка все без вести распропали, потому что побрали твои государевы люди и развезли по разным полкам и к тебе государю под Смоленск, а животишка, статки все у нас и скотину и хлеб поимали, и домишка пожгли, скитаемся по лесам нагие и босые, сидим на пепелище, с холоду и голоду вконец погибли и разорены до основания».

Накіроўваючы ў жніўні 1655 г. у цэнтральныя раёны Беларусі вялізнае войска пад камандаваннем ваяводы А. Трубяцкога, Аляксей Міхайлавіч загадаў яму разбураць і паліць усё на сваім шляху. Больш таго, каб шырэйшыя былі разбурэнні, цар загадаў ратным людзям «назад итти целыми, жилыми месты».

Загад гэты Трубяцкі выконваў бездакорна. У сваім допісу цару ён паведамляў: да Слуцка падышлі 23 жніўня, але «городецкие люди» здаць горад адмовіліся. Тады «мы... велели Слуцкие посады и слободы все выжечь» і пайшлі да Слоніма 26 жніўня. А «идучи дорогою, села и деревни и хлеб и сено и всякие конские кормы мы... по обе стороны жгли и людей побивали и в полон имали, и разоряли совсем без остатку, и по сторонам потомуж жечь и разорять посылали». У Клецку — самым горадзе і пасадзе — «твои государевы люди... литовских людей побили всех». Падобна — у мястэчку Мыш, у Ляхавічах, у Сталавічах...

Па загадах цара былі спалены таксама Бабруйск, Глуск, Чавусы, Копысь, Свіслач, іншыя гарады. Усё гэта, натуральна, не магло не памяняць адносінаў сялянства да расійскіх «ратных людзей». Сяляне масава ламалі прысягу, якую раней давалі маскоўскаму гаспадару, стваралі свае атрады і выступалі разам з казакамі І. Нячая супраць грабежніцтва і самавольства маскоўскага войска. Асабліва актыўна

гэтая барацьба разгарнулася на ўсходзе Беларусі — у Віцебскім, Полацкім, Мсціслаўскім паветах.

На такія адносіны народных масаў да рускага войска ўплывала і тое, што рускі ўрад на занятай тэрыторыі Беларусі праводзіў класавую палітыку. Ён цвёрда стаяў не толькі за захаванне, але і за ўмацаванне феадальна-прыгонніцкіх парадкаў. Царызм імкнуўся падтрымліваць шляхту. Рускі ўрад запэўніваў: «Ему, государю, то надобно, чтобы во всяком покое и богатстве жили бы (г. зн.— шляхта — **В. М.**), а не мужики ваши».

Аднак шматлікую шляхту ВКЛ палітыка царызму не задавальняла. Яна выказвала нязгоду з абмежаваннем ранейшых вольнасцяў, з умяшаннем у справы шляхты рускіх ваяводаў, бачыла няздольнасць царскіх уладаў аберагчы яе ад сялянскіх выступленняў.

Стварылася такая сітуацыя, калі частка шляхты і сялянства, што раней перайшла на бок Расіі, адмовілася ад сваёй прысягі маскоўскаму гаспадару і са зброяй у руках выступіла не толькі супраць рускага войска, але і той часткі насельніцтва, якая працягвала падтрымліваць расійскі ўрад. Паміж імі з канца 1655 г. да восені 1658 г. ішла вострая ўзброеная барацьба. Гэты этап, пэўна, можна назваць грамадзянскай вайной.

Надалей падзеі на Беларусі разгортваліся не на карысць рускага войска. І гэта тлумачыцца перш за ўсё ўнутранай антынароднай палітыкай царскай Расіі на беларускіх землях.

Лічу, што праблема вайны 1654—1667 гг. заслугоўвае паглыбленага даследавання і перагляду на многіх пазіцыях.

**Падрыхтаваў В. БЕРАСЬЦЬ**

# АЛЕСЬ ГАРУН
## (АЛЯКСАНДР ПРУШЫНСКІ)

# У гасьцінах у Вільні

## I

Досыць, набожна прамінуўшы Вострую Браму, прайсьціся паўгадзіну па бліжэйшых вуліцах і завулках, каб зразумець той запал, з якім за гэты горад Гедымінаў спрачаюцца палякі, літоўцы і беларусы. У ва ўсей сваей суцэльнасьці Вільня — найбагацейшая памятка ня толькі нашай, але і эўрапейскай мінуўшчыны. «Парыж гардзіўся-бы, маючы ў сваім сэрцы такое старое места»,— пісаў у брашуры, выданай у 1916 г., адзін тубылец, паляк, вяльбіцель [заўзяты аматар.— **Ю. Г.**] Вільні. Праходзячы па яе вузенькіх вулачках, як бы адрываешся ад сучаснасьці, ад мамэнту, і чытаеш, нямогучы адарвацца, пекны гістарычны твор, напісаны вялікім аўтарам. Нават тые будынкі, каторым у расійскі перыод Вільні суджана было быць гнёздамі рэакцыі проці ўсяго, што хацело і мело права жыць у нашым краю, ня маюць тутака таго агіднага характару, які яны мелі-б дзе-небудзь у іншым месцы. Праходзячы каля іх, успамінаем не катаў, а іх шляхетные ахвяры, ня выпадкі, а гісторыю, ня злосьць, але барацьбу.

— Цэрквы і касьцёлы Вільні прыгожые, але не яны даюць характар месту, а яно ім. Яно, гарэўшае заўсёды полымем веры і барацьбы, дало ім па магчымасьці шырокіе пляцы, само сьціскаючыся каля іх у вузенькіе, як для пары людзей разьмінуцца, завулачкі. Яно пастаралося, на сколькі магло, даць ім столькі пэрспэктывы, каб яны сапраўды выглядалі монумэнтамі. Места заможнай на ўвесь край Беларуска-Літоўскі мяшчанскай арыстократыі — Вільня — і ў гэтым паказала свой розум і свой бывалы, выпрабованы на эўропейскім куншце густ.

Аб тым, каб места належало да якой-небудзь аднэй з аўтахтонных у краю народнасьцяў, моцна нішто ня сьведчыць. Найменьш сьведчаць шыльды над крамамі, на якіх, як і ў Менску, спаткаеш усякіе «opstalunki» [тут: рэкламы — **Ю. Г.**].

Кепска сьведчыць і мова люднасьці, каторай «wuczyćsia, panoczku, trzeba, ale ciażka heta zrobić adrazu», як адказываў адзін мешчанчук на гра-

Заканчэнне. Пачатак публікацыі і прадмова Ю. Гарбінскага — у № 1 за 1991 г.

мадзянскіх работах, каторые цяпер вядуцца, на маралы дзесятніка, што мове трэба вучыцца. Затое чуецца ў Вільні, што сама яна ёсьць жывым і жывучым сьведкам свайго цэнтральнага становішча для былых зямель Літоўска-Беларускай дзяржавы, і што ніколі ня будзе яна нічыей асобна, а будзе заўсёды слупам і апорай той асобнай культуры, каторую стварылі нашые продкі, каторую творым мы і дарагой памяткай якой яна зьяўляецца.

Для старых жыхароў Вільні, можа, відней той упадак, да якога дайшло места ў часе вайны і асабліва пасьля гаспадараваньня тутака бальшавікоў. Мне-ж, бачыўшаму праўдзівы заняпад іншых гарадоў, здаецца, што Вільня яшчэ мала пацярпела. На шчасьце, досыць хутка ёй удалося збавіцца ад стану сталіцы «савецкай рэспублікі» Літвы і Беларусі, каторую стварыў б. «савецкі» пасол у Берліне — Іоффэ,— «каб выбіць грунт з-пад ног Антанцы» — тлумачылі бальшавіцкіе дыплёматы. І дзякуючы таму, места здаецца саўсім няўшкоджаным. Цэны, аднак, тутака трымаюцца высока, ня гледзячы, што ўсяго, здаецца, ёсьць шмат.

У параўнаньні з Менскам, грамадскае жыцьце ў Вільні кіпіць крыніцаю. Сюды, у цэнтр упраўленьня «Усходніх Зямель», а з адкрыцьцём унівэрсытэту і ў цэнтр вышэйшай асьветы ў краю, сьцягваюцца ўсе інтарэсы, імчацца ўсе інтрыгі, ляціць уся цікавасьць з глухіх засьценкаў Літвы й Беларусі. Праўда, палітычные цэнтры Літоўцаў і Беларусаў цяпер знайходзяцца ня ў Вільні, але і для іх яна мае вялікае значэньне.

Цяпер [цэнтр? — **Рэд.**] беларускай нацыянальна-культурнай арганізацыі,

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Серпухоўская вул. д. № 12

Цана асобн. нум. 15 к.

Штодзенная грамадзка-палітычная газэта.

№ 2. Мінск Панядзелак 25 сакавіка 1918 г. Год I.

**Выдавецтва газэты „Беларускі Шлях" гр. П. Алексюком перададзено выдавецкаму т-ву „Заранка" у Мінску. Рэдактарам з 2 нумэру становіцца гр. А. Прушынскі, пры бліжэйшым удзельні тых самых супрацоўнікаў.**

*Беларускае Выдавецкае Т-во „Заранка" у Мінску.*

**У з вязку с прыняцьцем на сябе новымі абавязкамі у беларускай культурнай і палітычнай працы, рэдактарства газэты „Беларускі Шлях" пераходзе да грамадз. А. Прушынскага. Кірунак газэты астаецца той самы, які абвяшчаны быў у № 1.**

*П. Алексюк.*

*Мінск 25/III.*

Старае самаўладжаньне ўжо... з вайны. ...

Альбо пабеда — і тагды ў рай, альбо мір — і тагды райскае жыцьце.

На што мне зямля і воля, калі мяне заб'юць, сказау Керанскому салдат: але так гаварыла уся армія!

Мілюкоў зьлядзеў, бо народ думау, што ён пераштакаджае спакою. Керанскі зрабіўся «главнауговарыпаюшчым». Ave Caesar, morituri te salutant, магні толькі крычаць рымскіе легіоны, дзе была сьмерць ха непосадзь. Армія ужо развалілася без дысцыпліны, пачала мітынгаваць, каб знайсці хто сяга не дасць рабіць мір.

Хто?

Хітра скручаные прычыны вайны, международная канкурэнцыя, рынкі для прамышлен-...

Ратуючыся ад анархіі і развалу, акраіны з нацыянальным жывучым інстынктам, Украіна, Беларусь, Дон, Эстонія — стараліся аддзеліцца для свайго збаўдення ад гібельнай палаы [illegible]...

Беларусі усе тыя рэвалюцыя прынесла, паравўшы ланцугі рабства, валікую хаўрысьць, яна выцягнула у свае ім катле усю гніль старога парадку, яна прабудзіла народ ад ўмыслованага сну, адкрыла народу неаб'ятные перспектывы социяльных і палітычных праблемаў. Валізарныя пробы самаго народу рашыць у адзін момант і сваім розумам самые цяжкія праблемы жыцьця не могуць быць толькі высмеяны і зацісьнуты. Ім...

зрабіў якую зямлянку, то трэба трохі менш дрэва, як на хату.

Одно відаць з гэтаго, як і з засевам зямлі (глядзі № 1 Бел. Шл.) хаўрусам па 3—4 сямьі, — з весны, калі ужэ час пойдзе на засевы і агароды, трэба жыць у палатках, бараках. Ад вайны і ад фронту расійскаго і германскаго можна назбіраць якіх 50—100 тысяч палатак і трэба зрабіць і кухні, і харчы, як інтэндантскім спосабам.

**Дрэва з акопаў.**

Гібель дрэва усажана у акопы. 600 верст фронту на Беларусі акопаў у дзесяць радоў. Абшыўка окопаў, камеркі, зямлянкі, бліндажы, лесы попердрэва без конца. Чагіль дрэва ...

люцыйным урадам Фінляндыі, на моцы якога абавязаліся ачысьціць Фінляндыю ад свайго войска (а значыць і «чырвонай» арміі?), — што гэто значыць?

Зрабіўся буржуем «таварыш» Крыленка? Ці ужэсся жывым у рай «наркомы» чырвонай арміі Дыбенка? Ці чырвоныя ў Фінляндыі белагвардзейцы? Ці можа социялізіраваліся, раздзялілі усім на кавалачку: Грушэўскі — свой розум, Вінніченко — артыкул і панамшчыну, але іншча добрую маныпару, «буржуазная украінская Рада» у якой засядало каля 700 буржуяў з украінскіх с.-р. і с.-д. — сваю «буржуазнасьць»?

Ой не! Жывець «пролетарый» Крыленка, ходзіць па ...

Газету «Беларускі шлях» у 1918 г. з № 1 па № 103 рэдагаваў Алесь Гарун (А. Прушынскі).

Фота А. Жынкіна

Цэнтральная Рада Віленшчыны і Гродзеншчыны, месьціцца тутака ў пасьлебазыльянскіх мурах, у Сьв.-Духоўным манастыру, цэркву каторага некалі звонка аздабляла мармуровая дошка з надпісам пабеларуску, што князь К. Астроўскі [Астрожскі.— **Рэд.**] зрабіў фундацыю цэркві ў падзяку Богу за дарованую яму пад Оршай пабеду «над непрыяцелем і супастатам праваслаўные цэркві» — царом Маскоўскім. Тутака, у гэтых шмат бачыўшых мурах, цяпер кіпіць жыцьце. Тут спраўляе свае чыннасьці Ц. Б. Р. Віленшчыны і Гродзеншчыны, тут засядае Б. Н. Камітэт Віленшчыны, тут месьціцца Віленская Беларуская Гімназія, тутака адбываюць Беларускіе Настаўніцкіе Курсы з інтэрнатам для слухачоў; тутака-ж і рэдакцыя газэты «Незалежная Беларусь». Праз увесь дзень ад раньня да вечару і ў самы вечар ня сьціхае жыцьце ў гэтым беларускім вульлі, дзе ўсе пчолы знаюць, аднак, сваё месцо і спаўняюць сваю работу. Праўда, не вяселяць варункі працы; праўда, што за гэтымі мурамі, на тых сьцежках, якія вядуць да народу, падсьцерагаюць бязглуздая злосьць і няпрыязьнь, але за тое тутака адна семья, адзін дух.

**П.**

(Аляксандр Прушынскі, «Беларусь»,
1919, № 19, 11 лістапада)

## II

Найпершым заданьнем, якое паставіла перад сабой Ц. Б. Р. Віленшчыны і Гродзеншчыны, ёсьць шырэньне культурна-прасьветнай працы ў краі, але ў гэтым яна напатыкаецца з такім бракам цярпімасьці з боку цяперашніх прадстаўнікоў улады на мясцох, з такім дзікім спосабам захаваньня, да якога трудна нават дадумацца ў нашые часы звычайным, здаровым людзям. Каб сьпісаць усе тые скаргі на забароны вучыць пабеларуску, якіе ідуць з Беластоцка-Бельскага і Воўкавыскага павету ў Ц. Р. Віленшчыны і Гродзеншчыны, можна-б напісаць цэлую кнігу. Паветы гэтые, праўда, лічацца нібыта прылучанымі да Польшчы, але ці-ж гвалт над народам — гэта аснова, на якой будуецца новая Рэч Паспалітая Польская? Здаецца, што не. Прынамсі, так гаворыцца, што не. Дык чаму-ж гэта робіцца? Не дазваляючы беларускіх школаў, інспэктары школьные гэтых паветаў прапануюць праваслаўным адчыняць *расійскіе* школы. Але цікавы праэкт гэтых «расійскіх» школаў: у іх дзеці ўсё будуць праходзіць на *польскай* мове, а расійская мова будзе выкладацца як прадмет.

Яшчэ раз адзначым, што гэта робіцца «у Польшчы» — у Беластоцкім, Бельскім, Ваўкавыскім паветах, каб не накінуць цені на ўрад «Усходніх зямель» у Вільні. Але чыннасьць школьнага інспэктара ў Горадне, п. Возьніцкага, і слава Віленскага інспэктара п. Вэнславовіча, каторая знайшла сабе прызнаньне нават на шпальтах варшаўскіх газэтаў, занадта добра ведамы ўсім беларусам, каб ніякага сумленьня не аставалося аб той культурнай і творчай працы, якую робіць тут урад «Усходніх зямель». Пан Возьніцкі дзесяткамі за адзін раз не зацьвярджае прыгавораў сялян Горадзеншчыны аб адкрыцьці беларускіх школаў, п. Вэнславовіч зачыняе тые, каторые ў яго аніякай нават падмогі ня просяць, напрыклад гімназію ў Будславе...

Калі не вяселяць тутака адносіны адміністрацыі да нашай школьнай справы, за тое радасьць ідзець з другога боку: радасьць ідзець ад народу,

сьвядомасьць якога тут стаіць ужо моцна і ўсё шырыцца. Гэта паказваюць прыгаворы аб школах, з каторымі з такой нялітасьцьцю ваююць п. п. школьные інспэктары. Пры мне ў Ц. Б. Р. прыслалі з Гродзенскага павету адпісы 23 прыгавораў сялян аб школах, з якіх 15 было пададзено п. павятоваму інспэктару ў працягу 6 дзён. Іншые пісаны лацінікай, іншые кірыліцай. У адным, пісаным па-польску, выказано пажаданьне, каб у школе, як прадмет, выкладалася і польская мова. У большасьці прыгавораў сяляне зсылаюцца і на гісторыю: «беларуская школа ў нас, кажуць, была ўжо ад такога-та году і на далей хочам, каб аставалася беларускаю». Чытаючы гэтые прыгаворы, думалося мне: «Вот у чым зарука нашага культурнага адраджэньня, у гэтым, чаго не забьюць ніякіе гэрады [ірады.— **Рэд.**] — у жаданьні, у волі народу быць самым сабой».

Вялікі грэх быў-бы, каб пішучы аб Вільні, ня ўспомніць аб нашай тутэйшай вайсковай арганізацыі. У ей пануе праўдзівы беларускі дух і аздоба ваякоў — субордынацыя і захаваньне дысцыпліны. Але арганізацыя гэтая, пэўна, хутка перанясецца ў Менск, і тагды самі будзеце яе бачыць.

Каб скончыць з аглядамі беларускіх арганізацыяў у Вільні, дадам яшчэ пару слоў аб тутэйшым аддзеле «Хаўруса Спажыўных Т-ваў Беларускага Краю». Менскі ўрад гэтага хаўрусу не пабаяўся паставіць тутака на чале аддзелу беларуса, п. К. Душэўскага. І ўсё дзелаводство адзелу, чаго няма ў Менску, вядзецца тут у беларускай мове,— цікавасьць! Аднак, як мы чулі, гэтые цікавые факты, чаго мусіць баяцца ў Менску, ні мала не перашкаджаюць чыннасьці адзела і ўсё суліць яму добрую будучыну.

Аб узаемных стасунках беларусаў з іншымі народнасьцямі пісаць амаль што і няма чаго. Тутэйшые беларуска-польскіе стасункі? — Ніякіе. Беларусы робяць сваё і ні з кім нявадзяцца. У апошніе часы залажылася тутака польскае дэмократычнае аб'еднаньне,— гэта можа дасьць грунт для якога-небудзь зблiжэньня і гутаркі. Ліцьвіны тут цьвёрда стаяць на сваей думцы аб дзяржаве з Вільняй — сталіцай, прыслухоўваюцца да Коўна, ці ня будзе зтуль якіх навін, і палітычна маўчаць, альбо палітычна гавораць,— пакуль што не з беларусамі. Жыдоўскіе нацыянальные партыі нібы пачалі цікавіцца беларускім рухам, прынамсі некаторые крокі для ўзаемнага азнаймленьня імі ўжо робяцца.

---

— А каб цябе памаракі... Проста на хворую нагу ўзьбіўся...
— Ён праз гжэчнасьць (выхаванасць.— **Ю. Г.**) ня ведае, куды лепі ступіць — на нагу, ці на галаву...
— Ня мае часу, жонку згубіў! ...
— А во й яшчэ нейкае ліхо лезе...
— Як жа, яшчэ адзін... ваяка...
— Ха-ха-ха! — засьмяяўся той, што ўвыйшоў.
— Во дзе кумпанія, пане мой, і папольску і як табе хочаш!
— Але! Ха-ха-ха! — І ўсе зарагаталі.

Гэтак цешыліся са сьціску ў вагоне салдаты беларусы з польскай арміі.

Аднак пасьля апошняй увагі, успомніўшы, што тутака яны не самі толькі, замоўклі, нахмурыліся і больш не сьмяяліся. Сьвісток цягніка... Вось тузануло раз, другі раз вагоны... Загулі колы на рэйках... Замігцелі вагзальные лямпы. Паехалі.

— Бывай здароў, градзе Гэдымінаў!

**П**

(Аляксандр Прушынскі, «Беларусь», 1919, № 20, 12 лістапада)

# Груганьнё

«Плебісцыт» на беларускіх землях, занятых польскім войскам, будзе. Пастанова аб гэтым прынята варшаўскім Соймам 25 лістапада г.г.

«Гонар» ініцыятывы і правядзеньня гэтай пастановы належыць Людова-Нацыянальнай Сувязі, з кс. Лютаслаўскім на чале.

Пытаньне аб плебісцыце на «усходніх землях», хаця праведзена было праз Сойм энэргічна і шпарка,— падгатаўлялося, аднак, даўно і правай прэсай і ўсялякімі асабістымі ўрадовымі і поўурадовымі асьвядчэньнямі.

Пасол Камянецкі, робячы, напрыклад, справаздачу аб сваім побыце на Беларусі і Ліцьве, казаў, што групы, з якімі яму прыходзілася спатыкацца ў гэтых краёх апрача палякоў — жыдоўская, беларуская, расійская і «нават татарская» — што групы гэтые, а прынамсі паважные іх часьці, гатовы прызнаць сябе законапаслушнымі падданымі польскага гаспадарства ў замену за роўнапраўнасьць... На гэтых землях плебісцыт саўсім лішні, бо рэзультат яго, наперад можна сказаць, што будзе на нашую (польск. гаспадарства.— **Аўт.**) карысьць»...

Гэнэральны Камісар Усходніх зямель п. Асмалоўскі на пасяданьні адміністрацыйнай камісіі 29 кастрычніка так сама запэўняў, што «беларускіе мужыкі скрозь дабіваюцца польскіх школаў, так што дагэтуль удалося з'арганізаваць толькі 80 беларускіх школаў, і што люднасьць усходніх зямель бясспрэчна цягне да Польшчы. Саўсім пэўна, што ў разе плебісцыту амаль уся люднасьць выкажацца за Польшчу. Нават у праваслаўных беларусаў, праваслаўнага духавенства і ліцьвіноў ёсьць моцны пацяг да Польшчы».

За такімі асабістымі засьвядчэньнямі ішлі інформацыі ў газэтах і, мінаючы правую варшаўскую прэсу, навет кракоўскі «Czas» падаваў, што насяленьне Гродзенскай, Віленскай і заходніх паветаў Менскай губэрняў... «хоча быць зараз-жа прылучаным да Польшчы і хіба гвалтам яго можна будзе далучыць да якой-небудзь літвацкай, ці беларускай дзяржавы» (№ 292).

Так сама і ў Сойме ў часе апошняга разгляду пытаньня пасол Загорскі (N. Z. R.) [Нацыянальны Рабочы Звяз.— **Рэд.**] асьведчыў, што вярнуўшыся з «усходніх зямель», ён саўсім пераконаны, што воля тутэйшага народу — не паноў-абшарнікаў, але сялян і работнікаў — хоча зьліцца з польскай айчынай не на праве фэдэрацыі, але на праве прылучэньня да Польшчы. «Калі,— казаў ён,— ня зробім гэтага мы, дык люднасць гэтая, як асьвядчае на сходах, сама схопіцца за бронь».

Для тых, хто на ўсю гэтую справу ўглядаўся асьцярожна, баючыся ўкрытых у плебісцыце анэксыйных замыслаў, і ў Сойме і па-за Соймам высоўваўся довад, што так-жа чатырохлетнім соймам было ўзаконена далучэньне Вялікага Князьства Літоўскага да Польшчы і што прылучэньне «усходніх зямель» да цяперашняй Рэчы Паспалітай Польскай ня ёсьць іх захопліваньнем, але толькі зваротам.

Маючы цяпер вынік гэтай падгатоўчай работы, можна сказаць, што справа асьляпленьня соймавай большасьці на карысьць плебісцыту, каму гэта трэба было, удалася.

Не без дэмагогіі, разумеецца, без каторай цяпер не абходзяцца навет і ксяндзы ў Польскай Рэспубліцэ. Так кс. Лютаслаўскі, гаворачы аб гэтай справе 21 лістапада ў Сойме, адну часьць сваей прамовы пачаў у гэткі спосаб: «Мы ўважаем, што робім тамака (на Літ.-Бел. землях.— **Аўт.**) на сваім грунце. Польская Рэчпаспалітая ніколі не зракалася гэных зямель

і не па чужое выцягвае руку, калі здабыла Вільню і Менск, але варочаецца да сваей вотчыны». І схапіўшыся, што пасьля гэтага можа паўстаць пытаньне — на што-ж тагды плебісцыт? — «паправіўся» далей тлумачэньнем, што *ў XX веку мы лічым канечным у другі раз запытацца згоды гэтай люднасьці, каб засьведчыла, што ей добра было ў Рэчы Паспалітай і што ненавідзіць няволю, якая яе ад Рэчы Паспалітай адарвала*. Стэнограма ня кажа, пачырванеў ці не пры гэтым паважаны духоўнік, хаця подлуг нашага пагляду сумленнай асобе было ад чаго пачырванець.

Але ніхто з гэтых паноў, поруч з статыстыкай, напрыкл., беларускіх школаў, каторые ўдалося адчыніць на «усходніх землях», не падаў статыстыкі тых беларускіх школаў, каторые ўдалося не адчыніць, дзякуючы стараньням п. п. школьных інспэктароў на Горадзеншчыне, Віленшчыне і Меншчыне, і наагул усіх надта цікавых драбніцаў у справе організацыі школы на «ўсходніх землях»(...)

І вось затым сталося! наперакор усякім там пунктам, аб якіх, праўду кажучы, па ўсіх сталіцах ужо і думаць забыліся, сталася вялікая неабдуманасьць. Першы вольны Сойм з мёртвых устаўшай Польшчы схіліўся на бок няпраўды, на бок разарваньня Беларусі і крыўды для беларускага народу.

Аднак нас гэта не павінно выводзіць з раўнавагі. Неабдуманасьць Сойму ня ёсьць правіннасьць народу. Факт ухвалы Сойму аб плебісцыце знамянуе сабой толькі, што новая Польшча не справілася яшчэ з старым груганьнём, каторае цяпер, «у XX веку», яшчэ круціцца над ей і з сваіх крыльяў страсае на яе ясные шаты забыты ўжо людзьмі пыл спосабаў будаваньня дзяржавы з XVII і XVIII в.в. Груганьнё гэтае навет і ня шчыра-польскае. У годы няшчасьця польскай дзяржавы яны ў ва ўсіх трох заборах [расейскай, прускай і аўстрыйскай частках падзеленай Рэчы Паспалітай.— **Ю. Г.**] працавалі ў большай згодзе з непрыяцелямі польскага народу і былі да іх шчырэйшые, чым да яго самога. Некалі, будучы законапаслушнымі падданымі Мікалая II, Вільгельма II, Францішка-Язэпа, яны для спакою і шчасьця сваіх расійскай царскай і аўстрыяцкай бацькаўшчыны за пасольскіе дыэты і абшарніцкіе даходы прадавалі свой народ; цяпер, калі вольнасьць Польшчы адваёвана ня іхнімі рукамі і наперакор іхняй шкоднай працы, яны зьляцеліся на Польшчу і парабіліся патрыётамі, і, маючы багаты дасьлед у гэтым няўласным народзе, пачынаюць крыўдзіць суседніе народы(...)

Не адзін быўшы дзеяч з расійскага чарнасотніцка-нацыяналістычнага табару, седзячы цяпер без работы і прыглядаючыся да працы сваіх даўнейшых прыяцеляў, кажа сабе з захапленьнем у душы, што ў гэтай працы ёсць «рускі дух», што ад яе «Русью пахне».

Польскі народ хутка так-сама пачуе гэты дух,— хай толькі яму трошкі разьвяжуцца рукі з усякімі матэр'яльнымі і іншымі клопатамі, і тады п. п. груганьнё займуць адпаведнае сабе месцо чучалаў на паліцах музэяў па гісторыі чалавечай зоольогіі, а іх політыка астанецца толькі як кароценькі кавалачак з разьдзелу гісторыі аб упадку добрых звычаяў у Польшчы, упадку, каторы не зачапіў аднак самога народу і ніколі яго не характэрызаваў.

Плебісцыт, каторы эндэкі будуць праводзіць на беларуска-літоўскіх абшарах,— глупство, якое ня будзе мець жаднага [ніякага.— **Ю. Г.**] значэньня для будучыны беларускага народу і пасварыць яго з народам польскім. Раней ці пазьней пацерпяць ад яго адны толькі груганы, каторые цяпер аб ім так клапоцяцца.

**П.**

(Аляксандр Прушынскі, «Беларусь», 1919, № 38, 4 сьнежня)

# РЭАБІЛІТАВАНЫ ТВОР

Нялёгка вяртаць Беларусі яе сапраўдную гісторыю. Традыцыя імперскай гісторыяграфіі разглядаць нашую Бацькаўшчыну толькі як суб'ект гісторыі пусціла глыбокія карані не толькі ў навуцы, але і ў масавай свядомасці. Дэталёвы, паэтапны і надта ж павучальны разгляд станаўлення і эвалюцыі расійскай імперскай навуковай школы, што трактавала гісторыю Беларусі адно як складовую частку дзеяў «единой и неделимой» — змест фундаментальнае працы Аляксандра Цвікевіча «Западно-руссизм».

Аляксандр Іванавіч Цвікевіч нарадзіўся ў 1888 г. у Берасці (Брэст-Літоўску). Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, рабіў адвакатам. Адзін з лідэраў беларускага руху: старшыняваў на канферэнцыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады (Масква, 1917); актыўна працаваў у Рэдакцыйнай камісіі Усебеларускага з'езду (Мінск, снежань 1917). Выконваў дыпламатычныя місіі Ураду БНР на Украіне, у Заходняй Еўропе. Жыў у Коўне, з 1923 г.— у Празе, дзе выконваў абавязкі прэм'ера БНР. Адмовіўся ад палітычнае дзейнасці ў 1925 г., выехаў у БССР. Працаваў у Інстытуце Беларускае Культуры і ў БАН старшынёю Камісіі па вывучэнні асветы на Беларусі. Арыштаваны ў 1930 г., высланы на 5 гадоў у Перм. 17 снежня 1937 г. засуджаны на смерць, расстраляны ў Мінску 30 снежня. Рэабілітаваны часткова ў 1988, цалкам — у 1989 годзе.

Цвікевіч — навуковец і практычны палітык — напісаў нямала. Ягоныя кнігі «Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики» (Киев, 1918), «Беларусь. Политический очерк» (Берлин, 1919) мелі на мэце пазнаёміць міжнародную супольнасць з гісторыяй нашае Бацькаўшчыны ды сучасным станам беларускае праблемы. Трэба меркаваць, што Цвікевіч, як палітык, выразна адчуў магутны ўплыў гістарычных стэрэатыпаў на дзяржаўных дзеячоў суседніх краін, калі тыя не бачылі або не хацелі ўбачыць нашае дзяржавы на карце Еўропы ані ў XX, ані ў ранейшых стагоддзях.

Галоўную працу свайго жыцця Цвікевіч апублікаваў у часопісе «Полымя»: 1927; № 8, с. 101—120; 1928, № 1, с. 117—139; № 2, с. 132—158; № 3, с. 120—141; № 4, с. 113—145; № 7, с. 131—143; 1929, № 2, с. 131—151; 1929, № 5, с. 115—138. Ён паспеў выдаць яе і асобнаю кнігаю пад назвай «Западно-руссизм» (Менск, 1929). Кніга адразу была сканфіскаваная.

«Спадчына» мяркуе друкаваць Цвікевічаву працу паводле палымянскіх публікацыяў у пералічаным вышэй іх парадку. Рэдакцыя зважае на значнасць самога факту вяртання гэтай кнігі беларускаму чытачу, на неабходнасць яе эфектыўнага ўдзелу ў адраджэнні нашае гістарычнае свядомасці і друкуе твор цалкам, без скаротаў, паводле правапісу арыгіналу.

**А. ЦЬВІКЕВІЧ**

# «ЗАПАДНО-РУССИЗМ»

## К. Гаворскі і «Вестник Западной России»

У гісторыі грамадзкай думкі на Беларусі адно з выдатнейшых месц займае па свайму адмоўнаму значэньню так зв. «западно-русская школа». Пад гэтай назвай мы разумеем цэлы шэраг асоб,— палітычных, грамадзкіх, навуковых і наогул культурных,— якія паставілі сваёй мэтай давесьці, што Беларусь зьяўляецца не асобнай краінай, з сваёй гістарычнай нацыянальнай прыродай, але што яна зьяўляецца заходняй часткай адзінае Расіі. Аб тым, ці складаюць яны «школу», г. зн. групу, суцэльную сваім сьветаглядам і тактыкай, можна, зразумела, спрачацца. Нам здаецца, што ў даным выпадку сьмела можна гаварыць

аб школе, дзеля таго што хоць «западно-руссизм» меў на працягу мінулых год некалькі розных адценьняў і адмен, аднак ён заўсёды быў характэрны паказанай ідэяй,— служэньнем ідэалу адзінае Расіі і адпаведнымі русыфікатарскімі імкненьнямі ў стасунку да Беларусі. Аб формах і этапах разьвіцьця гэтае школы мы спынімся асобна, калі выясьнім іх унутраную гістарычную сувязнасьць,— пакуль-жа зазначым толькі тое, што крыніца «западно-русской» ідэолёгіі сягае вельмі даўных часаў, на наш погляд, да Замойскага сабору 1720 году, калі пад уплывам супрацоўніка Пётры I — Пацёмкіна ўпяршыню сярод беларускага уніяцтва пачалася плынь у сэнсе збліжэньня з адзінавернай Масквой.

Чарговым этапам зьявілася эпоха Кацярыны II, калі ішла барацьба за дысыдэнтаў і калі Кацярына, супроць сваіх афіцыяльных загадаў аб захаваньні ўсіх асаблівасьцяй далучанай да Расіі Беларусі, у патаемных наказах сваім прадстаўніком тут выказвала жаданьне, каб між Беларусьсю і Расіяй «зьнікла грань інародзія» і каб гэтыя дрэўнія абшары рускія зрабіліся рускімі не адным толькі імем, але душою і сэрцам [1].

Пытаньне аб тым, наколькі далёка ішлі ў гэтым сэнсе пляны Кацярыны II, у навуцы ня высьветлена. Ёсьць думка, што справа русыфікацыі далучаных тэрыторый, у тым ліку і Беларусі, здавалася ёй справай туманае будучыні і што да яе зьдзяйсьненьня яна не прыступала. Але з гэтым згадзіцца цяжка. Праўда, пры Кацярыне II аб'яднаньне Беларусі з Расіяй адбылося мэханічна, галоўным чынам, дзеля дзяржаўных, імпэрыялістычных меркаваньняў, і нацыянальная прырода гэтае краіны таксама, як пазьней Карамзіну, ня была ёй дасканала вядома. Аднак нельга думаць, што ёй было ўсё роўна, у якім характары знаходзяцца далучаныя провінцыі да расійскае дзяржавы. Прыкладам, гр. Безбародка, яе бліжэйшы супрацоўнік, ведаў, што «сяляне ў Літве і ў нас адзін язык і нравы ў суседзтве маюць» і што для таго, каб яны «абруселі і да далучэньня прывыклі», трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраўніцтва «не руссопётов и тому подобное», а людзей паважных, ад дзейнасьці якіх «выходило бы взаимное уважение» [2]. Сама Кацярына раней Безбародкі меркавала аб гэткім абрусеньні. У сакрэтнейшым наказе кн. Вяземскаму яна яшчэ ў 1764 г. пісала аб заходніх провінцыях, што «парушаць прывілеі іх усе адразу вельмі няпрыстойна было-б, аднак і называць іх чужаземнымі і абыходзіцца з імі на гэткай аснове ёсьць больш, чым памылка, а можна сказаць з пэўнасьцю, што глупства... Іх трэба лягчэйшым спосабам прывесьці да таго, каб яны абруселі і перасталі глядзець, як ваўкі ў лесе» [3]. Рэальна прыступіць да русыфікацыі Беларусі Кацярына II ня ўсьцігла,— ёй перашкодзіла ў гэтым сьмерць. Тым ня менш патрэбны тон у стасунку да Беларусі быў ёю даны, і ўся «западно-русская» традыцыя беспасрэдна з ёй зьвязана.

Наступным этапам была эпоха Мікалая I, калі «западно-русская» школа ўпяршыню рэльефна зазначылася і набыла сваю праграму. Галоўным прадстаўніком яе ў гэты час быў Іосіф Семашка, гадунец Віленскага унівэрсітэту і выдатнейшы правадыр аб'яднаньня уніі з праваслаўем. Апрача уніяцкага пытаньня, якое дало найбольшы імпульс для разьвіцьця «западно-русской» ідэолёгіі, гэтаму разьвіцьцю спрыялі і іншыя падзеі таго часу — як-то: польскае паўстаньне 1831 г., ліквідацыя Віленскага унівэрсытэту і дзейнасьць сакрэтнага «Западного Комитета». Апошні быў прызваны ласьне для таго, каб «прыраўняць заходнія губэрні, ад Польшчы далучаныя, ва ўсіх адносінах з унутранымі вялікарасійскімі губэрнямі» [4]. У запісках і проектах, якія пасыпаліся тады ў «Западный Комитет» ад губарнатараў з беларускіх і украінскіх губэрань, а таксама ад розных «спачуваццеляў» справы, ясна ўжо гаворыцца, што Беларусь разам з Літвой зьяўляецца «дрэўняй Славяніяй», якая «однородна» з Вялікарасіяй па мове і веры і што гэтае «адзінства мовы і законародзіць адзінства пачуцьця і паняцьцяў, без якіх няма трываласьці ў існаваньні народным» [5].

---

[1] «Чтения Моск. О-ва истории и древностей», 1866, кн. 1, смесь.

[2] Сборник Им. Русскаго Истор. О-ва, т. XVI, стр. 60 — письмо гр. Безбородко кн. Репнину о мерах обращения с завоеванными провинциями.

[3] Ibid., т. VII, стар. 348.

[4] С. Середонин. «Истор. обзор деятельности Комитета министров», том II, год. 1.

[5] Чтения, 1866 г. кн. 1, стар. 103 — «О необходимости уничтожения отдельных прав в губерниях от Польши присоединенных».




Карыкатура на падзелы федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Карту дзеляць расійская імператрыца Кацярына (адрывае Беларусь), прускі кароль Фрыдрых II (паказвае шпагай на Данцыг — Гданьск) і аўстрыйскі канцлер (адрывае кавалак Польшчы з Кракавам пад самую Варшаву). Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі схапіўся за галаву і карону, якой яго пазбавілі тры суседнія імперыі.

Большасьць першых «западно-руссов» выхавалася ласьне ў гэтую эпоху, калі ўпяршыню быў выкінуты знамяніты ўвараўскі лёзунг аб «православии, самодержавии и русской народности» і калі па загаду Мікалая I было закрэсьлена нават самае імя Беларусі [1].

Урэшце, апошнім этапам разьвіцьця «западно-русской» школы былі 60-я і 70-я гады мінулага веку, другое польскае паўстаньне і гвалтоўная палітыка М. Мураўёва. У гэтыя гады «западно-руссизм» набыў сваё ўласнае імя і падвёў пад сваю палітычную праграму нібыта навуковы фундамант. Далейшае разьвіцьцё яго пад час рэакцыі Аляксандра III і Мікалая II пайшло ўжо бяз значных перапынкаў і дакацілася да сучаснае эпохі — імпэрыялістычнае вайны і рэволюцыі.

На працягу гэтай доўгай гісторыі «западно-руссизм» вырас у вагромністую палітычную сілу, якая на некалькі дзесяцілецьцяў затрымала разьвіцьцё беларускага культурнага адраджэньня і якая гэтак цяжка падбівала разьвіцьцё беларускай вызваленчай ідэі ўжо на нашых вачох. У пэўным разуменьні яна зьявілася антытэзай сілам полёнізуючым, якія ішлі на Беларусь з захаду і якія намагаліся тэорыяй і практыкай давесьці, што Беларусь ёсьць часьць Польшчы і што беларуская народная культура ёсьць сваяадменная польская культура. «Западноруссизм» ласьне і змагаўся супроць гэтай тэндэнцыі, але ў інтарэсах не Беларусі, а «Вялікае Расіі». У гэтым сэнсе культурная гісторыя Беларусі ў XVII—XX ст. і была выражэньнем узаемнае барацьбы русыфікацыйных і полёнізуючых начал за гегемонію ў Беларусі.

Дасьледваньне прыроды і гісторыі «западно-русской» школы зьяўляецца на наш пагляд амаль такім-жа абавязковым, як і дасьледваньне разьвіцьця самога беларускага руху. Яна складае адмоўны бок агульнага процэсу гісторыі культуры на Беларусі, творыць адзін з яе элемэнтаў і ў гэтым сэнсе дае нам шмат чаго да разуменьня беларускага мінулага.

Пры гэтым мусім зазначыць, што для мэт нашага дасьледваньня пераважнае значэньне мецьма агляд ня ўсіх дзеячоў «западно-русской» ідэолёгіі і ня ўсіх русыфікацыйных уплываў. Нас будуць цікавіць пераважна толькі тыя зьявы, якія выходзілі і нараджаліся ў самой Беларусі, а таксама толькі тыя іх прадстаўнікі, якія былі этнографічна, ці, як кажуць, «тэрыторыяльна» беларусамі. Бо толькі апіраючыся на іх можна сачыць за зьместам грамадзкіх рухаў на Беларусі ў мінулыя гады, за разьвіцьцём яе грамадзкай мысьлі і, разам з тым, толькі дасьледуючы іх псыхолёгію, можна рабіць плённыя вывады і абагульненьні ў стасунку да культурнае гісторыі нашае краіны наогул.

Адным з найбольш яскравых і рашучых выяўленьняў «западно-русской» школы была дзейнасьць часопісу 60—70-х год мінулага веку «Вестника Западной России», кіраванага вядомым у сваім часе К. Гаворскім. Праўда, фігура гэтага «западно-русса» ня так паважна і солідна, як, прыкладам, фігура М. Кояловіча. Апошні па сваёй эрудыцыі і грамадзкаму значэньню непараўнальна большы за К. Гаворскага, яго з поўным правам можна назваць ідэолёгам «западнорусской» школы і найбольш таленавітым і сур'ёзным яе прадстаўніком. Аднак, калі К. Гаворскі разам са ўсёй рэдакцыяй «Вестника Западной России» ўступае М. Кояловічу ў тэорэтычнай эрудыцыі, дык ён ня ў меру большы яго тым жыцьцёвым «практыцызмам» і тымі асаблівымі мэтодамі дзейнасьці, якія ствараюць стыль «западно-русской» школы. Ласьне К. Гаворскаму абавязана Беларусь агіднейшым тыпам «западно-русского человека», у якім, як у фокусе, адбіліся найбольш цёмныя рысы панаваньня на Беларусі старога рэжыму.

«Вестник Западной России» К. Гаворскага, выдаваны ў Вільні ў 60-х і ў пачатку 70-х гадоў, зьявіўся ўпяршыню ў Кіеве. Тут у ліпні месяцы 1862 году вышла яго першая кніжка. Часопіс гэты называўся тады больш шырака: «Вестник Юго-Западной и Западной России». Тэрмін «Юго-Западный» павінен быў сьведчыць, што часопіс прысьвечаны ў першую чаргу «Юго-Западу России», г. зн. заходняй ці правабярэжнай Украіне, якая ў тыя часы менавалася «Юго-Западной Россией» у адзнаку ад Беларусі, якая менавалася «Западной» ці «Северо-Западной Россией».

Вонкавы выгляд «Вестника» як у Кіеве, так і ў Вільні заставаўся бяз зьмены.

---

[1] Городские поселения в Российской Империи, СПБ, 1863.



Петрапаўлаўская царква ў Мінску. 1613 г.



**Язэп Драздовіч.** Кніганабыўцы ў друкарні Францішка Скарыны. 1940—1943.



**Язэп Драздовіч.** Глыбокае. 1926.



**Язэп Драздовіч.** У няволі. 1927.

На працягу дзесяці год ён выходзіў сшыткамі каля 200 і больш старонак звычайнага часопіснага фармату. Пачаў ён выходзіць чамусьці з сярэдзіны году, з ліпня месяца, таму лічыў свой выдавецкі год і нумарацыю кніжак з ліпня па ліпень. Толькі праз пяць год, з 1867 г. выданьне пачало нумаравацца нормальна — са студзеня па студзень. Ня кожны год меў аднолькавы лік кніжак, і гэта, разам з падзелам гадавога выданьня на томы і разьдзелам кожнай кніжкі на чатыры часткі з асобнай для кожнай з іх нумарацыяй старонак, утрудняе карыстаньне «Вестником». Вокладка «Вестника» была з тэндэнцыйным малюнкам: на фоне віленскай царквы і помніка Уладзімеру ў Кіеве да натоўпу беларусаў і украінцаў у конфэдэратках зьлятае з нябёс на воблаку алегорычная «гістарычная ісьціна» з манускрыптам у руцэ: «Откуда пошла русская земля». У нізе вокладкі — карта Расіі з Беларусьсю і Украінай, паказаная ў важнейшых гарадох, і два фоліянты, на адным з якіх стаіць славянскі надпіс: «...и рече олегъ кіевъ се буди мати градомъ русскимъ».

Кожная кніжка «Вестника» падзялялася на чатыры разьдзелы. Першы разьдзел прысьвячаўся старадаўняй гісторыі Беларусі і Украіны, прычым у ім друкаваліся дакуманты пераважна гісторыі праваслаўнае царквы на гэтых землях, гісторыі уніі, барацьбы праваслаўя з каталіцтвам, старыя граматы, унівэрсалы, прывелеі і наогул архіўны матэрыял, які ў вялізарным ліку адкрываўся тады Віленскай і Кіеўскай Археографічнымі Камісіямі і які знаходзіўся па манастырох і прыватных бібліотэках. (Між іншым, А. Сапуноў сьведчыць, што некаторыя матэрыялы, друкаваныя ў «Вестнику», пасьля загінулі). Другі разьдзел складаўся з орыгінальных артыкулаў супрацоўнікаў «Вестника», прычым і тут пераважалі артыкулы на гістарычныя тэмы. Апрача самога К. Гаворскага, які пісаў у гэтым разьдзеле, тут вельмі рэдка можна натрапіць ня толькі на выдатнае, але наогул на вядомае імя. Гэткія асобы, як І. Кулжынскі — гадунец старэтнага расійскага «Маяка», Саковіч, Навіцкі і г. д. сьведчаць толькі аб тым, што навуковымі імёнамі «Вестник», як кажуць, ня блішчэў. Адзіна можа толькі імя П. Баброўскага, аўтара вядомай працы аб Горадзенскай губэрні, які друкаваў у «Вестнике» агляд пад мала зразумелым загалоўкам «Физические и нравственные элемэнты северо-западных губерний», можна адзначыць, як больш-менш паважнейшае і вядомае імя. Шмат матэрыялаў для гэтага разьдзелу рэдакцыя брала з тагачасных мясцовых «Губернских Ведомостей» (менскіх, магілёўскіх, віцебскіх) і са сталічных газэт патрыотычнага кірунку — «Вечерней Газеты», «Домашней Беседы», «Дня» і інш. Вельмі часта матэрыял, безварункова чужы, друкаваўся без усялякага подпісу і без паказаньня крыніцы, за што рэптыльнай рэдакцыі прыходзілася выступаць з тлумачэньнямі і прабачэньнямі.

Трэці разьдзел «Вестника» прысьвячаўся звычайна самым «злободневным» тэмам. Тут зьмяшчаліся прынцыповыя рэляцыі і разважаньні рэдакцыі аб бягучым грамадзкім і палітычным жыцьці, аб заданьнях улады на Беларусі, аб ролі папоў і ксяндзоў і вялася полеміка з тагачаснай прогрэсыўнай прэсай. Гэты ласьне разьдзел і творыць фізыономію «Вестника» як «западно-русского» часопісу і дае галоўны матэрыял для выяўленьня яго пляцформы.

Урэшце, апошні чацьверты разьдзел складаўся з часткі літаратурнай, у якой друкаваліся аповесьці, романы на тэму аб полёнізьме і лацінстве, а часам вельмі дасьціпныя, хоць і не заўсёды мастацкія сатыры і байкі на «ворагаў» рэдакцыі; затым ішла бягучая хроніка, складаная зноў такі з выпісак са ўсялякіх газэт і часопісаў. Літаратурнымі імёнамі рэдакцыя «Вестника» таксама не магла пахваліцца. Вядомы украінскі пісьменнік Куліш супрацоўнічаў у «Вестнике» толькі адзін год, пакуль ён трымаўся больш прызваітага тону ў стасунку да украінскай справы, а таленавіты этнограф Н. Семянтоўскі напісаў для «Вестника» толькі адну аповесць таксама ў першы год выданьня. Популярнасьць рэшты літаратурных супрацоўнікаў «Вестника», як то: Скурховіча, Калугіна, Вольпера ды інш., ня выходзіла далей мураў рэдакцыі.

Часопіс падпісваў звычайна яго рэдактар К. Гаворскі, але ўжо ў 1867 г. у аддзеле абвестак на выданьне «Вестника» побач з подпісам Гаворскага стаіць подпіс «рэдактара-супрацоўніка» нейкага Ів. Эрэміча. Пачынаючы з 1870 году, калі Гаворскі моцна захварэў, «Вестник» выдаваў толькі



Выгляд Сафіі на акварэлі С. Пахалавіцкага «Асада Полацку ў 1579 г.».



Выгляд Сафіі на плане 1707 г.

водства Полоцкого, збудовавши, книги земские и гродские своего воеводства ховали».

Аднаўленне сабора, скончанае ў 1618 г., прыпадае якраз на тыя гады, калі вялася працяглая барацьба паміж каталіцкай і праваслаўнай рэлігіямі. Прадстаўнікі абедзвюх рэлігій прэтэндавалі на будынак сабора. Але дастаўся ён уніятам. Адбудоўкай Полацкай Сафіі кіраваў вядомы ўніят, архібіскуп полацкі і віцебскі Іясафат Кунцэвіч. Як сведчаць сучаснікі, Кунцэвіч аднавіў і багата ўпрыгожыў раней засмечаны і абшарпаны будынак, «а ў чатырох рагавых вежах непатрэбныя вярхі, якія царкве ніякай красы не дадавалі, скінуў, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабіў яшчэ больш высокай».

У 1643 г. (згодна са звесткамі А. Сапунова, у 1642 г.) новы пажар зруйнаваў горад, Верхні і Ніжні замкі. Не абмінуў ён і Сафію. Аднак ужо праз год яна была зноў адноўленая.

Чарговы партрэт Полацкай Сафіі датуецца часамі Паўночнай вайны. З 1705 г. да 1710 г., калі ў Полацку стаяла рускае войска, сутарэнні Сафійскага сабора былі ператвораны ў вайсковы склад. У 1707 г. картографы знялі план горада і на ім, у цэнтры Верхняга замка, намалявалі з натуры Полацкую Сафію. Гэта ўсё той самы храм-крэпасць, толькі чатыры вуглавыя вежы сталі ніжэй і маюць два ярусы бою, пятая вежа больш падобная на барабан царкоўнага купала, іншы франтон, над будынкам высокі дах, а вакол храма ўжо не сцены і вежы драўлянага замка, а складаная сістэма бастыённых умацаванняў.

1 мая 1710 г. у сутарэннях храма, дзе захоўваўся порах, грымнуў выбух. Ён знішчыў адну сцяну, левы бакавы алтар, пашкодзіў падмурак, скляпенне і калоны. Толькі ў 1738—

1750 гг. Сафія дачакалася будаўнікоў. Па праекту архітэктара К. Глаўбіца майстрам-муляам Б. Касінскім была збудавана ўніяцкая трохнефная базіліка ў стылі барока. Будынак упрыгожылі дзве шмат'ярусныя вежы, узведзеныя на паўднёвым фасадзе. Ва ўсходні фасад увайшлі рэшткі сцен, сутарэнняў і апсіды Сафіі XI ст.

Гісторыкі архітэктуры не абыходзілі сваёй увагай Полацкую Сафію. Яе вывучалі І. М. Хозераў, М. К. Каргер, П. А. Рапапорт і іншыя даследчыкі. Шматгадовыя архітэктурна-археалагічныя раскопкі праводзіў В. А. Булкін. Свой уклад у справу вывучэння выдатнага помніка ўнеслі і беларускія даследчыкі-рстаўратары. Па праекту архітэктара В. Слючанкі будынак поўнасцю адрэстаўраваны, у тым ліку і інтэр'ер храма. Тут устаноўлены арган, адкрыта канцэртная зала. У сутарэннях сабора, дзе ахаваіся часткі сцен, падмурка і калон Сафійскага сабора XI ст., працуе музей. Гэта стала магчыма дзякуючы вялікай працы калектыва ленінградскіх археолагаў на чале з В. А Булкіным. Беларускія мастакі-рэстаўратары пад кіраўніцтвам В. Лукашэвіча раскрылі рэшткі фрэскавага жывапісу XI ст. Раскрыта таксама частка кладкі сцен. Аднак пад час археалагічных раскопак не ўдалося знайсці рэшткі баявых веж. Гэта дазваляе меркаваць, што ці падмуркі закладаліся неглыбока, ці самі вежы былі эркерныя — выступалі ў сцяне.

Сёння, у складаны час адраджэння духоўнага жыцця народа, паступова вяртаецца да нас і рэлігія. Адчыняюць дзверы старыя храмы. Сярод іх асаблівае месца павінна заняць Сафія Полацкая — праваслаўная святыня Полацкай зямлі і ўсяго беларускага народа. Думаецца, што спрэчак паміж канфесіямі за гэты архітэктурны шэдэўр Усходняй Еўропы быць не можа. Ад першага дня існавання гэта быў праваслаўны сабор. Такім ён і застанецца ў нашай беларускай гісторыі.

...Дзесятае стагоддзе белай ліллеяй адлюстроўваецца славутая Сафія ў водах Заходняй Дзвіны — ракі, у якой «берагі сярэбраныя, а дно залатое». І так будзе заўсёды.

**Міхась ТКАЧОЎ**

# ЗБРОЯ НАШЧАДКАЎ РАДЗІМІЧАЎ

Эпохай амаль бесперапынных вялікіх і малых войнаў можна назваць гісторыю Беларусі IX—XIII стст. Крывічы, дрыгавічы і радзімічы не аднойчы са зброяй у руках абараняліся ад нападзенняў хазараў і варагаў. Даводзілася канчаць свае паходы ў лясах і багнах Белай Русі і крыжакам, і татарскім заваёўнікам. Свабодалюбства нашых продкаў добра вядомае. Дасканалая па тым часе зброя дапамагала ім бараніць айчыну ад чужынцаў. Найцікавейшай старонкай нашага мінулага з'яўляецца гісторыя старажытнай зброі. У ёй, як у люстэрку, адбіліся ўзровень развіцця збройнага рамяства і кавальскіх ведаў продкаў, характар і напрамак сувязей з суседнімі краінамі і народамі. Па знаходках зброі IX—XIII стст. можна меркаваць пра склад феадальнага войска, пра змены ў тактыцы баявых дзеянняў на працягу некалькіх стагоддзяў, а таксама вырашыць шэраг іншых істотных гістарычных пытанняў. Менавіта ў гэтым значэнне зброі як помніка сівой старажытнасці і часткі нашай гістарычнай спадчыны.

Дзякуючы намаганням археолагаў, якія праводзяць даследаванні старажытных паселішчаў і могільнікаў на тэрыторыі Беларусі, сучасная навука мае магчымасць вывучаць вялікую колькасць узораў усходнеславян-

скай зброі і вайсковай экіпіроўкі. Ёсць сярод іх мячы, шаблі, сякеры, часткі лукаў, кальчуг і панцыраў, цугляў і шпор. Значная частка гэтай зброі выраблялася мясцовымі ўсходнеславянскімі майстрамі. Іх прадукцыя карысталася вялікім поспехам нават у суседніх народаў Усходняй Прыбалтыкі, Скандынавіі, Польшчы, а таксама ў полаўцаў.

Вытворчасць зброі, якая знаходзілася пад юрысдыкцыяй дзяржаўнай улады, была яе манаполіяй. Таму гэта рамяство не магло развівацца стыхійна ў кожным паселішчы і было, напэўна, сканцэнтравана пераважна ў гарадскіх цэнтрах, дзе знаходзіліся галоўныя спажыўцы зброі — дружыннікі.

Да апошняга часу заставалася невядомым, ці былі на тэрыторыі Беларусі збройныя майстэрні. Лічылася, што значная частка зброі прывозілася сюды з буйных цэнтраў старажытнай Русі, у першую чаргу з Кіева, а таксама з замежных краін. Толькі некаторыя знаходкі ў Полацку (раскопкі Г. В. Штыхава) і тэхналагічныя асаблівасці ўзораў зброі з іншых паселішчаў на тэрыторыі Беларусі сведчылі, што тут працавалі і свае майстры.

Першая на тэрыторыі Беларусі збройная майстэрня, якая існавала да пачатку XIII ст., раскапана ў 1987 г. на вакольным горадзе летапіснага Гомія. Знаходка здзіўляе сваёй унікальнасцю і каштоўнасцю. Відавочна, яна карэнным чынам павінна змяніць існуючыя ў навуцы ўяўленні не толькі аб збройнай справе нашых продкаў, але, наогул, аб узроўні развіцця нашай старажытнай матэрыяльнай культуры.

Яшчэ некалькі гадоў таму Гомій — летапісны папярэднік сучаснага Гомеля — асабліва не цікавіў гісторыкаў і археолагаў. Яго лічылі невялічкім валасным цэнтрам старажытнай Русі ў XII—XIII стст., які знаходзіўся па-за межамі галоўных з'яў палітычнага і эканамічнага жыцця раннефеадальных княстваў. Гісторыя Гомія амаль што не турбавала і кіеўскіх летапісцаў, са слоў якіх мы і даведаліся аб існаванні гэтага населенага пункта на паўднёвым усходзе Беларусі. Гомій упершыню згаданы ў летапісу 1142 г. у сувязі з барацьбой смаленскага князя Расціслава Мсціславіча і чарнігаўскіх князёў Альговічаў. Расціслаў намагаўся захапіць Гомій, аднак яму давялося задаволіцца толькі ягонай воласцю. Відавочна, горад быў моцнай па тым часе фартэцыяй і не скарыўся гэтаму ваяўнічаму князю. На працягу XII — пачатку XIII ст. Гомій уваходзіць у склад Чарнігаўскага княства, у другой палове XII ст. ён ужо вылучаецца ў самастойны удзел.

Даследаванні рэштак Гомія, што знаходзяцца ў цэнтры сучаснага Гомеля на правым беразе Сожа, былі распачаты краязнаўцам І. Х. Юшчанкам яшчэ ў 1926 г. Ягоныя шурфы, закладзеныя ў парку каля былога палаца Румянцавых і Паскевічаў, прыйшліся на моцныя напластаванні старажытнага гарадзішча. Пошукі былі працягнуты экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР, а пасля археалагічным атрадам Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Асноўны вынік апошніх даследаванняў нечаканы: гісторыя Гомія налічвае каля 1000 гадоў і ён, такім чынам, належыць да найбольш старажытных усходнеславянскіх гарадоў Беларусі. З'явіўшыся на месцы ўмацаванага паселішча другой паловы І тысячагоддзя н. э., Гомій быў заснаваны летапіснымі радзімічамі. Ужо ў XII ст. ён ператвараецца ў буйны горад Верхняга Падняпроўя, адміністратыўна-палітычны, ваенны, гандлёва-эканамічны і рэлігійны цэнтр.

Пад час раскопак былі знойдзены рэшткі некалькіх абарончых збудаванняў, жылля, майстэрняў, гаспадарчых пабудоў, вуліц, мноства каштоўных рэчаў X—XIII стст. Але асаблівую цікавасць выклікала знаходка рэштак збройнай майстэрні. Майстэрня загінула ў пачатку XIII ст., калі на землі ўсходнеславянскіх княстваў прыйшлі манголы. Магчыма, гэта здарылася ў 1239 г., калі быў захоплены і спалены Чарнігаў. У выніку пажару










«Зброя нашчадкаў радзімічаў»:
1. Наверша мяча; 2. Частка кальчугі і тачыльны камень; 3. Перакрыжаванне мяча; 4. Панцырскія пласціны.

падлога будынка была літаральна пахавана пад гарэлымі бярвеннямі і дошкамі сцен і даху. Зверху ўпала печ, ад якой застаўся толькі пласт чырвонай гліны. На падлозе ж захавалася велізарная колькасць рэчаў, больш за 1500 адзінак, многія з якіх спякліся пад уздзеяннем агню. Большасць знаходак — гэта дэталі наступальнай і абарончай зброі.

Частка з іх адносіцца да распаўсюджаных у XII — XIII стст. тыпаў: гэта перакрыжаванні і навершы мячоў і шабляў з бронзы і чорнага металу, наканечнікі ножнаў. Але сустракаюцца нечаканыя знаходкі, напрыклад, кавалкі жалезнага наруча (ці наручаў). Такая частка экіпіроўкі цяжкаўзброеных ратнікаў ва усходнеславянскіх землях да XIV ст. сустракаецца надзвычай рэдка, а ў Беларусі наогул з'яўляецца першай знаходкай. Вядомы толькі адзін старажытнарускі аналаг — наруч з гарадзішча «Дзявіч-Гара» пад Каневам на Кіеўшчыне, які паходзіць з пласту мангольскага пагрому 1240 г.

Былі знойдзены і цікавыя фрагменты кальчужных палотнаў, складзеныя з сотняў кольцаў. Амаль усе кавалкі належаць да розных кальчуг: дыяметр і форма кольцаў у асобных фрагментах адрозніваецца. І, нарэшце, самай вялікай па колькасці і самай каштоўнай знаходкай з'яўляюцца пласціны ад баявых панцыраў («броней дощатых» — па тэрміналогіі летапісцаў), што ляжалі на падлозе пабудовы. Па самых прыблізных падліках, іх колькасць больш за 1000 адзінак. Тут гомійскі комплекс не мае сабе роўных на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Па падліках аўтарытэтнага даследчыка усходнеславянскай зброі А. М. Кірпічнікава, на помніках старажытнай Русі IX—XIII стст. знойдзена толькі 270 пласцін прыкладна ад 26-ці «броней».

Колькасць пласцін у комплексе значна перавышае тую, што неабходна для вырабу адной «брони». Па падліках вучоных, панцыры перыяду сярэднявякоўя складаліся прыблізна з 600 пласцін. Размяшчэнне знаходак у пабудове выключае іх прыналежнасць да некалькіх скончаных вырабаў: мы маем справу менавіта з наборам панцырных «запчастак». Аб гэтым жа сведчыць і выключная тыпалагічная разнастайнасць знойдзеных у Гоміі пласцін. Калі разгледзець выявы самых розных «броней» на старажытнарускіх мініяцюрах, іконах і інш., то (пасля гомійскіх знаходак) робіцца зразумелым, што мастакі XII—XIV стст. не выдумлялі іх, а засноўвалі свае малюнкі на рэальна існаваўшых разнастайных сістэмах панцырнай абароны ратнікаў.

Былі знойдзены бракаваныя і неапрацаваныя пласціны, што сведчыць аб іх вырабе на месцы. Гэта думка пацвярджаецца таксама фрагментамі кальчуг і неапрацаваным канчаткова навершам мяча. Цікава, што на падлозе пабудовы знойдзена вогнішча. Суседства яго побач са звычайнай печчу пераконвае ў тым, што тут адбываўся вытворчы працэс, які патрабаваў агню. Нарэшце, і гэта галоўны аргумент на карысць майстэрні, побач з «запчасткамі» знойдзены і металаапрацоўчыя інструменты, сярод якіх каля 20 тачыльных камянёў, круг-тачыла, а таксама вялікі напільнік.

Гомельскія знаходкі не толькі канчаткова пацвярджаюць тэзіс аб мясцовай панцырнай вытворчасці ў нашчадкаў радзімічаў перад мангольскім нашэсцем, але і ўдакладняюць уяўленні аб узроўні спецыялізацыі старажытнага збройнага рамяства на Беларусі. Так, лічылася, што ад каваля зброя адразу трапляла да спажыўца-дружынніка. Новыя матэрыялы дазваляюць вылучыць у ланцуг «каваль — спажывец» яшчэ і майстра, які выконваў толькі апрацоўку зброі і яе рамонт.

**Алег МАКУШНІКАЎ**



# БАРБАРА РАДЗІВІЛ




## УРЫВАК З ДРАМАТЫЧНАЙ ПАЭМЫ РАІСЫ БАРАВІКОВАЙ

Ужо некалькі гадоў палкае, гарачае каханне звязвае Барбару Радзівіл і вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. Закаханыя пачуваюць сябе шчаслівымі... Але надыходзіць 1547 год. Братам Барбары (роднаму Радзівілу Мікалаю Рудаму і стрыечнаму Радзівілу Мікалаю Чорнаму) стала вядома, што каралевіч і вялікі князь тайна разаслалі сваіх ганцоў-агентаў у сталіцы заходніх дзяржаў, каб весці перамовы наконт шлюбу. З гэтага моманту і пачынаецца інтрыга, якая зробіць каханне больш моцным, і ўзнясе Барбару на вяршыні трона, а пакуль... браты паведамляюць ёй аб тайных намерах Жыгімонта Аўгуста.

*Невялікая зала, абабітая блакітным атласам.*
*Ва ўсім — бляск, багацце.*
*Барбара адна. Відно, што яна перажывае вялікую ўзрушанасць.*

Б а р б а р а *(на нейкі момант задумліва)*
Паўстала зло...
і ў сэрцы рухнуў хорам.
Нянавісцю кіпець спрабуе кроў,
і розум слепне. Ява была ўчора,
а сёння — сколкі недаснёных сноў!
Каханая...
*(Голас затрапятаў)*
Ноч клікала да Бога.
Сужыцелька...
*(Паўза)*
А дзесь імчыць ганец,
і ты не маеш права анікога
ў тым вінаваціць, стаўшы пад вянец
патайнага, няўтрымнага жадання...
Анёлы адслужылі ўсё сваё
І вось прыйшла хвіліна пакарання —
у сэрца д'ябал цэліць вастрыё,
скляпанае з ілжы, з інтрыг, з атруты...
*(Нечакана гнеўна)*
Прымі яго і д'яблу дай зарок!
І выслізні гадзюкаю з пакуты,
і джаль таго, каго мілуе зрок.
З кім зноў і зноў дзяліць свой
будзеш ложак,
джаль вуснамі, хай носіць, як апёк,
мой пах, мой дух, што сцерці ўжо не зможа,
апёк — кляймо... У помсту ўжо! Знарок!
*(Нібыта нешта ўяўляе)*
Бяжы насустрач, з горда ўзнятым тварам,
як сарна..., не забыўшы аднаго:
пі ўдосталь, захлынайся яго жарам,
і здзекуйся са слабасці яго.
Хай пашквілюсы ўсе муры і вежы
аздобяць і на вочы трапяць Той,
што будзе да канца яму належаць,




Жыгімонт Аўгуст.



Барбара і Жыгімонт. Акварэль Яна Матэйкі.

працятая атрутнай віднатой;
ён быў маім!
Маім! І што карона?!
Нас звязвала бяздонне нашых губ:
п'еш — не нап'ешся...
*(Паўза)*
Каралева Бона?![1]
Яму ці ёй патрэбен гэты шлюб?!

*У залу ўваходзіць Радзівіл Мікалай Руды. Барбара адыходзіць углыб залы. Гавораць на адлегласці.*

М і к а л а й Р у д ы

Што вырашыла ты? Перажыла?
*(Смяецца)*
У гэткай справе розум не залішні.
Што цвет раскошны колішні для вішні,
калі вясной нядаўняй не цвіла?!

Б а р б а р а *(асцярожна)*

Цябе не разумею. Толькі ўчора...

М і к а л а й Р у д ы

Не дагаворвай! Аўгуст быў з табой!
У скрыні — падарункі, кветак — мора...
Ты цешся, але Чорны за сцяной
чакае... Нам патрэбна твая згода.
*(Рашуча)*

Ад Аўгуста адмоўся назаўжды!

Барбара

Якая ж вам ад гэтага выгода?
Пакуль ні ў чым не бачу я бяды.
Наадварот...

Мікалай Руды *(ўзрываецца)*

Табе да сэрца, бачу, насміханне?
У кожным горле — косткай Радзівілы.
Калі б маглі — ўзнялі б цябе на вілы!
На родзе скула — нам тваё каханне!

Барбара

Вы пачалі не з гэтага,—
з ганцоў!
У розныя заходнія сталіцы...
Цяпер звязаць не можаце канцоў?

Мікалай Руды *(разводзіць рукамі)*

Не бачыў свет яшчэ такой дурніцы!
Ды нават нейкі дробненькі шляхтун
за брамаю... ледзь выблісне заранка:
«Паскудніца! Паганка! Выляжанка!»,
а хутка стане Аўгуст твой, што ўюн.
Май гонар! Ты сястра мне па крыві.

Барбара

Хм-м... З сястрою адпаведна і жыві...
*(Паўза)*
Замысліў нешта Чорны...
Звадыяш!
Але, калі ўжо церпіць гонар наш...

Мікалай Руды *(радасна)*

Ты згодна?!
*(Паўза)*
Мо, паедзь у Геранёны?[2]
Хай будзе Аўгуст цалкам адлучоны!

Барбара *(як адрэзвае)*

Мне добра тут. Ты зняў з душы вярыгі?

Мікалай Руды *(падкрэслена лагодна)*

А ты?.. Паўсюдна бачыш цень інтрыгі!

*Трошкі марудзіць. Задаволена пасміхаецца.*
*Выходзіць.*
*Паўза.*
*Барбара пачынае хадзіць з канца ў канец залы.*
*Настроі мяняюцца.*

Барбара

Цяжкі дурман у галаве!
*(З адчаем)*
Пачуццям як угаманіцца?
Ах, Аўгуст... Княжыць на Літве,
а трызніць аб чужых сталіцах.
*(Гатова ўзарвацца)*

Які раптоўны інтарэс?!
Чыё прывабіла аблічча?
Чый стан яго няўхільна кліча?
Пытанняў — непраходны лес!
Свой боль хачу расперазаць,
а ў сэрцы, чую, глухне вера...
*(Амаль пяшчотна)*
Ужо ніколі не сказаць,
што я — рака,
а ён — мой бераг!
*(З прыкрасцю)*
Пярэварацень... Здань начы!
Было такім жаданым цела!
Начною птушкай на плячы
ад штораз новых ласк трымцела...
*(Паўза)*
І што мог падказаць мне дзень?
Хавала здрада ўсе прыкметы.
Хай пасмяецца зараз цень
заўчасна згаслае Эльжбеты! [3]
*(Нервовы смех, як плач)*
Эльжбета...
З Кракава... сюды!
Каранаваная, і тут жа...
Наложніца — сляды ў сляды,
больш даражэйшая для мужа.
А потым я... Ён гэта мог!
Самоту не ўтрымаць у скрутку.
Эльжбета, поўная трывог,
канала ля яго ад смутку.
*(Думае, магчыма, нешта ўспамінае.
З пачуццём раскайвання)*
Нібыта выеў вочы дым!
Ён жа, вясёлы і ўлюбёны,
яшчэ жалобным днём сваім
імчаў да нас... у Геранёны!
*(Спыняецца)*
Я — грэшніца! Бог не са мной.
Адвернуты, Ён грэх не зніме...
І тыя двое... за сцяной
*(выдыхае, як стогн)*
не памыліліся.
Я — з імі!

ЗАСЛОНА

---

[1] Бона Сфорца, каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка Жыгімонта I Старога, маці Жыгімонта II Аўгуста.
[2] Геранёны — замак Гаштольда Станіслава, першага мужа Барбары.
[3] Эльжбета Аўстрыйская, першая жонка Жыгімонта Аўгуста.

# ЗВАРОТНЫ АДРАС — ТУРМА НКУС

Існуе сусветная літаратура, створаная за кратамі. Праўда, помнікі пісьменства савецкіх турмаў займаюць у ёй невялікае месца па розных прычынах. Каб пісаць, трэба як мінімум мець чым і на чым пакідаць графічныя адзнакі, трэба мець сілы, каб весці нават дзённік, неабходна элементарнае месца — а калі ў камеры на пяцярых — дваццаць пяць, трыццаць, сорак няшчасных?

Да таго ж, няма ніякай гарантыі, што напісанае не адгукнецца дадатковым тэрмінам у лагеры.

На справе ў сталінскіх турмах усё было яшчэ прасцей: пісаць, калі і дазвалялася, дык толькі заявы. Усё іншае — парушэнне рэжыму і як вынік — пазбаўленне прагулкі (калі яна была), карцар.

За пісьмамі — характары і перакананні розных людзей, падобных у галоўным — іх лёсы, трапіўшы ў сілавое поле сталінскага сацыялізму, завяршаюцца ў няволі.

Тры пісьмы, якія падрыхтаваны да друку — толькі невялікая частка пошты, што слалі вязні з надзеяй на дапамогу.

З надзеяй, якая звычайна не спраўджвалася.

*ПРАКУРОРУ РЭСПУБЛІКІ БССР*

**гор. Мінск**

*Ад асуджанага ПАЎЛАВА Андрэя Мінаевіча,*
*вёс. Гарэлікі, Дабрамысленскага с/Савета,*
*Лёзненскага р.*

СКАРГА

*Я меў 41 год, інвалід царскай вайны, у 1935 г. я ўступіў у калгас у сваёй вёсцы, мне калгас даваў непасільную работу, я ў 1935 г. выйшаў з калгаса.*

*Старшыня калгаса мне пагражаў: ты выйшаў з калгаса, дык мы збярэмся з калгаснікамі і цябе заб'ём і навядзем на цябе крадзеж, таму што ты раней судзімы і мы за цябе не будзем адказваць. Я паверыў старшыні. У 1936 г. у красавіку месяцы да мяне ў начны час калгаснік стукаецца ў акно, я паглядзеў у акно і ўбачыў вялікі натоўп людзей, і ўспомніў пагрозы старшыні. Я зайшоў у другую палавіну, расчыніў акно і кінуўся ўцякаць. Па мне пачалі страляць, колькі па мне было стрэлаў, дакладна не памятаю. Я спалохаўся. Стрэлаў было 4—5. А там з калгаснікамі была міліцыя і Ўпаўнаважаны НКУС. Я не ведаў, што там была міліцыя, то б я не ўцякаў. Як я ўцёк, дык адразу пайшоў на станцыю Заольша і паступіў працаваць у кар'ер на чыгунку, дзе я прапрацаваў 3 месяцы, пакуль мяне скарацілі. Пасля гэтай работы я працаваў прыватна ў калгаснікаў па 7 лістапада. 30-га лістапада мяне міліцыянер арыштаваў і Ўпаўнаважаны НКУС дае мне справу, што я калі ўцякаў праз акно і адстрэльваўся. Справу мне дае Ўпаўнаважаны НКУС ЛЕБЕДЗЕЎ зусім ілжывую, у сувязі з тым, што*

ў 1935 г. у бары па дарозе ўчыняліся грабяжы, мне Ўпаўнаважаны НКУС ЛЕБЕДЗЕЎ прапаноўваў пайсці ў бор адшукаць злодзеяў і выдаць іх міліцыі. Я не згадзіўся, таму што гэта справа небяспечная. Мне ў той час ЛЕБЕДЗЕЎ прыгразіў, не пайшоў ты да мяне ў памочнікі, дык табе будзе горш, таму што ты раней судзімы, дык я цябе падвяду пад 39 арт. Вось мне Ўпаўнаважаны НКУС ЛЕБЕДЗЕЎ даў справу, што я страляў і мне прыпісалі судзімасці за крадзеж 2, якіх у мяне не было і няма. З-за хуліганства я маю толькі ўсяго дзве судзімасці, адну судзімасць у 1931 г., судзімы па 84 за антысемітызм тэрмінам на 2 гады, за крадзеж я судзімы ў 1933 г. на 6 мес. Вось мае 2 судзімасці. Цяпер з 1936 г. з 9 лістапада я сяджу ў Віцебскай турме — 21-га снежня 36 г. мне прыйшоў прыгавор на 3 гады. Я прызнаў сябе сапраўды не вінаватым у тым злачынстве, якое на мяне наведзена лжыва. Дык я прашу Вашага распараджэння не адмовіць у маёй просьбе разгледзець маю справу і не дапусціць да гібелі маіх утрыманцаў: маю жонку і майго сына, які мае 1 год, таму што яны пакінуты ў чужой кватэры без кавалка хлеба і не маюць ніякой гаспадаркі.

Прасіцель ПАЎЛАЎ.

30/XII-36 г.

Кліменцію Яфрэмавічу ВАРАШЫЛАВУ
ад чырвонага партызана Сінельнікава Ф. С.
БССР г. Мінск з турмы.

ЗАЯВА

Таварыш Варашылаў, пішу Вам трэцяе пісьмо і прашу Вашага ўздзеяння на ворагаў народа нашай роднай непераможнай Радзімы.

Тав. Варашылаў, я ніяк не магу забыць Вашых слоў і слоў нашага Вялікага тав. Сталіна, тое зберагчы, тое захаваць з гонарам і захаваць ад усякіх ворагаў. У маім сэрцы бальшавіцкім усё гэта захоўваецца да сённяшняга дня і будзе захоўвацца да апошняй мінуты майго жыцця. Я біўся за гэту справу са зброяй у руках з 1917 па 1924 год. З 1924 на вытворчасцях, ніводнай мінуты не забываючы сваіх задач з рознымі ўхіламі, з рознымі вылазкамі, з рознымі цяжкасцямі даводзілася змагацца гэтаксама, як і на франтах грамадзянскай вайны.

Я быў батрак, які нічога не меў, як да рэвалюцыі, так і пасля. Я ў 1917 годзе пайшоў з першым Петраградскім баявым атрадам на барацьбу. У дадзены час тры разы ранены і раз кантужаны, але ніяк не магу з ворагамі змірыцца, як з трацкістамі-зіноўяўцамі і іншымі вылазкамі, якіх у нас у СССР ёсць многа яшчэ і на сённяшні дзень, якія праводзяць работу як на вёсцы, так і ў горадзе, якія вырвалі з нашых рук тав. Кірава, рабілі замахі на шэраг іншых нашых кіраўнікоў, якія выключалі і выключаюць з радоў партыі лепшых сыноў нашай партыі. Але нам нічога не страшна. Калі адабралі партбілет, дык той адданасці і таго, чым кляліся ў 1917, не адыме ніхто, чым мы загартаваны з 1917 года і ні перад чым спыняцца не будзем. Той не ёсць бальшавік, які толькі носіць партбілет для прыкрыцця сваёй шкуры. У нас такіх вельмі многа ёсць яшчэ ў радах нашай партыі.

Я быў членам партыі, мяне выключылі трацкісты БССР Буда-Кашалёўскага райкома, сам сакратар райкома Пеўзнер, які хаваў сына Троцкага Сядова. Пасля яго таксама судзілі і далі яму 6 гадоў пазбаўлення волі, але я застаўся праз паразіта беспартыйным. Але нягледзячы на гэта, я сябе лічу самым адданым непахісным бальшавіком.

Барацьбы сваёй не кідаю ні на адну мінуту. Я вытрымана і дакладна пісаў пра ўсе гэтыя беззаконні, якія заўважаў у любым кутку контррэвалюцыі, якая звівалася, у газеты нашай партыі, у раённыя арганізацыі і пракуратуру, савецкі кантроль, НКУС, сігналізаваў аб бясчынствах. Але гэтая група, з якой я стаў змагацца, яны цесна звязаны з раённымі арганізацыямі, якія сталі на мяне мець

*немагчымыя ганенні і затасоўваць мяне з маёй сям'ёй, сталі нападаць на жонку маю і на мяне, але нягледзячы на гэта я абапіраўся на вышэйшыя арганізацыі, што мне дапамогуць змагацца з бясчынствамі, якія рабіла гэта група. Тады гэта група бачыць сваю пагібель, і каб змыць з сябе пляму, каб застацца не раскрытай, вырашае стварыць на мяне небывалыя абвінавачанні і садзяць мяне ў турму і я ўжо сяджу 41 дзень дарма і перажываю розныя перажыванні толькі з-за сваёй адданасці і барацьбы за справу партыі і Савецкай улады, ніхто ў мяне нічога не пытае. Я лічу, што гэта справа не павінна быць затасована без усялякага высвятлення і праверкі, але ў мяне ёсць хваляванне, што з-за таго, што я сяджу ў турме і мяне ніхто ні пра што не пытаецца, варожы элемент можа падмануць савецкую ўладу і партыю і працягваць сваю контррэвалюцыйную работу, а таму прашу Вас, тав. Варашылаў, дапамагчы мне ў барацьбе за справу гонару, сумлення, прашу як роднага бацьку, бо я люблю Вас, не пакіньце без усякай увагі, не дайце контррэвалюцыі пасмяяцца над партызанам і будзёнаўцам, вышліце каго-небудзь для сакрэтнага расследавання гэтай групы.*

*Група гэта знаходзіцца ў БССР, Смалявіцкі раён, Ладскі спіртзавод і ў раёне. Кіруе групай дырэктар спіртзавода Хайтаў, 2-гі Мазыль, 3-ці старшыня сельсавета Фурусевіч і шэраг іншых асоб.*

*Я застаюся чакаць у Мінскай турме.*

*Чакаю адказу з бальшавіцкім прыветам да Вас*

*Фёдар Сцяпанавіч СІНЕЛЬНІКАЎ.*

*1 студзеня 1937 г.*

*Народнаму Камісару Унутраных спраў С.С.С.Р*
*т. ЯЖОВУ*
*ад камандзіра аддзялення Асобнага эскадрона*
*сувязі 7-й Самарскай кавалерыйскай дывізіі*
*імя Англійскага Пралетарыяту*
*Нязнамава-Любуціна Максіма*
*Рыгора Лазаравіча Васільевіча,*
*асуджанага нарсудом горада Мінска*
*па арт. 250 б і 118 а КК БССР*

СКАРГА

*З нараджэння 1915 г. па 1929 г. я жыў у вёсцы ў бацькі Любуціна Лазара Паўлавіча. У 1929 г. мяне разам з сям'ёй выслалі на Урал як кулакоў. Вясной 1930 года я з Урала ўцёк у родную вёску і жыў да восені 1930 года. Братоў і сясцёр у мяне два браты і чатыры сястры ў калгасе. Калі восенню пачалі лавіць нова ўцёкшых з высылкі, я змушаны быў пакінуць родных і паехаў у горад Гомель на ўласны хлеб. На работу мяне не прымалі як малалетку, але каб не пайсці на базар бадзяжнічаць, я сваю метрыку пераправіў пры дапамозе таварышаў на 1913 год нараджэння і ўладкаваўся на курсы цесляроў. Пасля заканчэння ўсіх курсантаў перавялі на будаўніцтва, дзе я працаваў да ліпеня месяца 1931 г. Далей працаваць у Гомелі я не асмеліўся, таму што ў Гомель панаехала на работу шмат маіх аднавяскоўцаў і я баяўся, што яны мяне выдадуць міліцыі. У гэты час у Гомелі была вярбоўка цесляроў на Далёкі Усход. Я паспяшаўся завербавацца і паехаў на ДВК на 6 месяцаў. Пасля заканчэння тэрміну наша брыгада беларусаў раз'ехалася ў розныя бакі. Я паехаў працаваць у Хабараўск у затон Амурскага рачнога транспарту. Працаваў на рамонце, потым залічылі мяне матросам на параход «Блюхер». Але перад выхадам у плаванне я ўбачыў з боку набранай каманды на «Блюхер» да мяне незадаволенасць, што я малады, нясталы. Я пакінуў затон і паехаў ва Уладзівасток. Там я завербаваўся цесляром на востраў Сахалін у леспрамгас, дзе і працаваў да пашпартызацыі (1933 год). Пашпарт мне не далі як не маючаму дакументаў. Маю даведку і метрычную выпіску згубіў яшчэ гомельскі вярбоўшчык і пасля заканчэння тэрміну першай вярбоўкі мне давялося працаваць па саюзнаму білету*

*і даведках з месца работы. На Сахаліне мне далі тэрмін на выезд і я паехаў ва Уладзівасток, але без пашпарта нідзе на работу не прымаюць. Тут і пачалося маё пакутлівае жыццё.*

*Я чалавек непатрэбны краіне, усюды мяне выганяюць, куды б я ні пайшоў. Усё ж мне ўдалося знасці работу на Седане за 6 км ад Уладзівастока. Нас бяспашпартных узялі пілаваць дровы для Седанбуда. Жылі ў лесе ў палатцы. Але праз два месяцы з гэтага прытулку давялося адчаліць. Выязная пашпартная камісія дала 24 гадзіны на выезд куды-небудзь.*

*Я ведаю, што, калі прыедзеш у родную вёску, не толькі не дадуць пашпарт, але яшчэ трапіш на этап на Урал. Але жыць хочацца. Узяў на апошнія грошы білет да Чыты, спадзеючыся там знайсці работу, але гэта надзея была дарэмная. Уладкавацца не мог і без адзінай капейкі паехаў да Гомеля, а потым пехатою прыйшоў у родную вёску Гурату. Пражыўшы 6 дзён, выправіў даведку сельсавета і метрычную выпіску ў свайго таварыша Любуціна Максіма Архіпавіча. Прыехаў у Гомель і ўладкаваўся працаваць у Портбудзе з 1934 па май 1936-га. Быў звolены, бо не меў пашпарта. Калі працаваў на Портбудзе, я быў адпушчаны ў свой Кармянскі раён за атрыманнем пашпарта. Забралі ў мяне дадзеныя таварышам яго дакументы і я зноў застаўся без дакументаў. Уладкаваўся на цагельны завод, дзе працаваў да ліпеня 1935-га і тут быў звolены, бо не меў пашпарта.*

*Тут я канчаткова быў забыты лёсам і не ведаў, куды падзецца. Ісці красці — не здольны. Вырашыў ісці ў свой раён і здацца НКУС. Начальнік НКУС, распытаўшы мяне падрабязна, сказаў: «Савецкая ўлада ўмее караць, але ўмее і літаваць. Арыштоўваць я вас не буду. Падавайце ў выканком на аднаўленне права голасу». Але такіх людзей, як начальнік НКУС, мне знайсці больш не ўдалося.*

*Страціўшы апошнюю магчымасць жыць у сваёй вобласці, пайшоў назад у Гомель. Тут пачаліся блуканні, якія цяжка забыць. Шукаць работу я хутка перастаў, таму што было дарэмна: нідзе без пашпарта не прымаюць. Перада мной былі тры шляхі: красці, пакончыць з сабой або сесці ў турму. Я непатрэбны чалавек грамадству. Толькі баязлівасць не дала мне пайсці па першых двух шляхах. Я пайшоў да начальніка Гомельскай турмы з мэтай здацца ў няволю. Больш сумленнага выйсця я не знаходзіў з майго гаротнага стану.*

*Звяртаючыся да начальніка тав. Хромава, мне было абыякава, што я на сябе не нагавару. Абы мяне арыштавалі, непатрэбнага працоўнаму грамадству чалавека. Я сказаў: «З малых год краду і нідзе не працую. Жадаю атрымаць пакаранне». І калі мне ён адмовіў у маёй просьбе, дык я заплакаў як яшчэ ніколі не плакаў. Толькі слёзы дарослага чалавека ўскалыхнулі сэрца начальніка. Ён пачаў пісаць мне накіраванне ў крымінальны вышук і спытаў у мяне прозвішча. Тут міжволі ў мяне з языка сарвалася прозвішча сына актрысы з пастаноўкі «Без віны вінаватыя» Нязнамава Рыгора Васільевіча.*

*Застаючыся без працы, я параўноўваў свой лёс з лёсам Нязнамава, таму яно міжволі сарвалася з языка. Калі з'явіўся ў крымінальны вышук, я спадзяваўся, што мяне пасадзяць, але яны чамусьці не зрабілі гэтага. Пачалі пытацца, з кім краў, колькі прыводаў маю. Я як загіпнатызаваны адказваў начальніку. Праз сем дзён пытаюцца пра адно і тое ж, і я паўтараю адно і тое ж, дзеля таго, каб спынілі мае блуканні, узялі ў турму і далі работу. Адзін з начальнікаў гаворыць мне: «Як думаеш, дакументы заводзіць трэба ці не?» Я адказаў, не ведаю, таму што меў на ўвазе жыццё на турэмным двары. Яны мне далі накіраванне ў кантору «Дабрабыт», чаго я зусім не чакаў. Я ўзрадаваўся, што мне даюць магчымасць жыць сумленна. Прапрацаваў паўтара месяца, атрымаў дакумент аб знешнім выглядзе — прызнанне мяне з 1913 года нараджэння. Я павінен быў з'явіцца ў Гомельскі РВК і быў прыняты ў рады РККА, дзе я служыў і апраўдаў той давер, які мне далі служыць у РККА.*

*Мне далі два гады, але я не ведаю, за што я атрымаў гэты тэрмін. Прашу, таварыш Яжоў, паведамце, за што я атрымаў гэтыя два гады і дзе праўда?*

**НЯЗНАМАЎ-ЛЮБУЦІН.**

*18 сакавіка 1937 года.*

Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў да друку
**Аляксандра ЛУКАШУКА**

# «ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ»

Калі быў [вялікі князь Вітаўт] у немцаў [у Прусіі], у Мар'інградзе ў магістра, прыехала да яго шмат князёў і баяраў літоўскіх, і пачаў ён з дапамогаю нямецкаю ваяваць Літоўскую зямлю. Князь жа вялікі Ягайла са сваёю маці, вялікаю княгіняю Ульянаю, [знаходзіўся тады] ў Віцебску, а брат яго князь Скіргайла ў Літве ў Троках. І немагчыма стала змагацца вялікаму князю Ягайлу і Скіргайлу супраць князя вялікага Вітаўта, які часта ваяваў Літоўскую зямлю, бо ў яго сабралася вялікая сіла. Тады князь вялікі Ягайла выклікаў яго з Прусіі і даў яму Луцк з усёй зямлёю Валынскаю, а ў Літоўскай зямлі — яго бацькаўшчыну.

Памёр кароль Казімер Кракаўскі, і не было ў яго сыноў, толькі адна дачка Ядвіга. І пачалі ляхі з Кракава слаць да вялікага князя Ягайлы [прапановы], каб ён прыняў хрышчэнне старога Рыма і ўзяў бы ў іх каралеўну Ядвігу сабе за жонку, і стаў бы ў іх каралём у Кракаве і ва ўсёй Ляшскай зямлі. Ён жа, вялікі князь Ягайла, параіўшыся са сваёю маці, княгіняю Ульянаю, і з усімі князямі і баярамі Літоўскай зямлі, паехаў у Ляшскую зямлю, у Кракаў. Там ён хрысціўся і браты яго, і князі, і баяры літоўскія, і ўзяў [Ягайла] каралеўну Ядвігу сабе за жонку, і быў каранаваны таго каралеўства каронаю. І ад таго часу пачалі хрысціць Літву ў лацінскую веру, і прыслаў архібіскуп біскупа ў Вільню для Літоўскай зямлі, і тады пачалі касцёлы ставіць па ўсёй зямлі Літоўскай.



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт (1350—27.X. 1430).

Той жа зімы, калі кароль быў у Кракаве з усімі князямі і баярамі літоўскімі, князь Андрэй Полацкі прыйшоў з немцамі лівонскімі і з усімі латгаламі на Літоўскую зямлю і шмат паваяваў, папаліў гарадоў і сёлаў, замкам жа ў Літоўскай зямлі нічога не ўчыніў і затым вярнуўся назад. Той жа зімы князь Святаслаў Смаленскі ўчыніў змову з князем Андрэем Полацкім. Ён [пайшоў] у Літву, а князь Святаслаў да Оршы, і шмат бяды [яны] нарабілі людзям. Так бязлітасна, не па-хрысціянску мучылі хрысціян, што мы не чулі, каб нават у час нападаў няверных так мучылі, так катавалі хрысціян: збіралі іх, закрывалі ў хатах і падпальвалі, у вялікіх харомах бэлькі прыпаднімалі, палонных пад сцены галовамі клалі і заціскалі, жанчын і дзяцей на вастраколле натыкалі, іншыя ж здзекі над хрысціянамі брыдка і апісваць. Ні Антыёх Сірыйскі, ні Юліян злачынец так не мучылі хрысціян. Замку ж Оршы

Працяг. Пачатак публікацыі і прадмова В. Чамярыцкага ў № 1 за 1991 г.



Крыжацкі комтур. З надмагілля Кунона фон Ліхтэнштайна (Малюнак К. Ліндэр).

нічога не ўчынілі і затым вярнуліся назад.

Той жа зімы пад весну ў вялікі пост пачаў думаць [князь] Святаслаў са смаленскімі баярамі, быццам лютае звяр'ё, бы не хрысціяне, [як бы зноў учыніць] кровапраліцце хрысціянам. І пайшоў к гораду Мсціславу і аблажыў яго, і пачаў здабываць замак, парокамі біць [сцены], а ў зямлю Мсціслаўскую вояў паслаў. І шмат крыві хрысціянскай пралілося [тады]. Нават Богу было агідна глядзець, як так званыя хрысціяне сваіх братоў-хрысціян не па-чалавечы, не па-хрысціянску катуюць.

Князь жа вялікі Скіргайла і князь вялікі Вітаўт, прыехаўшы з Польшчы ад брата свайго, караля [Ягайлы], уведалі, што князь Святаслаў Смаленскі раней пад Віцебскам быў, потым к Оршы прыходзіў, а цяпер каля Мсціслава стаіць і замак парокамі б'е. І вельмі засмуціўся князь вялікі Скіргайла, і пайшоў са сваімі братамі, з вялікім князем Вітаўтам і з Канстанцінам, і з Карыбутам, і з Сямёнам Лугвенам. І ўспомнілі [яны] слова божае: «Якою мераю чалавек мерае, так і яму адмераецца, а што пасее, тое і пажне». «Мы ж,— казалі яны,— не ўчынілі яму нічога злога, а ён, будучы з намі ў міры, парушыў прысягу і дагавор, нашу зямлю ваюе і кроў хрысціянскую пралівае. Мы ж ідзём на яго, спадзеючыся на Бога і на сілу крыжа». І прышлі [яны] к гораду Мсціславу. Князь жа Святаслаў, які стаяў каля горада і біў Мсціслаўскі замак парокамі, учуў у пятніцу перад Вялікаднем, што ідзе на яго князь вялікі Скіргайла з братамі, падрыхтаваў сваё войска і пайшоў супраць іх. І як сышліся палкі, Бог учыніў



Рыцар XIII ст. Малюнак Яна Матэйкі паводле старой пячаткі.

паводле слоў прарока Давыда, які сказаў: «Спадзе хвароба на яго галаву і наверх яго няпраўда сыйдзе». І яшчэ: «Выкапаў яму і сам упадзе ў яе».

Дапамог Бог вялікаму князю Скіргайлу і князю вялікаму Вітаўту, а князь Святаслаў кінуўся наўцёкі са сваімі князямі, і з баярамі смаленскімі, і з усім сваім войскам. Божаю сілаю тут немалое дзіва учынілася: было пабіта шмат вояў, князёў і баяраў [смаленскіх], і самога вялікага князя Святаслава забілі. Сына ж яго, князя Юрыя, вялікі князь Скіргайла знайшоў сярод трупаў моцна параненага, ледзь жывога, узяў яго і пачаў лячыць рознымі лекамі, і галаву яму абстрыг, бо шмат было ран, і ўжо страціў надзею, што ён выжыве. Князь жа вялікі Скіргайла залячыў яму раны і прывёз да яго маці, вялікай княгіні Святаслававай, і пасадзіў яго на вялікім княжанні ў Смаленску, бо за князем Юрыем была замужам дачка старэйшай сястры Скіргайлавай. Адышоў ад горада Смаленска вялікі князь Скіргайла і пайшоў у сваю зямлю Літоўскую, і стаў жыць у Троках, а ў Вільню кароль [Ягайла] прыслаў старасту свайго ляшскага.

Князь жа вялікі Вітаўт валодаў тады Луцкам і ўсёю зямлёю Валынскаю, а ў Літоўскай зямлі — сваёю бацькаўшчынаю. І было яму вельмі цяжка, што вялікім княжаннем валодае чужы, чаго раней не бывала ў Літоўскай зямлі. Тады ён учыніў раду з усімі князямі і баярамі Літоўскай зямлі, і калі Скіргайла ад'ехаў быў у Полацк, князь вялікі Вітаўт прыйшоў к Вільні, каб ёю завалодаць. Княгіня ж вялікая Ганна была тады ў Гародні. Вільняне не паддаліся тады яму, бо далі прысягу каралю [Ягайлу] і [князю] Скіргайлу, і не ўзяў ён Вільні. І пайшоў [князь вялікі Вітаўт] са сваёю княгіняю, сваімі князямі і баярамі да магістра [у Прусію] і адтуль пачаў ваяваць Літоўскую зямлю з немецкаю дапамогаю. І ўжо заваяваў быў [палову] Літоўскай зямлі па раку Вілію, і Полацк паддаўся яму. І ўбачыў кароль [Ягайла] і князь вялікі Скіргайла, што ўжо не могуць яны ўтрымаць Літоўскую зямлю перад [націскам] вялікага князя Вітаўта.

Князь жа вялікі Вітаўт разам з немецкімі сіламі пайшоў к Вільні. І сустрэў яго князь Скіргайла з братам сваім Вігантам і з літоўскім войскам на рацэ Віліі каля гарадка пад назваю Вейкшышкі. І дапамог Бог вялікаму князю Вітаўту, і пераможаны былі літоўскія вoі, і кінуліся наўцёкі. І шмат іх пабілі, а іншых князёў і баяраў у палон пабралі: князя Сямёна Яўнутавіча, князя Глеба Святаславіча Смаленскага, князя Васіля Канстанцінавіча, князя Івана Цету, Льва Плаксіча і шмат іншых князёў паланілі. І пайшоў князь вялікі Вітаўт к гораду Вільні з усім сваім войскам і аблажыў горад Вільню, і пачаў здабываць Крывы горад, біць па ім з пушак, і ўзяў [Вітаўт] Крывы горад. Тады ж немцы забілі князя Карыгайлу Альгердавіча, бо ляшская застава ў Верхнім горадзе не пусціла ў горад князя Карыгайлу. Князь жа вялікі Вітаўт, узяўшы Крывы горад і [Літоўскую] зямлю павяваўшы, вярнуўся ў Прусію.

Таго ж лета да вялікага князя Вітаўта ў Прусію ў Мар'інград прыйшлі паслы з горада Масквы ад вялікага князя Васіля Дзімітравіча і прасілі ў князя вялікага Вітаўта аддаць дачку замуж за вялікага князя Васіля Дзімітравіча. Князь жа вялікі Вітаўт аддаў дачку сваю, князёўну Соф'ю, і адпусціў яе з Мар'інаграда, а з ёю паслаў князя Івана Альгімонтавіча [Гальшанскага]. З горада Гданска яны паплылі на караблі па моры і прыехалі да горада Пскова. Псковічы ж выказалі ім вялікі гонар і з пашанаю праводзілі іх да Вялікага Ноўгарада. Ноўгарадцы таксама іх ушанавалі і праводзілі з пашанаю да горада Масквы да вялікага князя Васіля Дзімітравіча. Князь жа вялікі Васіль выслаў насустрач ім з пашанаю братоў сваіх, князя Уладзімера Андрэевіча і князя Андрэя Дзімітравіча і шмат іншых князёў і баяраў, і сустрэлі вялікую князёўну Соф'ю з вялікаю пашанаю. Тады быў праасвяшчэнны мітрапаліт Кіпрыян з архіепіскапамі і епіскапамі, з архімандрытамі, ігуменамі і з усім святарствам, і сустрэлі яе пачэсна з крыжамі перад



Луцкі замак. З альбома Н. Орды.

горадам Масквою. І ўчынілі шлюб пачэсны і павянчалі вялікага князя Васіля Дзімітравіча з вялікаю князёўнаю Соф'яю, і было вяселле выдатнае, пашаны годнае, і павесяліліся раскошна. Мы ж да папярэдняга вернемся.

Князь вялікі Вітаўт жыў у магістра ў Мар'інградзе, і прыслаў да яго кароль [Ягайла] пасла з братам сваім Скіргайлам, так кажучы: «Не губляй больш, браце, зямлі Літоўскай, нашай і сваёй бацькаўшчыны, пайдзі, браце, з намі на мір, будзь з намі ў вялікай брацкай любові і вазьмі сабе вялікае княжанне ў Вільні, пасад дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута». Князь вялікі Вітаўт, параіўшыся са сваімі князямі, з князем Юрыем Нарымонтавічам Бельскім і з князем Іванам Альгімонтавічам [Гальшанскім], пайшоў у Літву і сеў у Вільні на вялікім княжанні на пасадзе дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута, і рада была яму ўся зямля Літоўская і Руская.

Князь Карыбут Альгердавіч пачаў дакараць [вялікага князя Вітаўта], выяўляць сваё непаслушэнства, пачаў збіраць супраць яго сваё войска і выступіў супраць яго. Князь жа вялікі Вітаўт паслаў сваё войска [пад кіраўніцтвам] Васіля Барэйкавіча і Гінвіла супраць яго (Карыбута). І сышліся войскі каля Дакудава, і былі разбіты воі князя Карыбута, і кінуліся наўцёкі, і шмат іх было пабіта. Сам жа князь Карыбут уцёк у Ноўгарадак. Там жа былі яго княгіня і дзеці. Князь жа вялікі Вітаўт сабраў сваё войска і сам пайшоў к Ноўгарадку, і аблажыў горад, і ўзяў Ноўгарадак, а князя Карыбута і княгіню, і дзяцей узяў у палон.

Потым памерла княгіня [Ульяна], жонка Альгерда, і кароль [Ягайла] аддаў горад Віцебск свайму сакальнічаму Фёдару Вясне. Князь жа Свідрыгайла быў тады яшчэ малады. І стаў Фёдар Вясна валодаць горадам Віцебскам і ўсёю Віцебскаю зямлёю паводле парады і загада караля Ягайлы. Князь жа Свідрыгайла не мог таго вынесці, што Фёдар Вясна горадам валодае, а яму не падначальваецца. І забіў ён



Замак вялікіх магістраў у Мальборку — былой сталіцы Тэўтонскага ордэна.

Фёдара, і ўзяў горад Віцебск. І вельмі шкадаваў кароль Ягайла, што такое здарылася, і пісаў грамату брату свайму, вялікаму князю Вітаўту, каб ён помсту ўчыніў за тую крыўду.

Князь жа вялікі Вітаўт, узяўшы з сабою князя Скіргайлу і сабраўшы вялікае войска, пайшоў к гораду Віцебску на князя Свідрыгайлу, і прыйшоў [спачатку] к гораду Друцку. Друцкія князі сустрэлі яго і аддаліся яму на службу, і пайшоў [вялікі князь Вітаўт] к Оршы. Аршанцы ж зачыніліся ў замку і абараняліся два дні, а затым здалі замак. І адтуль пайшоў ён к Віцебску на князя Свідрыгайлу. Князь жа Свідрыгайла зачыніўся ў замку. І стаў вялікі князь Вітаўт здабываць замак. Тут і вялікі князь смаленскі Юрый Святаславіч прыйшоў на дапамогу з усімі смаленскімі сіламі і аддаўся вялікаму князю Вітаўту на службу. І пачалі яны моцна здабываць Віцебскі замак і пушкі паставілі. Віцябляне не вытрымалі і пачалі паддавацца вялікаму князю Вітаўту. Князь жа Свідрыгайла выйшаў з замка і здаўся на волю вялікага князя Вітаўта. Князь жа вялікі Вітаўт узяў горад Віцебск і пайшоў затым у Вільню.

Той жа зімы на весну вялікі князь Вітаўт пайшоў у зямлю Падольскую, а князь Уладзімер Альгердавіч, які тады быў у Кіеве, не захацеў пакланіцца і пакарыцца вялікаму князю Вітаўту. Той жа вясны князь вялікі Вітаўт пайшоў і ўзяў гарады Жытомір і Оўруч, і прыехаў да яго князь Уладзімер. Таго ж лета на восень князь вялікі Вітаўт вывеў яго з Кіева і даў яму Капыль, а ў Кіеве пасадзіў князя Скіргайлу. Сам жа князь вялікі Вітаўт пайшоў на Падольскую зямлю, а князю Скіргайлу загадаў ісці з Кіева к Чаркасам і Звянігараду. Князь жа Скіргайла з божаю дапамогаю і воляю вялікага князя Вітаўта ўзяў Чаркасы і Звянігарад і вярнуўся затым у Кіеў.

Калі ён княжыў у Кіеве, быў нехта Фама Ісуфаў, манах, які служыў намеснікам мітрапаліта пры святой Сафіі на мітрапалітавым двары. Захацеў [аднойчы] князь Скіргайла паехаць за Дняпро на паляванне. Той жа Фама паклікаў тады яго на пір на мітрапалітаў двор. І калі князь Скіргайла быў у яго на піры, я ж таго [добра] не ведаю, бо быў тады малады, але некаторыя гаворацЬ, быццам бы той




Смаленск XVI ст.

Фама даў князю Скіргайлу атруту выпіць. І пасля таго піру паехаў князь Скіргайла за Дняпро да Мілаславічаў і там захварэў ў чацвер напярэдадні Хрышчэння, у суботу прыехаў у горад Кіеў хворы, хварэў 7 дзён і памёр у сераду. І панеслі яго на галовах святары са свечкамі, пяючы песні жалобныя, з горада Кіева да царквы святой Багародзіцы Пячорскай, і пакладзены быў цудоўны і добры князь Скіргайла, названы ў час святога хрышчэння Іванам, каля труны святога Феадосія Пячорскага. Князь жа вялікі Вітаўт, пачуўшы, што князь Скіргайла памёр, паслаў у Кіеў князя Івана Альгімонтавіча і даў яму Кіеў ва ўладанне. Мы ж да папярэдняга вернемся.

Калі вярнуўся князь вялікі Вітаўт з Прусіі на вялікае княжанне, ён адпусціў свайго палоннага князя Глеба Святаславіча ў Смаленск на вялікае княжанне, а князю Юрыю Святаславічу даў горад Раслаўль. Князь Глеб, знаходзячыся ў Смаленску, пачаў выказваць непаслушэнства вялікаму князю Вітаўту. Князь жа вялікі Вітаўт слаў [да яго] пасланцоў [з патрабаваннем] выправіцца. Ён жа (князь Глеб) не захацеў выпраўляцца. Тады князь вялікі Вітаўт з усімі сваімі сіламі пайшоў к гораду Смаленску на князя Глеба Святаславіча, і калі прыйшоў к Смаленску — здаўся яму [князь] Глеб з горадам Смаленскам. Князь жа вялікі Вітаўт аддаў горад Смаленск ва ўладанне князю Яманту і Васілю Барэйкавічу, а князю Глебу даў горад Паланы. Сам жа князь вялікі Вітаўт вярнуўся ў Літоўскую зямлю. У тую ж зіму паслаў [вялікі князь Вітаўт] князя Сямёна Лугаена з вялікім войскам і смаленскімі сіламі на князя Алега Разанскага, і вельмі шмат паланілі ў Разанскай зямлі, і з перамогаю вярнуліся назад. Тады зіма была вельмі сцюдзёная.

**Той жа зімы на весну прыехаў князь вялікі Васіль Дзімітравіч Маскоўскі да свайго цесця, вялікага князя Вітаўта, у Смаленск у вялікі пост. І ўшанаваў [маскоўскі князь] князя вялікага Вітаўта шматлікімі падарункамі: залатымі ланцугамі і паясамі, сабалямі і дарагімі тканінамі, залатым посудам і адборнымі коньмі. Князь жа вялікі Вітаўт, зяця свайго, вялікага князя [маскоўскага] ўшанаваў і абдарыў усялякімі падарункамі: адзеннем, расшытым каштоўнымі камянямі і жэмчугам, аксамітам, іншымі дарагімі тканінамі, коньмі з залатымі сёдламі, рознымі дзівоснымі рэчамі, і з вялікаю пашанаю адпусціў [яго] у горад Маскву. Сам жа [вялікі князь Вітаўт] паехаў у Літву.**

**Працяг будзе.**

# КАМЕНТАРЫІ

Працяг «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх», які змешчаны вышэй, адрозніваецца ад яго пачатку, аповесці пра Кейстута. Ён не такі цэласны і дэталізаваны паводле свайго выкладу і нагадвае своеасаблівы цыкл кароткіх сюжэтных гістарычных апавяданняў, падзеі ў якіх апісваюцца з пэўнай адлегласці ў часе і прасторы. Галоўны герой большасці з іх — літоўска-беларускі князь Вітаўт. Гэта сведчыць, што і працяг «Летапісу» складзены ў стане яго прыхільнікаў, хутчэй за ўсё, у асяроддзі беларускага духавенства, як паказвае яго мова, багатая на царкоўнаславянізмы і дзе-нідзе перасыпаная цытатамі з Бібліі.

Пра час стварэння гэтай часткі «Летапісу» можна меркаваць па адной характэрнай дэталі. Апавядаючы пра падзеі 90-х гг. XIV ст., летапісец адзначае, што ён і князь Свідрыгайла былі тады яшчэ маладыя. Значыць, пісалася гэта дзесьці ў канцы 20-х гг. XV ст. Храналагічна працяг «Летапісу» ахоплівае час ад уцёкаў князя Вітаўта ў 1382 г. з Крэўскага замка да крыжакоў да смерці князя Скіргайлы ў пачатку 1397 г. Сустрэча ж Вітаўта з маскоўскім князем Васілём Дзімітравічам адбылася крыху раней, у 1386 г.

Ягайла Уладзіслаў (каля 1348—1434), у 1377—1392 гг.— вялікі князь літоўска-беларускі. У 1385 г. заключыў дагавор з Польшчаю, уклаў вядомую Крэўскую унію, ажаніўся з польскай каралеўнай Ядвігай і з 1386 г. стаў польскім каралём. У 1392 г. пад націскам гістарычных абставін, у выніку цяжкай барацьбы вымушаны быў перадаць рэальную ўладу ў Літоўска-Беларускай дзяржаве свайму стрыечнаму брату Вітаўту. Ад Ягайлы і яго чацвёртай жонкі, беларускі Соф'і Гальшанскай, пачалася дынастыя Ягелонаў.

Ядвіга (1372—1399) — дачка не Казімера, які памёр у 1370 г., а Людвіка, караля венгерскага і польскага (1370—1382). Паколькі ні ў яе бацькі, ні ў папярэдняга польскага караля Казімера Вялікага не было наследнікаў па мужчынскай лініі, яна ў 1384 г. была каранавана на польскі трон, а праз два гады выдадзена замуж без яе асабістай волі за Ягайлу. Памерла бяздзетнай.

Андрэй Полацкі (1325—1399) — сын Альгерда і Марыі, княгіні віцебскай. Ваяваў з крыжакамі, татарамі і Ягайлам, у 1377 г. уцёк у Пскоў і заключыў саюз з маскоўскім князем Дзімітрыем Іванавічам, з пскоўскім атрадам удзельнічаў у Кулікоўскай бітве (1380). Вярнуўшыся ў Полацк, зноў выступіў супраць Ягайлы ў саюзе са Святаславам Смаленскім. У 1386 г. у бітве пад Мсціславам быў разбіты, палонены, сядзеў у адным польскім замку, адкуль уцёк у 1393 г. і перайшоў на бок Вітаўта. Загінуў у 1399 г. у бітве з татарамі на р. Ворскле.

Антыёх Сірыйскі — відаць, маецца на ўвазе цар Антыёх IV з дынастыі Селеўкідаў, які цараваў у Сірыі ў 175—164 гг. да н. э. і вызначаўся асаблівай жорсткасцю ў час свайго панавання, што выклікала вядомае паўстанне іудзеяў у Палесціне пад кіраўніцтвам Макавеяў.

Юльян — рымскі імператар (361—363), яры язычнік, выступаў супраць хрысціянства, праследаваў хрысціян, за што празваны быў Адступнікам.

Скіргайла Іван (1354—1397) — родны брат Ягайлы, падтрымліваў апошняга ў барацьбе з Вітаўтам. У 1388—1392 гг. быў намеснікам Ягайлы ў Вялікім княстве Літоўска-Беларускім. У 1395 г. Ві-

таўт перавёў яго ў Кіеў, дзе ў студзені 1397 г. ён памёр пры загадкавых абставінах. Хрышчаны па праваслаўнаму абраду, застаўся яму верны да самай смерці, відаць, таму заслужыў ад беларускага летапісца такія прачулыя словы: «цудоўны і добры». Цікавую характарыстыку гэтаму князю пакінуў выдатны польскі гісторык XV ст. Ян Длугаш: «Скіргайла, князь троцкі, быў смелым, разважлівым, разумным чалавекам, які добра валодаў зброяй і словам... Многіх, асабліва тых, з кім быў у дружалюбных адносінах, як з сябрамі і братамі, ён не раз калечыў мечам, будучы п'яным, пасля ж, працверазеўшы, сам старанна аглядаў іх раны і лячыў, бо быў знаёмы з лекарскай справай».

Святаслаў Смаленскі (1359—1386) — вялікі князь у Смаленску, нашчадак мясцовай дынастыі Расціславічаў. Змагаючыся за захаванне палітычнай незалежнасці Смаленскага княства, вымушаны быў лавіраваць перад націскам больш магутных суседзяў. У 1370 г. удзельнічаў у паходзе Альгерда на Маскву.

Кіпрыян — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (1390—1406), балгарын родам. Да пераезду ў Маскву на працягу пятнаццаці гадоў (з 1375 г.) быў мітрапалітам у Вялікім княстве Літоўска-Беларускім, жыў у Кіеве, Вільні і Навагрудку, дзе былі мітрапалітавы двары. Праводзіў кампрамісную, міратворчую палітыку, імкнуўся суцішыць канфрантацыю супернікаў, вялікіх князёў маскоўскіх і літоўска-беларускіх.

Карыбут Дзімітрый — сын Альгерда ад другой жонкі Улляны, князь Ноўгарада Северскага. Яго часам блытаюць з іншым Дзімітрыем, Альгердавым сынам ад першай жонкі Марыі. Большасць даследчыкаў схіляецца да высновы, што Ноўгарадак, у якім Вітаўт паланіў Карыбута, гэта Ноўгарад Северскі, а не беларускі Наваградак, які тады непасрэдна ўваходзіў у вялікакняскія ўладанні і замак якога меў дзяржаўны статус.

Мар'інград, інакш Марыенбург (цяпер горад Мальборк у Польшчы) — былая сталіца Тэўтонскага ордэна, які быў разбіты ў вядомай Грунвальдскай бітве 1410 г. На падтрымку яго вялікіх магістраў Конрада Цолнера (1382—1390) і Конрада Валенрóда (1391—1393) абапіраўся Вітаўт у сваёй барацьбе з Ягайлам за вялікакняскі пасад у Вільні.

**Пераклад са старабеларускай**
**і каментарыі**
**Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА**

# ПОМНІК АГІЯГРАФІІ

***Сярод багатай беларускай агіяграфічнай спадчыны, дзе апісваюцца жыціі святых, пачэснае месца займае «Аповесць пра Меркурыя Смаленскага». Аповесць не замыкаецца на галоўным героі, а перадае таксама атмасферу грамадскага жыцця тагачаснага Смаленска. І тут у чытача, якому Смаленск усведамляецца як адвечна рускі горад, можа ўзнікнуць пытанне: чаму друкуюць «не наш» помнік на такім дэфіцытным часопісным лістажы? Але ж варта згадаць, што Смаленск упершыню памінаецца ў летапісах пад 862—865 гг. як цэнтр племені крывічоў, што ў 1229 г. разам з Полацкам і Віцебскам ён заключыў гандлёва-палітычнае пагадненне з Рыгай, што ў 1230 г. там быў пасаджаны на княжэнне полацкі стаўленнік Святаслаў Мсціслававіч. У часы ж Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага Смаленск — адзін са значных палітычных і культурных цэнтраў гэтага поліэтнічнага дзяржаўнага ўтварэння. Смаляне плячо ў плячо з воямі са Мсціслава, Полацка, Віцебска здабылі перамогу пад Грунвальдам. Тут ствараюцца беларускія летапісы (Смаленская хроніка, Смаленскі летапіс), дзе змяшчаюцца запісы аб паходзе вялікага князя Альгерда разам са Святаславам Смаленскім на Маскву ў 1370 г., пра бітву Вітаўта з татарамі на рацэ Ворскле ў 1399 г., пра барацьбу Свідрыгайлы і Жыгімонта***

*Кейстутавіча за вялікакняжацкі стол у 30-я гг. XV ст. і іншыя падзеі з гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. У гэтай дзяржаве Смаленск знаходзіўся да 1686 г. і ўвесь час быў каменем спатыкнення паміж суседзямі, пакуль па «Вечным міры» Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржаваю канчаткова не адыйшоў у склад апошняй.*

*Але ланцуг гісторыі цяжка парушыць. Менавіта і памяць аб агульнакрыўскіх каранях робіць цераз тысячу гадоў Смаленск тым горадам, дзе збіраецца VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя бальшавікоў, каб «абвесціць самастойную Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь з тэрыторыяй Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў».*

*Таму далёка не далёкі і зусім не чужы для беларуса горад, пра які расказваецца ў «Аповесці пра Меркурыя Смаленскага».*

**Павел ЛОЙКА,**

# АПОВЕСЦЬ ПРА МЕРКУРЫЯ СМАЛЕНСКАГА

***(Аповесць) пра дзіва, што здарылася ад абраза Найсвяцейшай Багародзіцы са святым пакутнікам Меркурыем у горадзе Смаленску, і пра нашэсце бязбожнага цара Батыя Багаславі, ойча!***

Хачу расказаць сёння аповесць пра вялікі цуд, раней забыты і занядбаны, а нават калі і запісаны, то потым пазбаўлены належнае славы і памяці. Зараз жа, паны і братове, багатыя і ўбогія, вяльможы і ўладары,— словам, і саноўныя, адкінуўшы ганарлівасць, і простыя людзі нашага горада,— давайце ўспомнім дзівосны цуд найдзіўнейшай заступніцы нашай і міласцівай нашай памочніцы — Царыцы Пані Багародзіцы, Якая нябачнай Сваёю Боскаю сілай і святым амафорам ахінае й захоўвае горад наш ад усялякай напасці і тайных варожых нашэсцяў, бедаў і нягод. Успомнім пра дзіва, дараванае Найчысцейшаю гораду нашаму, і пра Боскую дапамогу і перамогу нашаму гораду, атрыманую праз Яе ўгодніка — святога Меркурыя. Вы ж паслухайце ўважліва і прыйдзіце з малітваю да Багародзіцы, каб і цяпер Яна дапамагла нам праз цудадзейнасць Свайго ўгодніка (бо праведныя і пасля смерці жывуць), і даравала гораду Сваё заступніцтва, а гараджан ратавала ад усіх бедаў. Мы ж, атрымаўшы незлічонае мноства святых Яе дараванняў, не забудзем ніколі сказанняў пра гэтыя цуды.

Некалі Божаю воляй адбылося лютае нашэсце злых варвараў на ўсе хрысціянскія землі і на святы багатаваны горад Кіеў, што называўся раней «маці гарадоў». А было на гэта Божае наканаванне і вялікі праведны гнеў Яго, бо памножыліся беззаконні нашыя, і лютыя грахі, і мярзотная блудная нечыстата. Вось за што наслала на нас усетворная Божая правіца такую бяду і спусташэнне на нашыя гарады (бо не толькі адзін горад Кіеў, але і ўсе гарады і краіны Расійскай зямлі былі запалонены люта). Усе гарады і вёскі трапілі ў палон да ліхіх гэтых варвараў, і было злое гора цэрквам святым — разбурэнне і спусташэнне

лютае, і завяліся ў іх дзікія звяры, і згалелі людзі (царкоўныя), а святыя манастыры (ворагі) бязлітасна спусташалі, і руйнавалі вёскі і гарады. А святарам і людзям саноўным цяжкія калодкі ўскладалі на шыі, і ранілі іх крывава, а шмат каго і ўвогуле забівалі. А святых чарняцоў і чарніц секлі люта і неміласэрна. І ўвесь люд праваслаўны нёс на шыях сваіх ярмо прыгнёту паганскага.

Тады, убачыўшы гэткае гора, што сышло на ўсе землі краін хрысціянскіх, заплакала, нібы дзеталюбная маці, зямля. Бо напоўнілі лютыя варвары зямлю рускую полымем і дымам злабожнага і паганага свайго закону. Яны ж і сысункоў-немаўлятак адрывалі ад грудзей мацярынскіх і білі іх аб зямлю, а іншых праціналі зброяю; апаганьвалі цнатлівасць, гвалцілі маладых дзяўчат, разлучалі жонак з мужамі, а святых нявест Хрыстовых — манашак — апаганьвалі юрліва. Тады ж многія праваслаўныя і самі заколваліся і прымалі смерць, каб толькі варвары іх не апаганілі. І запалоньвалі люта праваслаўных бесчалавечныя воі: гналі іх неміласэрна, нібы жывёлу, звязаўшы ім валасы і падганяючы джыгаламі.

Не магла бачыць гэтага наша маці-зямля і стагнала: «Сыны, сыны рускія! Бачу вас, любых дзетак маіх, пакінутымі! Дзеці мае, дзеці! Угнявілі вы Бога вашага і Творцу майго Хрыста! Бачу, што адрываюць вас ад грудзей маіх, і праведным Божым судом трапляеце вы ў неміласэрныя рукі паганскія, і носіце на сваіх плячах ярмо рабскае. Смуткую я, бедная ўдава, дзеля мужа і любых дзетак сваіх! Удоўства ж маё — гэта спусташэнне манастыроў і цэркваў святых, і многіх гарадоў. Не магу я цярпець ужо смутку ад гэткае лютай бяды, і лямантую да Творцы ўсіх — Госпада Бога, Які стварыў усё і ўсіх: Не зважай на беззаконні людзей Сваіх, але злітуйся над імі міласэрна і сціш праведны гнеў Свой, і вярні іх мне, каб другі раз наследавалі яны Тваім, Госпадзе, наказам, бо Ты — Бог адзіны, Які мілуе грэшных». І калі б, убачыўшы і не церпячы такое бяды, не ўстагнала нават зямля, молячыся да Творцы, і не выявіла Царыца Пані Багародзіца незлічона большае і міласцівае дзіўнае Сваё заступніцтва, і не ўмаліла б Найчысцейшая Сына Свайго, Хрыста Бога і Спаса нашага, і не сцішыла б Сваім заступніцтвам праведны гнеў Яго,— хто б пазбавіў нас ад гэткай бяды — злой пакуты, і як зведалі б мы праўдзівыя гэтыя цуды!

(Такім чынам), здарыліся нашэсце і вялікі палон земляў праваслаўных бязбожным і злаверным ліхім варварам — царом Батыем, ад якога пацярпеў дзеля Хрыста блажэннаіменны вялікі князь Міхаіл Чарнігаўскі і баярын яго Фёдар. У 1237 годзе прыйшоў злабожны варвар і хрыстаборца (Батый) да Кіева і захапіў яго. А паколькі гэткую цяжкую рану паслаў на ўсіх нас Бог, то выйшаў Батый з Кіева і пайшоў, запалоньваючы гарады хрыстаносных, і дайшоў да самой Масквы, і захапіў яе ў палон. І пасля злога яе паланення і катавання вярнуўся назад, беручы гарады і цэрквы святыя рабуючы. І нельга расказаць падрабязна пра ўсе беды, што зрабіў хрысталюбным людзям люты й неміласэрны кат, і пра вялікія руйнаванні і рассыпанні святых Божых цэркваў, бо ад вялікай шкадобы дранцвее язык і перасыхае горла. І, не здольныя гэтае ўсё распавесці, пачнем нашае апавяданне і ўспомнім пра дзіўны подзвіг і перамогу святога Меркурыя.

У той год злога палону замысліў кат ненажэрны, ліхі крывапіўца, ці, лепей сказаць,— людажэр, напасці на багаратаваны горад Смаленск, і зрабіў гэта з адным волатам і яго-ным сынам, якога пасля забіў святы Меркурый. Бо найцяплейшая і бязгрэшная наша заступніца Пані Багародзіца, моцная дзяржава і непераможны ваявода, неадольная памочніца горада нашага знайшла

ў Смаленску Свайго ўгодніка — святога Меркурыя.

Пабачце ж, людзі, хуткую і міласцівую дапамогу гораду! З'явілася неяк уночы ў святой Сваёй царкве сама Пані Багародзіца, мовячы праз Свой абраз дзяку, гэта значыць, царкоўнаму вартаўніку: «Ідзі зараз да раба Майго Меркурыя на Падоле (і назвала яму месца і двор у горадзе), і скажы яму, што кліча яго Пані. І не заходзь у двор, і не стукай у браму, а калі ўбачыш, што стаіць сярод двара мужчына, то пакліч яго ціха: «Меркурыю, ідзі неадкладна, з усёю зброяй сваёй, бо кліча Пані цябе!» Дзяк жа ўпаў на царкоўны памост перад святым абразом Божай Маці, памочніцы нашай, і, плачучы, увільготніў слязамі сваімі падлогу, і ўстаў, і хутка прыйшоў на прызначанае месца — да двара, што паказала яму Найчысцейшая Багародзіца, і ўбачыў усё, як Тая казала: стаіць святы пасярод двара з узнятымі да неба рукамі, падпераааны і ўзброены, з усім вайсковым рыштункам, молячыся Гоcпаду Богу і Богамаці, Якая Яго нарадзіла (бо яшчэ перад дзякавым прыходам было ўжо сказана звыш яму пра перамогу, што будзе яму даравана). І, заўважыўшы дзяка, узрушыўся святы Меркурый, і калі дзяк назваў сябе, супакоіўся і з палёгкаю прастагнаў, бо адбывалася гэта глыбокаю ноччу. А дзяк стаў перад брамай і ціха сказаў, як яго навучылі: «Святча Божы Меркурыю! Зараз жа йдзі, бо кліча цябе Пані Багародзіца, як Яна ўжо сказала Сама табе перад прыходам маім». І расчыніў браму Меркурый, і пайшоў за дзякам на гару, дзе была царква Багародзічная, і, зайшоўшы туды, убачыў запаленую свечку перад тым самым абразом, ад якога быў голас дзяку. І ўкленчыў Меркурый, молячыся да святой Багародзіцы з вялікімі слязьмі і ўсхліпамі, аж пакуль другі раз не прамовіў яму, як раней дзяку, абраз святой Багародзіцы: «Угодніча Мой Меркурыю! Пасылаю цябе абараніць дом Мой, дзеля чаго і паклікала цябе, раба Майго, ад Рымскіх пенатаў!» Бо паходзіў гэты святы Меркурый са славутага княскага роду, а радзімай яго была зямля Рымская, адкуль ён у маладыя гады з'ехаў на службу і служыў самадзержцу Смаленскаму. Ці, праўдзівей сказаць, быў ён заклiканы і пасланы самою Паняю Багародзіцай на цудатворную і вялікую дапамогу гораду Яе і Яе найвялікшай царкве. Бо, рымлянін родам, вераю быў ён набожны хрысціянін грэчаскага абраду, вялікі змагар за праўдзівую веру, а цела сваё захаваў у цноце і чысціні. І прамовіла яму святая Багародзіца: «Хоча бязбожны кат з волатам сваім, і сынам яго, і ўсім сваім войскам напасці гэтае ночы на горад Мой і рабаваць яго. Але не пакінула я горад Свой і ўзненавідзела нaпышлівасць ілжывага гэтага ката, які, марна ўзнёсшыся, змізарняе праваслаўе. І ўмаліла Я Сына і Бога Майго, каб не аддаў Ён мой горад у палон і ў рабства злым варварам. Але ні гараджане, ні галава гарадскі, ні ўладар, ні святар найвялікшае гэтай царквы не ведаюць, дзе гэтае ночы і ў гэтую гадзіну стаяць лютыя воі. Ты ж ідзі на месца, што называецца Доўгі Мост, бо якраз там сабралася д'яблава войска лютага багаборцы, (каб напасці) на Мой горад. І скажу табе, што захочуць знішчыць цябе, але ты дапамагай і сілаю Хрыста Бога адолееш волата. І Я сама буду з табою, дапамагаючы табе, рабу Майму, і з'яўлюся перад супраціўнымі. І потым вернешся ты на тое ж месца перад горадам, дзе і ўвянчаешся сваёю крывёй і атрымаеш вянец перамогі ад Хрыста на памятку аб Ягонай крыві». І дасюль на полі перад горадам ёсць тое месца, дзе здарылася найдзіўнейшае за нас заступніцтва святой і найчысцейшай Багародзіцы. Гэтак сама й раней была выратавана Кесарыя, на дапамогу ў заступніцтва якой паслала Пані Багародзіца іншага ўгодніка Свайго — пакутніка Меркурыя, каб той

забіў законаадступнага ката — цара Юльяна.

Пачуў жа Меркурый словы святой Багародзіцы ад Яе абраза, што атрымае ён перамогу і прагоніць ворагаў, і прыме вянец нятленны і жыццё вечнае, і апанавала яго радасць. І пакланіўся святы Меркурый да зямлі перад святым абразом Багародзіцы, і пайшоў з царквы, і прыйшоў на месца, якое назвала яму Пані Багародзіца, і прайшоў праз гарадскую браму, не заўважаны вартаю, і прыйшоў на Доўгі Мост, і асяніў сябе знакам чэснага крыжа, так заклікаючы ў малітве Маці Хрыста Бога нашага: «О найсвяцейшая Пані Багародзіца, дапамажы мне адолець майго супраціўніка!» І пасля ўзяў свой меч і ўвайшоў у войска злабожных варвараў, і забіў іх моцнага волата, якога раптам ахапіла немач, а разам з ім і вялікае мноства іншых паганскіх вояў пасек мячом. А на зары прачнулася войска паганскае і ўбачыла вялікае дзіва: целы забітага магутнага волата і многіх іншых вояў. Тады перапоўніла іх лютая ненажэрнасць і зласэрнасць, і пайшлі на горад яны, каб яшчэ больш уславіць угодніка. Святы ж тым часам адышоў на месца, дзе прыняў вянец перамогі і, стоячы там, маліў святую Багародзіцу аб перамозе сваёй і аб смерці, кажучы: «Царыца і Уладарка ўсіх стварэнняў, Пані Багародзіца Вечнадзевая Марыя! Малітвай Сваёй агарні горад Свой і царкву, пакінь іх на вякі непашкоджанымі ад усялякіх вояў, пазбаў усіх бедаў. І за мяне, раба Твайго, умалі Сына Твайго, Хрыста Бога нашага, каб Той супакоіў мяне ў міры, забраў мяне з часовага гэтага свету і змясціў сярод Сваіх святых пакутнікаў. Бо хачу пацярпець я дзеля Хрыста і праліць сваю кроў за святую Тваю царкву. Амін». І адразу ж пасля малітвы пачуў ён голас: «Рабе мой! Мацуйся; атрымаеш ты ўсё, што прасіў. Ахаваю Я горад Свой непарушным да сканчэння веку. А твае, рабе Мой, мошчы будуць ляжаць у Маёй царкве гэтага горада».

І стаў святы з вялікай мужнасцю супраць вояў (варожых). І калі прыйшлі злыя воі на месцы, дзе стаяў святы, апалчыўся на іх святы Меркурый і перамог іх ўсіх. Тыя ж лямантавалі: «О гора! Як жа мы можам змагацца, калі процістаяць нам мужы, узброеныя бліскавіцамі, якімі паражаюць нас неміласэрна! І бачым апроч таго: стаіць жанчына цудоўная, вялікая, падобная сонцу, і мёртвых узнімае на дапамогу і пасылае іх супраць нас!»

А пасля перамогі склаў святы Меркурый галаву сваю паводле суда Божага: прыйшоў люты варвар (сын волата, забітага мячом Меркур'евым), ад якога і прыняў смерць блажэнны дзеля Госпада.

А калі адсеклі галаву святому Меркурыю, то ён сам узяў яе і прынёс у горад, і сказаў усім галавою сваёю адсечанай пра перамогу сваю і заступніцтва Царыцы Пані Багародзіцы. Гараджане ж, сабраўшыся на гэты цуд, пачулі пра дзівоснае заступніцтва Багародзіцы за горад Яе, і з вялікай пашанай, са спевамі псальмаў паклалі цела святога Меркурыя ў царкве святой Багародзіцы, перад кліраcам, злева, з боку Чырвонае Брамы.

І яшчэ расказаць не забудзем: праз некалькі дзён таму ж дзяку царкоўнаму з'явіўся святы Меркурый на абразе, нібы жывы, ва ўсім вайсковым рыштунку, і прамовіў яму: «Скажы гараджанам, каб павесілі зброю маю — кап'ё і шчыт — над труною маёй. А калі будзе якая бяда гораду,— хай вынесуць іх, услаўляючы Бога і Яго нарадзіўшую Маці, і ўспамінаючы мяне, раба Божага Меркурыя, і дасць вам Госпад Бог перамогу ад гэтае зброі, і будуць зняслаўлены ворагі». І павесілі (зброю) так, як наказаў святы Меркурый, і можна яе там убачыць цяпер і заўсёды. І была вялікая радасць гараджанам, што бачылі перамогу святога, і ўсхвалілі яны святога, узносячы славу Творцу Богу — Бацьку, і Сыну, і Святому Духу ад сёння, заўсёды й давеку. Амін.

**Пераклад Аляксея МЕЛЬНІКАВА**

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ ЛУКІ СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

Раздзел І

ПРАДМОВА

**1 Як ужо многія ўзяліся складаць апавяданне пра падзеі, што адбыліся між нас,**

**2 Як перадалі нам тыя, што ад пачатку былі навочнымі сведкамі і служкамі Слова,**

1 Іаан. 1, 1; Яўр. 2, 3.

**3 Намерыўся і я, дакладна даследаваўшы ўсё з самога пачатку, апісаць па парадку табе, найшаноўнейшы Феафіле,**

**4 Каб ты пераканаўся ў непарушнасці тых звестак, якім навучаўся.**

**5 Быў у дні Ірада, іудзейскага цара, адзін святар на імя Захары, з Авіевай чаргі набажэнстваў, а жонка ў яго была з дачок Ааронавых і імя ёй Елісавета.**

1 Пар. 24, 10; Неям. 12, 17.

**6 Былі ж яны абое справядлівыя перад Богам, жывучы беззаганна паводле ўсіх Гасподніх запаведзяў і загадаў.**

**7 Ды не мелі дзіцяці, бо Елісавета была няплодная, і абое яны былі ў гадах.**

**8 Было ж: калі ў парадку сваё чаргі ён адпраўляў службу перад Богам,**

**9 паводле звычаю святарства, выпала яму жэрабя кадзіць, увайшоўшы ў Гасподні храм,**

Зых. 30, 7; Ляв. 16, 17; Яўр. 9, 6

**10 а ўсё мноства народу малілася знадворку ў час кадзення.**

**11 І паказаўся яму Гасподні Анёл, стаўшы праваруч кадзільнага ахвярніка.**

**12 І Захары, убачыўшы, збянтэжыўся і страх напаў на яго.**

**13 А Анёл сказаў яму: «Не бойся, Захары, бо выслухана твая малітва, і твая жонка Елісавета народзіць табе сына, і назавеш яго імем Іаан.**

**14 І будзе табе радасць і ўцеха і многія нараджэнню яго ўсцешацца.**

Лук. 1, 58; Іаан. 5, 35

**15 Бо ён будзе вялікі перад Госпадам, ні віна, ні сікеры піць не будзе і Святым Духам напоўніцца яшчэ ў лоне маці сваей,**

**16 і многіх з Ізраілевых сыноў скіруе да Госпада Бога іх.**

**17 І ён будзе ісці перад Ім у духу і сіле Іллі, каб сэрцы бацькоў скіраваць да дзяцей, і непаслухмяных да мудрасці справядлівых, каб падрыхтаваць Госпаду народ гатовы.**

Іс. 40, 3; Мал. 4, 6; Мар. 1, 3; 9, 12; Іаан. 1, 23.

---

Працяг. Пачатак у № 2, 1989, у №№ 1, 2, 3, 4, 1990, у № 1, 1991.

18 І сказаў Захары Анёлу: «Па
чым я пазнаю гэта? Бо я стары
і мая жонка ў гадах».
19 І ў адказ яму Анёл сказаў:
«Я Гаўрыіл, што перад Богам стаю,
і пасланы гаварыць з табою і аб-
вясціць табе гэтую добрую вестку;
20 і вось, будзеш маўчаць і не
зможаш гаварыць аж да дня, калі
збудзецца гэта, за тое, што ты не
паверыў маім словам, якія спраў-
дзяцца ў свой час.
21 І чакаў народ Захарыя і дзі-
віўся, што ён марудзіў у храме.
22 А, выйшаўшы, той не мог га-
варыць з імі, і яны зразумелі,
што ён бачыў з'яву ў храме; а ён
рабіў ім знакі і аставаўся нямы.
23 І было: калі скончыліся дні
яго службы, адышоў ён у свой дом.
24 Пасля ж гэтых дзён зачала
яго жонка Елісавета і таілася пяць
месяцаў, кажучы:
25 «Так мне зрабіў Госпад у дні,
калі была Яго ласка зняць з мяне
ганьбу сярод людзей».
26 А ў шосты месяц быў пасланы
ад Бога Анёл Гаўрыіл у галілейскі
горад, на імя Назарэт,
27 да дзевы, заручанай з мужам
на імя Іосіф, з дому Давідавага;
і імя дзевы — Марыя.

Мацв. 1, 18

28 І, увайшоўшы да Яе, сказаў:
«Радуйся, Жыватворная! Госпад з
Табою! [Благаславёная Ты між жан-
чын!]»
29 Яна ж збянтэжылася ад гэтага
слова і разважала: «Што гэта за
прывітанне?»
30 І сказаў ёй Анёл: «Не бойся,
Марыя, бо знайшла Ты ласку ў
Бога.
31 І вось, Ты зачнеш у лоне і на-
родзіш Сына і назавеш Яго імем
Ісус.

Іс. 7, 14; Мацв. 1, 21.

32 Ён будзе вялікі, і Сынам Най-
вышэйшага будзе названы, і дасць
Яму Госпад Бог трон Давіда, Яго
бацькі,

2 Цар. 7, 12; Пс. 131, 11; Іс. 9, 7.

33 І будзе цараваць Ён над до-
мам Якава навекі, і Яго Царству
не будзе канца».

І Пар. 22, 10; Пс. 44, 7; 88, 37; Іс. 9, 7; Іяр. 23, 5; Дан. 2, 44; 7, 14; Міх. 4, 7.

34 А Марыя сказала Анёлу:
«Як жа будзе гэта, калі мужа не
знаю?»
35 І ў адказ Анёл сказаў Ёй:
«Святы Дух найдзе на Цябе, і сіла
Найвышэйшага агорне Цябе; таму
і Святое, што народзіцца, будзе
названа Божым Сынам.

Дан. 9, 24.

36 І вось, Твая сваячка Елісавета
і тая зачала сына ў старасці сваёй,
і гэта шосты месяц у яе, якую назы-
ваюць няплоднай,
37 бо для Бога няма ніводнага
немажлівага слова».
38 А Марыя сказала: «Вось, Я —
раба Гасподня; няхай будзе Мне
згодна з словам тваім.» І адышоў
ад Яе Анёл.
39 І выбралася Марыя ў тыя дні
і пайшла з паспешнасцю ў горы,
у горад Юды,
40 і ўвайшла ў Захарыеў дом
і прывітала Елісавету.
41 І было: калі пачула Елісавета
Марыіна прывітанне, падскочыла
дзіця ў яе лоне, і Елісавета напоўні-
лася Святога Духа,
42 і ўсклікнула моцным голасам
і сказала: «Благаславёная Ты між
жанчын і благаславёны плод Твайго
лона!
43 І адкуль мне гэта, што Маці
Госпада Майго прыйшла да мяне?
44 Бо калі дайшоў голас Твайго
прывітання да маіх вушэй, падскочы-
ла ад радасці дзіцятка ў маім лоне,
45 і шчаслівая Тая, што паверыла,
бо збудзецца сказанае Ёй ад Гос-
пада!»
46 І сказала Марыя: «Узвелічае
Мая душа Госпада,

Іс. 61, 10; Авв. 3, 18.

47 і радуецца Мой дух у Богу,
Збаўцы Маім,
48 што ўгледзеў Ён паніжэнне
Свае рабы. Бо вось з гэтага часу
будуць мяне ўслаўляць усе пака-
ленні,

**49 бо стварыў Мне вялікае Моцны, і святое імя Яго;**
**50 І Яго міласэрнасць на пакаленні і пакаленні тых, што Яго баяцца.**
Пс. 102, 17.
**51 Ён паказаў моц Сваёй рукі, раскідаў пыхлівых думкамі сэрца іх;**
Пс. 32, 10; 76, 15; Іс. 52, 10.
**52 скінуў магутных з тронаў і ўзвысіў пакорлівых,**
Іоў. 5, 11; Іс. 66, 2.
**53 згаладалых здаволіў дабром, багатых адсылае ні з чым.**
І Цар. 2, 5; Пс. 33, 11; Мацв. 5, 6.
**54 Ён падтрымаў Ізраіля, Свайго слугу, каб напомніць міласэрнасць,—**
Пс. 97, 3; Іс. 41, 8.
**55 як сказаў Ён нашым бацькам,— да Аўрама і яго нашчадкаў навекі».**
Быц. 17, 19; 22, 18; Пс. 131, 11
**56 Прабыла ж Марыя з ёю месяцаў са тры і вярнулася ў Свой дом.**
**57 А Елісавеце надышоў час радзіць, і яна нарадзіла сына.**
**58 І пачулі яе суседзі і сваякі, што прымножыў Госпад Сваю міласэрнасць да яе і ўсцешыліся разам з ёю.**
**59 І было: у восьмы дзень прыйшлі абразаць дзіцятка, і хацелі назваць яго імем бацькі яго Захарыем.**
**60 І, азваўшыся, яго маці сказала: «Не-не, а будзе названы ён Іаанам».**
**61 І сказалі ёй: «Нікога няма з твае радні, хто называўся гэтым імем».**
**62 І паказвалі знакамі да яго бацькі, як хацеў бы, каб называлі яго.**
**63 І, папрасіўшы таблічку, ён напісаў, паведамляючы: «Ёсць яму імя — Іаан». І ўсе здзівіліся.**
**64 І зараз жа расчыніліся яго вусны і язык яго, і ён загаварыў, бласлаўляючы Бога.**
**65 І ахапіў страх усіх, што жылі наўкола, і па ўсіх гарах Іудзеі разыходзілася вестка пра ўсё гэта,**
**66 і ўсе, што чулі, бралі сабе да сэрца, кажучы: «Што ж будзе з гэтага дзіцяткі!» Бо Гасподняя рука была з ім.**
**67 І яго бацька Захары напоўніўся Святога Духа і прарочыў, кажучы:**
**68 «Блаславёны Госпад Бог Ізраілеў, што наведаў і выкупіў Свой народ,**
Мацв. 1, 21.
**69 І падняў нам рог збавення ў доме Давіда, Свайго слугі,—**
Пс. 131, 17; Іез. 29, 21.
**70 як сказаў адвеку вуснамі Сваіх святых пракаў,—**
Пс. 71, 4; Іяр. 23, 6; 30, 8—10.
**71 збавенне ад нашых ворагаў і ад рукі ўсіх, што ненавідзяць нас,**
**72 што Ён зробіць міласэрнасць нашым бацькам і ўспомніць Свой святы запавет,**
Быц. 22, 16; 26, 3; Ляв. 26, 42; Іяр. 31, 33.
**73 клятву, якой прысягаў нашаму бацьку Аўрааму, што дасць нам,**
Яўр. 6, 13.
**74 бясстрашна, вызваліўшыся з рукі ворагаў, служыць Яму**
Рым. 8, 15; Яўр. 2, 15.
**75 у святасці і справядлівасці перад Ім па ўсе нашы дні.**
1 Пят. 1, 15; Еф. 4, 24.
**76 І ты, дзіцятка, прарокам Найвышэйшага будзеш звацца, бо ты пойдзеш перад Госпадам, каб падрыхтаваць Яму дарогі,**
Лук. 1, 17.
**77 каб даць пазнаць збавенне Яго народу ў адпушчэнні іх грахоў,**
**78 праз сардэчную літасць нашага Бога, у якой наведаў нас Усход з вышыні,**
Іяр. 23, 5; Зах. 3, 8.
**79 каб засвяціць тым, што сядзяць у цемры і смяротным цені, і скіраваць нашы ногі на дарогу міру.»**
**80 Хлопчык жа рос і ўмацоўваўся духам, і быў ён у пустэльнях аж да дня свайго з'яўлення перад Ізраілем.**

## Раздзел 2

### НАРАДЖЭННЕ ІСУСА

**І было ж у тыя дні: выйшаў наказ кесара Аўгуста зрабіць перапіс усяе дзяржавы.**
**2 Гэта быў першы перапіс, калі Сірыяй уладарыў Квірыні.**

3 І ўсе ішлі запісвацца, кожны ў свой горад.
4 І пайшоў таксама Іосіф з Галілеі, з горада Назарэта, у Іудзею, у горад Давідаў, званы Віфлеем, бо паходзіў ён з дому і роду Давідавага,

1 Цар. 16, 1; 4. Іаан. 7, 42.

5 запісацца з Марыяй, з ім заручонаю, якая была цяжарная.
6 Было ж: калі яны там знаходзіліся, споўніліся яе дні, каб радзіць ёй,
7 і нарадзіла Яна Сына, Свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала Яго ў яслях, бо не было месца ім у гасподзе.

Мацв. 2, 1.

8 А былі ў гэтай самай ваколіцы пастухі, што жылі пад голым небам і сцераглі ўночы свой статак.
9 І Гасподні Анёл паўстаў перад імі, і Гасподняя слава азарыла іх, і яны перастрашыліся страхам вялікім.
10 І сказаў ім Анёл: «Не бойцеся, бо вось я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсяму народу:
11 нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсць Хрыстос Госпад.
12 І гэта вам знак: знойдзеце Немаўля, спавітае, Яно будзе ляжаць у яслях».
13 І раптам з'явілася разам з Анёлам мноства нябеснага войска, хвалячы Бога і кажучы:
14 Слава ў вышынях Богу
і на зямлі мір
у людзях Яго задавальненне!

Іс. 2, 4; 44, 23; 49, 13; 57, 19; Міх. 4, 3; Лук. 19, 38; Рым. 5, 1.

15 І было: калі адышлі ад іх Анёлы ў неба, пастухі казалі адзін аднаму: «Хадзем да Віфлеема і паглядзім, што там адбылося, пра што Госпад абвясціў нам.»
16 І, спяшаючыся, прыйшлі і знайшлі Марыю і Іосіфа і Немаўля, што ляжала ў яслях;
17 убачыўшы ж, расказалі пра тое, што ім было сказана пра гэтае Дзіцятка.
18 І ўсе, хто пачуў, здзівіліся таму, што казалі ім пастухі.
19 Марыя ж усе гэтыя словы зберагла, разважаючы ў сэрцы сваім.
20 А пастухі вярнуліся, славячы і хвалячы Бога за ўсё, што яны ўбачылі і пачулі гэтак, як ім было сказана.
21 І калі споўнілася восем дзён, каб абрэзаць Яго, тады і назвалі Яго імем Ісус, якім назваў Яго Анёл, перш чым Ён быў зачаты ў лоне.

Быц. 17, 12; Ляв. 12, 3; Мацв. 1, 21.

## СІМЯОН І ГАННА СУСТРАКАЮЦЬ ІСУСА

22 І, калі споўніліся дні ачышчэння паводле Майсеевага Закону, прынеслі Яго ў Ерусалім, каб прадставіць Госпаду,
23 як напісана ў Гасподнім Законе: «Кожная мужчынская істота, што адкрывае лона, будзе прысвечана Госпаду»,

Зых. 13, 2; 12; 22, 29; 34, 19; Лік. 8, 16

24 І каб прынесці ахвяру паводле сказанага ў Гасподнім Законе: «пару туркавак або двух галубянят».

Ляв. 12, 6, 8.

25 І вось, быў у Ерусаліме чалавек, якому імя Сімяон, чалавек гэты, справядлівы і богабаязны, чакаў суцяшэння Ізраілю, і Святы Дух быў на ім;

Лук. 24, 21.

26 і было яму абвешчана Святым Духам, што ён не ўбачыць смерці, дакуль не ўбачыць Хрыста Гасподняга.
27 І прыйшоў ён у Духу ў святыню; і калі бацькі прынеслі Дзіцятка Ісуса, каб зрабіць над Ім вызначанае паводле Закону,
28 і ён узяў Яго на рукі, блаславіў Бога і сказаў:
29 «Цяпер адпускаеш свайго раба, Уладару, паводле Твайго слова, у спакоі;
30 бо ўбачылі мае вочы Тваё збавенне,

Быц. 49, 18; 1 Цар. 2, 1; Пс. 97, 3; Іс. 52, 10

**31 якое Ты падрыхтаваў перад
тварам усіх народаў:**
**32 Святло ў асвету язычнікам
і славу народа Твайго Ізраіля».**
Іс. 9, 2; 42, 6; 60, 3; Дзеян. 13, 47.
**33 І Яго бацька і Маці здзіўляліся
таму, што казалі пра Яго.**
**34 І блаславіў іх Сімяон і сказаў
Марыі, Маці Яго: «Вось, Гэты прызна-
чаны на ўпадак і паўстанне многіх
у Ізраіле і на знак, якому будуць
супярэчыць,**
Іс. 8, 14; Мацв. 21, 44; 1 Пят.
2, 7; Рым. 9, 32
**35 і Табе [ж] Самой душу пройдзе
меч, каб адкрыліся намеры многіх
сэрцаў.**
Іаан. 19, 25
**36 І была прарочыца Ганна, дачка
Фануілава, з племя Асіравача; яна
дасягла глыбокай старасці, пра-
жыўшы з мужам сем гадоў ад
свайго дзявоцтва,**
**37 і ўдавою да васьмідзесяці
чатырох гадоў, не адлучаючыся ад
святыні, у пастах і малітвах служачы
Богу ўночы і ўдзень.**
1 Цім. 5, 5.
**38 І ў гэтую гадзіну, падышоўшы,
яна славіла Бога і гаварыла пра
Яго ўсім, хто чакаў збавення Еру-
саліма.**
**39 І, калі яны выканалі ўсё па-
водле Гасподняга Закону, вярнуліся
ў Галілею ў свой горад Назарэт.**
**40 Хлопчык жа рос і ўмацоўваўся,
напаўняючыся мудрасці, і Божая
ласка была на ім.**
Лук. 2, 52

## ДВАНАЦЦАЦІГАДОВЫ ІСУС У СВЯТЫНІ

**41 І хадзілі Яго бацькі штогод
у Ерусалім на свята Пасхі.**
Зых. 23, 17; 34, 23.
**42 І, калі Ён меў дванаццаць гадоў,
яны ўзыходзілі туды, як зазвычай
на свята;**
**43 і, адбыўшы гэтыя дні, пры вяр-
танні астаўся хлопец Ісус у Ерусалі-
ме, а Яго бацькі не заўважылі.**
**44 Думаючы ж, што Ён разам
з падарожнікамі, прайшлі яны дзень
дарогі і пачалі шукаць Яго сярод
сваякоў і знаёмых,**
**45 і, не знайшоўшы, вярнуліся ў
Ерусалім, шукаючы Яго.**
**46 І было: праз тры дні знайшлі
Яго ў святыні, калі Ён сядзеў сярод
настаўнікаў, слухаў іх і пытаўся ў іх;**
**47 і ўсе, хто слухаў Яго, дзівілі-
ся розуму і адказам Яго.**
Мацв. 7, 28; Мар. 1, 22; Лук. 4, 32;
Іаан. 7, 15
**48 І, убачыўшы Яго, яны былі
ўражаныя, і сказала Яму Маці Яго:
«Сыне, што гэта ты нам зрабіў!
Вось, Твой бацька і Я ў роспачы
шукалі Цябе».**
**49 І сказаў Ён ім: «Чаго ж вы шу-
калі Мяне? Хіба вы не ведалі, што
Я павінен быць у тым, што нале-
жыць Бацьку Майму?»**
Мал. 3, 1.
**50 Ды яны не зразумелі слова,
якое казаў ім.**
Лу. 9, 45.
**51 І сышоў Ён з імі і прыйшоў
у Назарэт, і быў паслухмяны, і Яго
Маці зберагла ўсе гэтыя словы ў
Сваім сэрцы.**
**52 А Ісус набіраўся мудрасці,
узмужнеласці, ласкі ў Бога і ў лю-
дзей.**
Лук. 2, 40

## Раздзел 3

## ІААНАВА КАЗАНЬ І ХРЫШЧЭННЕ

**1 У пятнаццаты ж год панавання
кесара Тыберыя, калі Понці Пілат
быў намеснікам Іудзеі, Піліп жа,
яго брат, быў чацвертаўладнікам
Ітурэі і Траханіцкай зямлі, а Лісані
чацвёртаўладнікам Авілінеі,**
**2 пры першасвятары Ганне і Каія-
фе, было Божае слова да Іаана,
сына Захарыевага, у пустэльні.**
**3 І ён прайшоў усё наваколле
Іярдана, абвяшчаючы хрышчэнне па-
каяння дзеля адпушчэння грахоў,**
Мацв. 3, 1; Мар. 1, 4.
**4 як напісана ў кнізе слоў прарока
Ісаі: «Голас прапаведніка ў пустэль-**

ні: «Падрыхтуйце дарогу Госпаду,
выраўняйце сцежкі Яму;
Іс. 40, 3—5; Мацв. 3, 3; Мар. 1, 3;
Іаан. 1, 23.
5 кожны дол хай напоўніцца,
кожная гара і пагорак панізіцца,
а што крывое, няхай выпрастаецца,
а дарогі выбоістыя стануць глад-
кімі;
6 І ўбачыць кожнае стварэнне
збавенне Божае».
7 Дык казаў натоўпам, што выхо-
дзілі хрысціцца ў яго: «Гадзючыя
выпладкі, хто падвучыў вас уцякаць
ад будучага гневу?
Мацв. 3, 7
8 Стварыце ж годныя плады па-
каяння і не спрабуйце казаць самім
сабе: «Бацька наш Аўраам». Бо кажу
вам, што Бог можа з гэтага камення
ўзняць дзяцей Аўрааму.
Мацв. 3, 9; 8, 11; Іаан. 8, 39
9 Бо ўжо і сякера прыкладзена
да кораня дрэў: кожнае ж дрэва,
што добрага плоду не родзіць, бу-
дзе высечана і ўкінута ў агонь».
Мацв. 3, 10; 7, 19; Іаан. 15, 6.
10 І натоўпы пыталіся ў яго;
кажучы: «Што ж нам рабіць?»
11 Ён жа ў адказ ім казаў: «Хто
мае дзве кашулі, няхай падзеліцца
з тым, хто не мае, і хто мае харч,
няхай тое самае зробіць.»
Іак. 2, 15; 1 Іаан. 3, 17; 2 Кар. 8, 14
12 Прыйшлі ж і мытнікі хрысціцца
і сказалі яму: «Настаўніку, што нам
рабіць?»
Мацв. 21, 32.
13 А ён ім сказаў: «Не патрабуйце
больш, чым вызначана вам.»
14 Пыталіся ж у яго і воіны, кажу-
чы: «А нам што рабіць?» І сказаў
ім: «Нікому не чыніце гвалту, не
абвінавачвайце фальшыва і зада-
вальняйцеся платаю сваёю».
15 Калі ж народ чакаў і ўсе раз-
важалі ў сэрцах сваіх пра Іаана,
ці не Хрыстос ён сам,
16 адказаў Іаан, кажучы ўсім:
«Я вадою хрышчу вас; а ідзе Мац-
нейшы за мяне, у Якога я няварты
развязаць рамень Яго сандаляў;
Ён вас будзе хрысціць Святым Духам
і агнём;
Мацв. 3, 11; Мар. 1, 7; Іаан. 1, 15;
Дзеян. 1, 5
17 Яго веялка ў руцэ Яго, каб
пільна перачысціць Свой ток і са-
браць пшаніцу ў сваю клець, а
мякіну спаліць незгасальным агнём».
Мацв. 3, 12
18 Ды і шмат іншаму навучаў,
абвяшчаючы Добрую Навіну народу.
19 А Ірад, чацвёртаўладнік, вы-
крываны ім за Ірадыяду, жонку
свайго брата, і за ўсё, што ён зрабіў
ліхога,
Мацв. 14, 3; Мар. 6, 17.
20 дадаў да ўсяго і тое, што
замкнуў Іаана ў цямніцу.

## ХРЫШЧЭННЕ ІСУСА

21 І было: калі хрысціўся ўвесь
народ і Ісус, ахрысціўшыся, маліў-
ся, расчынілася неба,
Мацв. 3, 16; Мар. 1, 10; Іаан. 1, 32.
22 і зышоў Святы Дух у цялесным
выглядзе, як галубка, на яго і голас
з неба пачуўся: «Ты Мой Сын
улюбёны, у Табе знайшоў Я зада-
вальненне».

## ІСУСАЎ РАДАВОД

23 А Сам Ісус, распачынаючы,
меў гадоў з трыццаць, быў, як ду-
малі, сын Іосіфаў, Ілієў,
Мацв. 13, 55; Мар. 6, 3;
Лук. 4, 22; Іаан. 6, 42.
24 Матфатаў, Левіеў, Мелхіеў,
Іанаеў, Іосіфаў,
25 Маттафіеў, Амосаў, Навумаў,
Еслієў, Наггееў,
26 Маафаў, Маттафіеў, Семеіеў,
Іосіхаў, Іадаеў,
27 Іаананаў, Рысаеў, Дзарава-
велеў, Салафіілаў, Нірыеў,
28 Мелхіеў, Аддыеў, Касамаў,
Елмаданаў, Іраў,
29 Ісусаў, Еліезераў, Іарымаў,
Матфатаў, Левіеў,
30 Сімяонаў, Юдаў, Іосіфаў, Іана-
маў, Еліакімаў,
31 Мелеаеў, Меннаеў, Маттафаеў,
Нафанаў, Давідаў,

**32 Іессееў, Авідаў, Воасаў, Салаў, Наассонаў,**
**33 Амінадаваў, Адмінаў, Арніеў, Эсромаў, Фарэсаў, Юдаў,**
**34 Якаўлеў, Ісаакаў, Аўраамаў, Фарыеў, Нахораў,**

Быц. 11, 24—26

**35 Серухаў, Рагаваў, Фалекаў, Эвераў, Салаў,**

Быц. 11, 20—22.

**36 Каінанаў, Арфаксадаў, Сімаў, Ноеў, Ламехаў,**

Быц. 5, 28—29; 6, 10; 11, 10.

**37 Мафусалаў, Енохаў, Іарэтаў, Малелеілаў, Каінанаў,**

Быц. 5, 12.

**38 Еносаў, Сіфаў, Адамаў, Божы.**

Быц. 5, 3

## Раздзел 4

### ІСУС У ПУСТЭЛЬНІ

**1 Ісус жа, поўны Святога Духа, вярнуўся з-па-над Іярдана, і вадзіў Яго Дух у пустэльні**

Мацв. 4, 1; Мар. 1, 12.

**2 сорак дзён, дзе Яго выпрабоўваў д'ябал. І не еў нічога ў тыя дні, а калі скончыліся яны, адчуў голад.**
**3 І сказаў Яму д'ябал: «Калі Ты Божы Сын, скажы гэтаму каменю, каб ён зрабіўся хлебам».**
**4 І адказаў яму Ісус: «Напісана: Не хлебам адным будзе жыць чалавек [але кожным словам, што зыходзіць з Божых вуснаў!]».**

Друг. 8, 3; Мацв. 4, 4.

**5 І, узвёўшы Яго, паказаў Яму ў імгненне часу ўсе царствы зямлі,**
**6 і сказаў Яму д'ябал: «Табе дам усю гэтую ўладу, і славу іх, бо мне яна перададзена, і я, каму хачу, даю яе.**
**7 Вось Ты, калі паклонішся перада мной, будзе ўсё Тваё».**
**8 І ў адказ Ісус сказаў яму: «Напісана: Госпаду Богу Свайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць».**

Друг. 6, 13; 10, 20; Мацв. 4, 10

**9 І ён павёў Яго ў Ерусалім і паставіў на крыло святыні і сказаў Яму: «Калі Ты Божы Сын, кінься адсюль уніз;**
**10 бо напісана: «Сваім Анёлам Ён накажа пра Цябе усцерагчы Цябе».**

Пс. 90, 11—12; Мацв. 4, 6.

**11 І: «На руках панясуць Цябе, каб выпадкам не спатыкнуўся аб камень Сваёю нагою.»**
**12 І ў адказ яму сказаў Ісус: «Сказана: «Не выпрабоўвай Госпада Бога свайго.»**

Друг. 6, 16; Мацв. 4, 7.

**13 І, скончыўшы ўсё выпрабаванне, д'ябал адышоў ад Яго да пары да часу.**

### ПАЧАТАК ІСУСАВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**14 І вярнуўся Ісус у моцы Духа ў Галілею. І вестка пра Яго разышлася па ўсім наваколлі.**

Мацв. 4, 12; Мар. 1, 14; Іаан. 4, 43.

**15 І Ён вучыў у іх сінагогах, і ўсе Яго славілі.**

### КАЗАНЬ У НАЗАРЭЦЕ

**16 І прыйшоў Ён у Назарэт, дзе быў узгадаваны, і ўвайшоў Сваім звычаем у суботні дзень у сінагогу, каб чытаць.**

Мацв. 13, 54; Мар. 6, 1

**17 І падалі Яму кнігу прарока Ісаі, і, развінуўшы скрутак, Ён знайшоў, дзе было напісана:**
**18 Дух Госпада на Мне, бо Ён памазаў Мяне несці Дабравесце ўбогім, паслаў Мяне абвясціць палонным вызваленне і сляпым — зрок, адпусціць прыгнечаных на волю,**

Іс. 61, 1—2.

**19 абвясціць пару літасці Гасподняй.**
**20 І, згарнуўшы скрутак, аддаў слузе і сеў; і вочы ўсіх у сінагозе былі скіраваны на Яго.**
**21 І пачаў Ён казаць ім: «Сёння спраўдзілася гэтае пісьмо, якое вы чулі.»**
**22 І ўсе сведчылі Яму і дзівіліся ласкавым словам, што зыходзілі з**

Яго вуснаў, і казалі: «Ці ж гэта не Іосіфаў сын!»
23 І Ён сказаў ім: «Вядома, вы скажаце Мне гэтую прымаўку: «Доктару, вылеч самога сябе»; тое, што мы чулі, адбылося ў Капернауме, зрабі і тут у сваёй бацькаўшчыне.»
24 І Ён сказаў: «Папраўдзе кажу вам: Ніводнаму прароку не рады ў сваёй бацькаўшчыне.
Мацв. 13, 57; Мар. 6, 4; Іаан. 4, 44
25 На праўду ж кажу вам: шмат было ўдоў у дні Іллі ў Ізраіле, калі зачынілася неба на тры гады і шэсць месяцаў, так што вялікі голад настаў на ўсёй зямлі,
3 Цар. 17, 10; Іак. 5, 17
26 і ні да аднае з іх не быў пасланы Ілля, а толькі ў Сарэпту Сідонскую да жанчыны-ўдавы.
27 І шмат было пракажонных у Ізраіле пры Елісеі прароку, і ніводзін з іх не быў ачышчаны, а толькі Сірыец Нееман».
4 Цар. 5, 14
28 І перапоўніліся гневам усе ў сінагозе, пачуўшы гэта,
29 і, устаўшы, выгналі Яго прэч з горада, і павялі аж на край гары, на якой быў пабудаваны іх горад, каб скінуць Яго;
30 Ён жа, прайшоўшы пасярод іх, падаўся далей.

## ВЫЛЕЧВАННЕ АПАНТАНАГА У КАПЕРНАУМЕ

31 І спусціўся ў Капернаум, галілейскі горад; і вучыў іх у суботу,
Мацв. 4, 13; Мар. 1, 21
32 і яны ўразіліся Яго навукаю, бо Яго слова мела ўладу.
Мацв. 7, 28; Мар. 1, 22; Лук. 2, 47
33 І быў у сінагозе чалавек, які меў духа, дэмана нячыстага, і ён закрычаў моцным голасам:
Мар. 1, 23
34 «Ах, што Табе да нас, Ісусе Назаране! Ты прыйшоў загубіць нас! Я ведаю Цябе, хто Ты: Божы святы.
35 Ды Ісус забараніў яму, кажучы: «Замоўкні і выйдзі з яго!» І, кінуўшы таго на сярэдзіну, дэман выйшаў з яго, ані не пашкодзіўшы яму.
36 І напаў на ўсіх жах і разважалі яны між сабою, кажучы: «Што гэта за слова! З уладаю і моцай загадвае духам нячыстым, і выходзяць яны!»
37 І розгалас пра Яго разышоўся па ўсіх месцах наваколля.
38 І, вышаўшы з сінагогі, Ён увайшоў у дом Сімана. Цешча ж Сіманава была апанавана моцнай гарачкаю, і прасілі Яго за яе.
Мацв. 8, 14; Мар. 1, 29
39 І, стаўшы над ёю, Ён забараніў гарачцы, і тая пакінула яе: яна ж, зараз жа ўстаўшы, слугавала ім.
40 Калі ж сонца заходзіла, усе, хто меў хворых на розныя немачы, прывялі іх да Яго: Ён жа, ускладаючы рукі на кожнага з іх, вылечваў іх.
Мацв. 8, 16; Мар. 1, 32.
41 Выходзілі ж і дэманы з многіх, крычучы і кажучы: «Ты Божы Сын». Ды Ён забараняў і не даваў ім гаварыць, бо яны ведалі, што Ён Хрыстос.
Мар. 1, 34; 3, 12
42 Калі ж настаў дзень, Ён, выйшаўшы, падаўся ў пустэльнае месца; і натоўпы шукалі Яго, і прыйшлі да Яго, і затрымлівалі Яго, каб Ён не адыходзіў ад іх.
43 Ён жа сказаў ім: «І іншым гарадам Я павінен абвяшчаць Добрую Навіну пра Божае Царства, бо на гэта Я пасланы».
Мар. 1, 38
44 І Ён абвяшчаў у сінагогах Іудзеі.

## Раздзел 5

## ПАКЛІКАННЕ СІМАНА ПЯТРА

1 Было ж: калі натоўп цясніўся да Яго, каб пачуць Божае слова, і Ён стаяў каля возера Геннісарэцкага,
2 убачыў Ён два чаўны, што стаялі пры беразе; а рыбаловы, выйшаўшы з іх, мылі сеткі.
3 Ступіўшы ў адзін з чоўнаў, які быў Сіманаў, Ён папрасіў таго трошкі адплыць ад берага; і, сеўшы, з чаўна вучыў натоўп.
4 А калі перастаў гаварыць, сказаў

Сіману: «Адплывi на глыбiню i спусціце сеткі для лову».

5 I ў адказ Сіман сказаў: «Майстру, цэлую ноч мы высільваліся і нічога не злавілі; але на Тваё слова спушчу сетку.

6 І, зрабіўшы гэта, яны загарнулі вялікае мноства рыбы, аж іх сеткі прарываліся.

7 І яны кіўнулі супольнікам з другога чоўна, каб прыйшлі дапамагчы ім; і тыя падышлі і напоўнілі абодва чаўны, так што яны патаналі.

8 Убачыўшы ж гэта, Сіман Пятро прыпаў да Ісусавых калень, кажучы: «Адыдзі ад мяне, бо я чалавек грэшны, Госпадзе».

9 Бо жах агарнуў яго і ўсіх, што былі з ім, ад улову рыбы, выцягнутай імі,

10 гэтак жа і Якава, і Іаана, Зевядзеевых сыноў, што былі Сіманавымі паплечнікамі. І сказаў Сіману Ісус: «Не бойся; з гэтага часу ты будзеш лавіць людзей».

11 І яны, выцягнуўшы чоўны на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі ўслед за Ім.

## ВЫЛЕЧВАННЕ ПРАКАЖОНАГА І СПАРАЛІЗАВАНАГА

12 І было: калі Ён знаходзіўся ў адным з гарадоў, вось трапіўся адзін чалавек увесь у праказе; убачыўшы ж Ісуса, ён упаў ніцма і прасіў Яго, кажучы: «Госпадзе, калі Ты хочаш, можаш ачысціць мяне».

Мацв. 8, 2; Мар. 1, 40

13 І, працягнуўшы руку, Ён дакрануўся да яго, кажучы: «Хачу, ачысціся». І зараз жа праказа зышла з яго.

14 І Ён загадаў яму нікому не гаварыць: «Але пайдзі, пакажыся святару і прынясі за сваё ачышчэнне, як загадаў Майсей у сведчанне ім».

Ляв. 14, 3—4; Мац. 8, 4; Мар. 1, 44

15 А Яго слава ўсё больш пашыралася, і зыходзіліся вялікія натоўпы слухаць і вылечыцца ад сваіх немачаў.

16 Ён жа адыходзіў у пустэльныя месцы і маліўся.

17 І было ў адзін з дзён, калі Ён вучыў і сядзелі фарысеі і законанастаўнікі, што зышліся з усіх галілейскіх і іудзейскіх вёсак і з Ерусаліма; і моц Госпада была ў Яго вылечваннях.

18 І вось людзі няслі на ложы чалавека, які быў спаралізаваны, і спрабавалі ўнесці яго і пакласці перад Ім.

Мацв. 9, 2; Мар. 2, 3.

19 І не знайшоўшы, дзе ўнесці яго, з-за натоўпу, яны ўзняліся на дах, праз чарапіцу апусцілі яго разам з ложам на сярэдзіну перад Ісусам.

20 І, убачыўшы іх веру, Ён сказаў: «Чалавеча, адпускаюцца табе твае грахі».

21 І пачалі разважаць кніжнікі і фарысеі, кажучы: «Хто Гэты, што кажа блюзнерства? Хто можа адпушчаць грахі акрамя аднаго Бога?»

22 Ісус жа, уведаўшы іх разважанні, у адказ ім сказаў: «Што разважаеце у сваіх сэрцах?

23 Што лягчэй: сказаць: «Адпускаюцца табе твае грахі» ці сказаць: «Устань і хадзі»?

24 Але каб вы ведалі, што Чалавечы Сын мае ўладу на зямлі адпускаць грахі»,—Ён сказаў спаралізаванаму: «Табе кажу: устань, і, узяўшы сваё ложа, ідзі ў свой дом».

25 І ён, зараз жа ўстаўшы перад імі, узяўшы тое, на чым ляжаў, пайшоў у свой дом, праслаўляючы Бога.

26 І жах ахапіў усіх, і яны славілі Бога, і былі перапоўнены страху, кажучы: «Дзівосы бачылі мы сёння».

## ПАКЛІКАННЕ МЫТНІКА ЛЕВІЯ

27 І пасля гэтага Ён выйшаў і ўбачыў мытніка, на імя Леві, што сядзеў ля мытні, і сказаў яму: «Ідзі ўслед за Мною».

Мацв. 9, 9; Мар. 2, 14

28 І, пакінуўшы ўсё, той устаў і пайшоў услед за Ім.

29 І зрабіў Леві для Яго вялікі пачастунак у сваім доме, і быў вялікі

натоўп мытнікаў і іншых, што з Ім узлягалі.
30 І наракалі фарысеі і іх кніжнікі, кажучы да Яго вучняў: «Чаму вы з мытнікамі і грэшнікамі ясце і п'яце?»
31 І ў адказ Ісус сказаў ім: «Маюць патрэбу ў доктары не здаровыя, а хворыя;
32 Я прыйшоў клікаць не праведнікаў, а грэшнікаў на пакаянне».
Мацв. 9, 13; Мар. 2, 17
33 Яны ж сказалі Яму: «Іаанавы вучні часта посцяць і малітвы адпраўляюць, гэтак жа і фарысейскія, а Твае ядуць і п'юць».
34 Ісус жа сказаў ім: «Ці вы можаце прымусіць пасціць сыноў шлюбнага пакоя, калі з імі Малады?
35 Але прыйдуць дні, і калі будзе ўзяты ад іх Малады, тады, у тыя дні, будуць яны пасціць».
36 Сказаў жа і ўпадабненне ім: «Ніхто не накладае лапіны на старое адзенне, адарваўшы ад новага адзення; калі ж не — і новае разарве і да старога не прыдасца лапіна ад новага.
Мацв. 9, 16; Мар. 2, 21.
37 І ніхто не ўлівае маладое віно ў старыя бурдзюкі, а то маладое віно парве бурдзюкі, і само выцячэ і бурдзюкі прападуць;
38 але маладое віно трэба ўліваць у новыя бурдзюкі.
39 [І] ніхто, піўшы старое, не захоча маладога; бо кажа: «Старое — прыемнае».

## Раздзел 6

### ЧАЛАВЕЧЫ СЫН ГАСПАДАР І СУБОТЫ

1 І трапілася ў суботу праходзіць Яму збажыною, і Яго вучні зрывалі і елі калоссе, расціраючы рукамі.
Друг. 23, 25; Мацв. 12, 1; Мар. 2, 23.
2 Некаторыя ж з фарысеяў сказалі: «Чаму вы робіце тое, чаго нельга рабіць у суботы?»
3 І ў адказ ім Ісус сказаў: «Нават пра тое не чыталі, што зрабіў Давід, калі прагаладаўся сам і тыя, што былі з ім?
1 Цар. 21, 6; Мацв. 12, 4; Мар. 2, 26.
4 Як увайшоў ён у Божы дом і, узяўшы ахвярныя хлябы, еў і даў тым, што былі з ім, а іх нельга есці нікому, толькі адным святарам?»
Зых. 29, 32; Ляв. 8, 31; 24, 9; Мацв. 12, 4; Мар. 2, 26.
5 І Ён казаў ім: «Чалавечы Сын гаспадар і суботы».
6 І было ж: у другую суботу увайшоў Ён у сінагогу і вучыў. І быў там чалавек, у якога правая рука была сухая.
Мацв. 12, 9; Мар. 3, 1.
7 Кніжнікі ж і фарысеі сачылі за Ім, ці не вылечвае Ён у суботу, каб знайсці абвінавачванне супроць Яго.
8 Але Ён ведаў іх намеры і сказаў чалавеку, што меў сухую руку: «Падыміся і стань пасярэдзіне»; і той, падняўшыся, стаў.
9 Ісус жа сказаў ім: «Пытаюся ў вас: Ці дазваляецца ў суботу дабро рабіць ці ліха тварыць? душу ўратаваць ці загубіць?»
10 І, агледзеўшы іх усіх, сказаў яму: «Працягні сваю руку». І ён зрабіў так і ажыла яго рука.
11 Яны ж перапоўніліся шаленствам і раіліся між сабою, што зрабіць бы з Ісусам.

### ВЫБАР ДВАНАЦЦАЦІ АПОСТАЛАЎ

12 І было: у тыя дні выйшаў Ён на гару памаліцца, і цэлую ноч правёў на малітве да Бога.
13 І, калі надышоў дзень, Ён паклікаў Сваіх вучняў і выбраў з іх Дванаццаць, якіх і назваў Апосталамі:
Мацв. 13; Мар. 3, 1.
14 Сімана, якога і назваў Пятром, і Андрэя, яго брата, і Якава, і Іаана, і Піліпа, і Варфаламея,
15 і Мацея, і Фаму, і Якава Алфеевага, і Сімана, званага Зілотам,
16 і Юду Якаўлевага, і Юду Іскарыёта, які зрабіўся прадажнікам.
17 І, спусціўшыся з імі, Ён стаў

**на роўным месцы, і вялікі натоўп Яго вучняў, і вялікае мноства народа з усяе Іудзеі і Ерусаліма і з узбярэжжа Тыра і Сідона,**

Мацв. 4, 25

**18 што прыйшлі паслухаць Яго і вылечыцца ад сваіх хвароб; таксама тыя, каго даймалі нячыстыя духі, вылечваліся,**

**19 І ўвесь натоўп стараўся дакрануцца да Яго, бо сіла ад Яго зыходзіла і вылечвала ўсіх.**

Мар. 5, 30.

## ХРЫСТОВЫ ЗАПАВЕДЗІ

**20 І Ён, падняўшы Свае вочы на вучняў Сваіх казаў: «Шчаслівыя вы, убогія, бо ваша ёсць Божае Царства.**

Мацв. 5, 3.

**21 Шчаслівыя вы, згаладалыя цяпер, бо натоліцеся. Шчаслівыя вы, заплаканыя цяпер, бо засмеяецеся.**

Зых. 55, 1; 61, 2; 65, 13.

**22 Шчаслівыя вы, калі будуць вас ненавідзець людзі, і калі будуць адлучаць вас, і ганьбаваць вас, і адкінуць ваша імя як ліхое з-за чалавечага Сына;**

Мацв. 5, 11

**23 радуйцеся ў той дзень і скачыце, бо вось вялікая ваша ўзнагарода ў небе; бо тое самае чынілі пракам іх бацькі.**

2 Пар. 36, 16; Неем. 9, 26; Іс. 35, 10.

**24 Але бяда вам, багатыя, бо вы атрымалі сваю ўцеху.**

**25 Бяда вам, сытыя цяпер, бо зазнаеце голад. Бяда вам, што смяецеся цяпер, бо засмуціцеся і заплачаце.**

Прып. 14, 13; Іс. 65, 13

**26 Бяда вам, калі пра вас скажуць добра ўсе людзі. Бо тое самае чынілі фальшывым прарокам іх бацькі.**

Іс. 30, 10; Іаан. 7, 7.

**27 Але вам, што слухаеце, Я кажу: «Любіце сваіх ворагаў, рабіце дабро тым, што ненавідзяць вас,**

Зых. 23, 4; Прып. 25, 21; Мацв. 5, 44.

**28 благаслаўляйце тых, што вас праклінаюць, і маліцеся за тых, што крыўдзяць вас.**

**29 Хто ўдарыць цябе па шчацэ, падстаў яму і другую, а хто забірае ў цябе вопратку, не адмаўляй таму і сарочкі.**

Мацв. 5, 39; Рым. 12, 17; 1 Кар. 6, 7

**30 Кожнаму, хто ў цябе просіць, дай, а ў таго, хто тваё забірае, не спаганяй.**

**31 І як хочаце, каб рабілі вам людзі, так і вы ім рабіце.**

Мацв. 7, 12

**32 А калі любіце тых, што любяць вас, якая вам хвала? Бо і грэшнікі любяць тых, хто іх любіць.**

**33 [Бо] калі робіце дабро тым, хто вам робіць дабро, якая вам хвала? І грэшнікі тое самае робяць.**

**34 І калі пазычаеце тым, ад каго спадзеяцеся атрымаць, якая вам хвала? І грэшнікі грэшнікам пазычаюць, каб атрымаць гэтульні ж.**

**35 А вы любіце сваіх ворагаў і рабіце дабро і пазычайце, не спадзеючыся нічога, і будзе вялікаю ваша ўзнагарода, і будзеце сынамі Найвышэйшага, бо Ён добры да няўдзячных і ліхіх.**

Друг. 15, 8; Мацв. 5, 45.

**36 Будзьце міласэрныя, як[і] ваш Бацька міласэрны.**

Мацв. 5, 48

**37 І не судзіце, каб і вас не судзілі; і не засуджайце, каб і вас не засудзілі. Даруйце, і вам даруюць;**

Мацв. 7, 2; Рым. 2, 1; 1 Кар. 4, 5

**38 давайце, і вам дадуць: мераю добраю, набітаю, утрэсенаю, перапоўненаю дадуць вам у прыпол; бо якою мерай вы мераеце, адмераюць вам».**

Прып. 19, 17; Мацв. 7, 2; Мар. 4, 24

**39 І прывёў ім упадабненне: «Хіба можа сляпы сляпога весці! Ці не абодва ў яму ўпадуць!**

Іс. 42, 19; Мацв. 15, 14

**40 Вучань не вышэйшы за настаўніка; але кожны, навучыўшыся, будзе, як яго настаўнік.**

Мацв. 10, 24; Іаан. 13, 16; 15, 20

**41 Што ж ты бачыш парушынку ў воку свайго брата, а калоды ва ўласным воку не заўважаеш?**

Мацв. 7, 3

**42 Як ты можаш казаць свайму брату: «Браце, дай, я выму парушынку, што ў тваім воку, калі сам калоды ў сваім воку не бачыш!» Крывадушнік, дастань спярша калоду са свайго вока, а тады ўбачыш, як выняць парушынку, што ў воку брата твайго.**

Прып. 18, 17

**43 Бо няма добрага дрэва, якое радзіла б нягодны плод, няма і нягоднага дрэва, якое радзіла б добры плод.**

**44 Бо кожнае дрэва з свайго плоду пазнаецца; бо з цёрну не збіраюць фігі і з ажыны вінаградных гронак не зразаюць.**

Мацв. 7, 16

**45 Добры чалавек з добрага скарбу сэрца выносіць добрае, а ліхі з ліхога — выносіць ліхое; бо ад перапоўненасці сэрца гавораць вусны яго.**

Мацв. 12, 34—35

**46 Што ж клічаце: «Госпадзе, Госпадзе!», а не робіце таго, што Я кажу?**

Мал. 1, 6; Мацв. 7, 21;
Іак. 1, 22; Рым. 2, 13

**47 Кожны, хто прыходзіць да Мяне і слухае Мае словы і выконвае іх,— Я пакажу вам, да каго ён падобны;**

**48 Падобны ён да чалавека, што, будуючы дом, раскапаў і заглыбіўся і аснову заклаў на камені; калі ж здарылася разводдзе, хлынуў паток на той дом і не змог яго пахіснуць, бон быў добра збудаваны.**

Мацв. 7, 24

**49 А хто слухае і не выконвае, той падобны да чалавека, што збудаваў дом на зямлі без асновы, хлынуў паток на яго, і адразу ён упаў, і быў абвал таго дома вялікі».**

**Працяг будзе.**

---

Звесткі пра аўтара трэцяга Евангелля — Луку небагатыя. Паводле падання, ён быў ураджэнцам Антыохіі (Сірыя), выхоўваўся ў язычніцкай сям'і. Такім чынам, з усіх аўтараў Дабравесця толькі ён не быў іудзеем.

З прафесіі — лекар. Прыняўшы хрысціянства, быў вучнем і паплечнікам апостала Паўла ў яго місійных падарожжах. Два гады сядзеў разам з Паўлам у турме ў Кесарыі.

У яго Евангеллі найбольш яскрава раскрыўся чалавечны вобраз Хрыста. Лука прыгожай грэцкай моваю апісвае жыццё Ісуса як друга ўсіх абяздоленых, грэшнікаў, выгнаннікаў. Дабравесце паводле Лукі нездарма называюць Евангеллем для язычнікаў. І сапраўды аўтар звычайна апускае ўсё тое, што было зразумелым толькі для яўрэяў (Мацв. 5, 17, 19; Мар. 7, 1—23) або асабліва прыкрае для язычнікаў (напрыклад, Мар. 7, 24—30), рэдка цытуе Стары Запавет. Галгофу называе не яўрэйскім словам, а грэцкім — Краніева гара, хоць значэнне іх тое самае — Лобнае месца. З асаблівым замілаваннем падкрэслівае ўсё любае для язычнікаў (2, 32; 9, 55; 10, 37 і інш.).

У адрозненне ад яўрэйскай традыцыі шмат увагі адводзіць жанчынам. Апавяданне пра Ісусава нараджэнне падаецца з пункту гледжання Марыі. Толькі ў Лукі чытаем пра Елісавету, Ганну, пра ўдаву ў Наіне. Гэты дабравесцец малюе каларытныя партрэты Марты, Марыі і Марыі Магдалены.

Для хрысціяніна Дабравесце паводле Лукі асабліва дарагое тым, што ўсе падзеі тут асэнсоўваюцца ў плане Божага збавення чалавецтва. Для Лукі Ісус не толькі Настаўнік, але найперш Збаўца.

1, 2. Служкі Слова — слугі Дабравесця, Хрыстовы апосталы і вучні, якія ўсё самі чулі і бачылі.

1, 3. Няма ніякіх звестак, кім быў «найшаноўнейшы Феафіл», якому адрасуе Лука свае творы. Калі зважаць на форму звароту, то ён высокі службовец у рымскай адміністрацыі. Аднак многія мяркуюць, што гэта не гістарычная асоба, а проста ўмоўны адрасат — кожная багалюбная душа (Феафіл — па-грэцку «Багалюб»).

1, 5. Усе Ааронавы нашчадкі мужчынскага роду рабіліся святарамі па спадчыне. І было вельмі шмат святароў. Таму для адпраўлення набажэнства яны былі падзелены на 24 чаргі (змены), з якіх кожная адпраўляла службу ў святыні два разы на год — па адным тыдні: ад аднае суботы да другой. Толькі на Пасху, Пяцідзесятніцу і свята буданоў служылі ўсе святары.

1, 9. Святароў было каля 20 тысяч, і, пэўна ж, толькі раз у жыцці святару выпадала магчымасць ускласці ахвяру. Гэты дзень вызначаўся праз жэрабя (лёсаванне). Шчаслівец аднаўляў агонь і спальваў духмянасці на кадзільным ахвярніку перад уваходам у Святое Святых. Можна зразумець, як быў узрушаны Захары ў гэты дзень.

1, 13. Тое, што ад старых бацькоў нарадзілася дзіця, было знакам асаблівай Божай прыхільнасці да іх. Само імя Іаан (па-стараяўрэйску Іаханан) азначае «Госпад выявіў ласку».

1, 15. Сікера — моцнае пітво, якое выраблялася з мёду і соку садавіны, паводле іншых звестак, з фінікаў ці ячменю.

1, 24—25. У старажытных яўрэяў бяздзетнасць лічылася за Божую кару і ганьбу, тады як шматдзетнасць праяваю Божае ласкі.

1, 39. Сённяшні Айн-Карым (7 км на захад ад Ерусаліма).

1, 56. Марыя вярнулася ў «Свой дом», г. зн. яна яшчэ не жыла ў Іосіфавым доме і магла вольна распараджацца сваім часам, адсюль і зразумела, чаму яна магла аж тры месяцы быць у Елісаветы.

1, 59. Відаць, яшчэ бралася пад увагу і значэнне самога імя Захары (па-стараяўрэйску «Бог успомніў) — згадка пра тое, што Госпад нарэшце ўважыў іх просьбу аб дзіцяці.

1, 63. У старажытнасці для пісьма выкарыстоўвалі пакрытыя тонкім васковым слоем дошчачкі; на іх пісалі завостранымі палачкамі, другі канец якіх быў пляскаты — для заціранння напісанага. Захары, пішучы на васкоўцы: «Ёсць яму імя — Іаан», тым сведчыць, што ў дзіцяці ўжо ёсць імя ад Бога.

2, 1. Такія перапісы насельніцтва служылі пасля для накладання падаткаў і набору на вайсковую службу. Хоць у заваяванай рымлянамі Палесціне іудзеі не падлягалі воінскай павіннасці, затое падаткі абавязаны былі плаціць не малыя. Напрыклад, спаганяўся падушны падатак з мужчын ад 14 да 65 гадоў і з жанчын ад 12 да 65 гадоў. Плацілі таксама пазямельны падатак — дзесяціну ўраджаю збожжа і пятую частку віна і алею. Быў яшчэ падаходны падатак — адзін адсотак (працэнт) ад усіх даходаў чалавека і г. д.

«...усяе дзяржавы» — літаральна «ўсяго сусвету»: рымскія імператары насілі тытулы «ўладары сусвету».

2, 24. Усе першародныя сыны прызначаліся для Божага служэння. Але за выкуп — 5 сікляў (каля 72 г) — серабра можна было вызваліць ад служэння ў храме. Звычайна ў ахвяру цэласпалення жанчыны прыносілі ягня. Марыя, як бедная, абышлася птушынаю ахвярай, так званаю «ахвяраю ўбогіх».

2, 43. Тое, што Марыя і Іосіф пры вяртанні з Ерусаліма лёгка згубілі хлопчыка, тлумачыцца тым, што жанчыны пасля святкавання выходзілі з горада раней за мужчын, бо ішлі павольней. Мужчыны выбіраліся пазней і ішлі хутчэй. Таму Марыя, пэўна, лічыла, што хлопчык астаўся з Іосіфам, гэтак жа як Іосіф лічыў, што Ісус пайшоў з Марыяй. І толькі калі Марыя і Ісус зноў сустрэліся вечарам пры начлезе, яны ўбачылі, што Ісуса няма, і ім зноў давялося цэлы дзень ісці назад у Ерусалім.

2, 49. Гэты момант вельмі істотны. Ісус у сваім адказе ўпершыню імя **бацька** ад Іосіфа пераносіць на Бога, добра ўсведамляючы, што з'яўляецца Божым Сынам і павінен выконваць гэты святы абавязак. Аднак не робіцца пыхлівым. Ён застаецца ў сям'і па-ранейшаму паслухмяны. Хрысціянін не абрывае сваіх сувязяў з жыццём, але толькі ўносіць у іх агонь святога служэння людзям.

3. 1—2. Для Лукі постаць Іаана Хрысціцеля ў гісторыі хрысціянства — постаць надзвычайная. Таму ён і выкарыстоўвае аж шэсць спосабаў датавання яго жыцця, адзначаючы падзеі як сусветнага значэння, так і ўнутрыпалесцінскага палітычнага і рэлігійнага жыцця.

3, 23. Тое, што Лука ў адрозненне ад Мацвея падае Ісусаў радавод не ў пачатку Евангелля, тлумачыцца пашыраным звычаем у старажытным пісьменстве змяшчаць радаводы якраз тады, калі пачынаецца тая ці іншая дзейнасць пэўных асоб, а тут якраз Ісус выходзіць на казань.

3, 23—38. З Дабравесця паводле Мацвея вядома, што Іосіфавым бацькам быў Якаў. У Лукі ж радавод ідзе ад Іосіфа праз Ілія і можа здацца, што і Ілій быў Іосіфаў бацька. Таму многія гэта тлумачаць так, што Іосіф быў зяцем Ілія, што ў Лукі тут падаецца радавод Марыі, бацька якой Ілій быў таксама нашчадкам Давіда. І калі Марыя не мела братоў, была спадкаемцай, то яе муж Іосіф уваходзіў у сыноўскія правы і прывілеі ў адносінах да Ілія.

Аднак паводле сведчання Юлія Афрыкана (памёр у 237 г), які добра знаўся на запісах радаводных паданняў Давідавых нашчадкаў, Ілій і Якаў былі сынамі адной маці ад розных бацькоў. Паводле Майсеевага закону, брат ізраільцяніна, які памёр бяздзетным, павінен быў ажаніцца з яго ўдавою, прычым дзеці ад гэтага шлюбу лічыліся дзецьмі нябожчыка — першага мужа. Такім чынам у Іосіфа былі два бацькі — адзін родны — Якаў, а другі — юрыдычны — Ілій. Аднак тут істотнае тое, што абодва яны паходзяць з Давідавага роду.

Цікава і другое. У Мацвея Ісусаў радавод спыняецца на Аўрааме — заснавальніку іудзейскага народа. Лука даводзіць гэты радавод аж да Адама — прабацькі ўсяго чалавецтва. Такім чынам, адзначаюць даследчыкі Евангелляў, Лука як бы адхіляе вузкія нацыянальныя і расавыя рамкі, яшчэ больш падкрэсліваючы агульначалавечнасць Хрыста. Пэўна ж Лука ўзводзіць Ісусаву генеалогію да Адама, каб выпукліць і тое, што Ісус будзе Збаўцам усяго чалавецтва гэтак жа, як прычынаю ўсеагульнага граху быў Адам.

4, 13. Наперадзе яшчэ будзе час Хрыстовай пакуты, калі д'ябал пакарыстаецца Юдам і старэйшынамі дзеля сваёй новай атакі на Хрыста.

**Пераклад і каментарыі Анатоля КЛЫШКІ**




Мікола ГУСОЎСКІ

# ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА

*Пераклаў з лацінскай на беларускую мову*
*Уладзімір ШАТОН* *

Нейк сярод цьмы гледачоў відовішча тлумнае ў Рыме
  Я і мае сябры блізка пабачыць маглі.
Жорсткая бойка ішла між быкамі й людзьмі на арэне:
  Торгала ў целе жывёл коп'яў асцё, і быкі

---

* У сваім перакладзе лацінскага твора Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» я стараўся наблізіцца як мага больш да арыгінала і перадаць сэнс кожнага радка. Імкнуўся таксама, наколькі гэта магчыма для верша на беларускай мове, захаваць метрыку паэмы, якая напісана элегічным двувершам (двухрадковая страфа, дзе першы радок гекзаметр, а другі пентаметр).

Гучанне такога верша многім падасца нязвыклым. У сучаснай беларускай паэзіі элегічныя вершы сустракаюцца рэдка. А між тым якраз на беларускай мове з яе пявучасцю гекзаметр і пентаметр можа гучаць зусім натуральна і прыгожа.— *Перакладчык.*

З гневам, які нарастаў ад новых балючых удараў,
Порсткіх ганялі мужоў, носячы смерць на рагах.
Прагна калі я глядзеў, як многа той лютасці мела
Злосць, што ўскіпала ад ран, галасу, воплескаў рук,
Пушчу прыпомніў тады. Сябры мае, чуючы гэта,
Сталі пытацца, дык я колькі быліц прыгадаў.
Вось і пра ловы кажу, пра моц і вялікую сілу
Зубра, ды раптам язык мой гаваркі і падвёў.
З ходу ж далі мне загад, каб сказ мой пра волата-звера
Песняй зрабіў і яе каб неадкладна пісаў.
Шчыра калі гаварыць, то я не з вялікай ахвотай
Баяў пра звера, які самы пачварны з усіх.
Кроўю забойца людской і званні і тытулы нішчыць,
Лютымі бойкамі ён славен на поўначы ў нас.
Часта й самога мяне апаноўваў страх той ганебны,
Хоць баязліўцаў такіх просты народ аплюе:
Недруг — дык поўняй, сябры — дык і менш. Але з рызыкай большай
Перад мужамі навук трэба цяпер выступаць.
Мо дзе пад ношай цяжкой нянацкам звалюся, а можа,
Буду пісаць і далей, хоць і не надта хачу.
Здзейсню волю таго, каму вінаваты найлепшым;
Тое, што ён загадаў, без важданіны зраблю.
Часу падумаць няма, які плён будзе з кволай крынічкі,
Людзям падам, што і мне глеба няплодная дасць.
Праўда, Італію шчэ і не бачыў. Мы тут нядаўна.
Ды вось павінен якраз песню пра зубра складаць.
Перш, калі можна, то я, чужынец з далёкага краю,
Слушна прашу аднаго: твор справядліва судзіць.
Хай не жадае ніхто аб рэчах сказаць больш узнёсла,
Чым патрабуюць яны для разумення свайго.
Зрэшты, чытач, ці бачыў ты пёркі мае для пісання?
Іх я нашу ў калчане, важка ён збоку вісіць.
Стуль і паперу бяру, калі я пісаць пачынаю,
Стуль на пагібель чыюсь з посвістам пёркі ляцяць.
Ты, мусіць, пішаш і лепш. Я лепей валодаю лукам.
Кожны ў сваім рамястве можа зраўняцца з другім.
Невукі ж хай не грызуць мае чужынскія вершы,
Востра адточаны мной стрэлы, якімі пішу;
Джалы з атрутай такой, што нават любому ваяку
Драпіны досыць малой — ляжа адразу навек.
Звычку я некалі меў насіцца па дзікіх мясцінах,
Нетраў паўночных абшар вабіць і зараз мяне;
Побач са мной увесь час (і ў лесе ж сустрэнеш заганы)
Хай мне рыкае у верш грозны пачварысты звер.
Водгалас рыку таго загучыць у мелодыі песні,
Песня ж раскажа аб тым, што я калісь перажыў.
Водзіцца зубр у дрымучых лясах на землях літоўскіх,
Ён аграмадны і ў рост, і ўпапярочкі, і ўдоўж.
Так што калі сканае ад ран, унурыўшы галаў,
Сядуць да трох маладцоў купай адной між рагоў.
Дый галава можа здацца каму не задужа вялікай,
Як параўнаць з галавой частак астатніх памер.
Поўсць вісіць памялом, барада вытыркае пагрозна,
Чырванню злоснай гарацЬ зрэнкі, наводзячы жах.

Ўюцца на ім касмылі ад карка да самых лапатак,
Лоб закрываюць, паўзуць аж да грудзей і калень.
Далей хачу параўнаць малое з вялікім для праўды,
Звесткі прыводзячы вам ад паляўнічых былых.
Целам, паводле іх слоў, казёл ён кудлаты і толькі,
Члены ж калі разглядаць, то не казёл ён, а бык.
Колеру цёмнага звер. Ён помесь ружовага з чорным,
Быдта між тым і другім стаць памагатым хацеў.
Дзіўна, ды пішуць лухту ад гэтай мудрэйшую часам,
Я нат не ведаю сам, што за прычына была.
З ноздраў ягоных вядуць шырокія нейкія рогі,
Кажуць, што целам сваім ён выглядае інакш.
Мызу яшчэ дадаюць з абвіслаю страшнай губою,
Словам, не мой гэта зубр, іхны, напэўна, бізон.
Шмат я чаго прачытаў аб мінуўшчыне ў кнігах славянскіх,
Мову прачытаных кніг літары грэкаў нясуць.
Знакі чужыя народ запазычыў для ўласнай карысці,
З імі затым стасаваў бацькавай мовы лады.
Многае, што я чытаў,— гэта памяткі даўняга часу,
Там і прырода, і быт розных зямель і краін.
Звера ж такога ніхто дагэтуль ніколі не бачыў,
Мо' вось на поўначы быў перад патопам яшчэ.
Пліній гаворыць ясней, калі піша пра зубра і тура:
Гэткія, кажа, быкі ёсць у паўночных лясах.
Баяць яшчэ, што й раней не было аніводнага звера
Лютасці большай, чым тур — выкармак польскай зямлі.
Што ж да лясоў, дык, бадай, і месца другога не знойдзеш,
Каб дзе на свеце такі волат магутны хадзіў.
Люты не менш і зубр. Грывастым заве яго Пліній.
Хочаце знаць пра зубра, слухайце песню далей.
Многія скажуць, што я выдумляю зашмат. І, напэўна,
Той не паверыць, што звер гэткую меў галаву,
Сам, хто зімой у пякельны мароз не бадзяўся па лесе.
Колькі б чаго ні плялі, вынесу неяк, сцярплю:
Ёсць жа магчымасць пакуль у вершы сказаць пра ўсё тое,
Што давялося калісь бачыць на ловах не раз.
Там я патраціў і час, якога не вернеш, бо марна
Дома сядзець не любіў: звычка не тая была.
Зараз найбольш спакою хачу і ўсёю душою
Прагну самоты, яе сіллем усякім лаўлю.
Сховы лайдачай сабе не шукаю, за часам палюю,
Мне не хапала яго, каб у навуках сталець.
Час летуценны аднак і не зловіш і не затрымаеш
Сродкам ніякім, бо ён гіне, прыйшоўшы да нас.
Хай ужо гіне той час. Мы ж лёсу ніяк не навяжам
Нормы законаў сваіх. Лепей прадоўжу расказ.
Новага, праўда, не дам вучоным адным, бо, вядома,
Хронік ды кніг не злічыць, што прачыталі яны;
Ведаюць з гэтых крыніц пра суставы звяроў, іх памеры,
Дзе і малюнак яшчэ, могуць і больш зразумець.
Хоць я і многа чытаў, не знайшоў анічога пра зубра.
Мушу прызнаць, у лясах покуль хаваецца ён.
Хіба што Павел Дыякан у сваіх «Лангабардаўскіх дзеях»
Кажа, дарэчы, што зубр — гэта лясны велікан.

Нейкі стары чалавек яму кляўся, што бачыў калісьці
Шкуру адну, на якой спалі пятнаццаць хлапцоў.
Я на той шкуры не спаў, і яна мяне не кранае,
Рогі таксама, бо іх часта рукамі круціў.
Тое, што я раскажу, гэта ўсё шматгадовы мой вопыт,
Праца мая і жыццё многіх турботлівых дзён.
Хоць я зусім не раўня пісьменнікам даўняга Рыма,
Нетры ж паўночных лясоў ведаю, быццам паляк.
Бацька мяне навучыў цікаваць асцярожнага звера,
Ціха, нячутна ступаць, крокам бясшумным ісці;
Вызначыць, дыша адкуль вятроў ледзь улоўных павевам,
Звер каб цябе не пачуў носам ці вухам сваім.
Добра пацець прымушаў зімой у заснежанай пушчы,
Ўсклаўшы на плечы мае важкую зброю лаўца.
Цешыла зрок забіццё, а слых весялілі сабакі,
Там, дзе валіўся мядзведзь, там, дзе каналі дзікі.
Вунь і сахаты алень, змардаваўшыся, б'ецца ў цянётах,
Петлі яшчэ навакол душаць астатніх звяроў.
Стрэлы грымотным агнём калоцяць далёка паветра,
Падаюць долу звяры, збітыя градам свінца.
Хто ж ацалеў, дык бяжыць ад коп'яў і верхнікаў быстрых,
Ды памірае ад ран, поячы кроўю зямлю.
Ў нетрах лясных на Літве калі адбывалася гэта,
Часта і я быў раўнёй мужным у справе сябрам.
Лёс мой каню давяраў, кідаўся ў Дняпро мнагаводны,
Рэчак віры, калі звер знікнуць хацеў па вадзе.
Не ад таго, што прыгоды любіў, пагарджаў небяспекай:
Сорамна проста было раптам ад хлопцаў адстаць.
Шмат перанёс я нягод у час паляванняў літоўскіх,
Гэты занятак, скажу, трохі мяне агрубіў.
Так што вы сказ чалавека лясоў не занадта карыце
Ў месцах шурпатых, дзе ён непаэтычна гучыць.
Зараз паведаю вам пра нораў звярыны і звычкі —
Трэба ж складаць і далей песню, якую пачаў.
Зубр сярод іншых звяроў па лютасці роўны ці вышай,
Зло чалавеку нясе, зведаўшы боль ад яго.
Рупіць найперш лесуну бяспека свайго існавання,
Мабыць, не можа ніхто гэтулькі дбаць аб сабе.
Водзіць наўкола вачмі ды коса ў бакі пазірае,
Ўсё на ягоным шляху можа убачыць здалёк.
Вунь чалавек ледзь павекам міргнуў, а звер і заўважыў,
Хоць затаіўся хітрун і не варушыць нічым.
Ззаду хай шорхне і мыш — уловіць звер асцярожны,
Гэта заслуга вушэй, што сцерагуць яго тыл.
Згледзеў цябе. Але ты не спяшайся, ідзі сабе смела,
Толькі каб меч не блішчэў, не зіхацела кап'ё.
Зубр сваіх зоркіх вачэй з цябе ўжо даўно не спускае,
Як чалавека пачуў, крокі свае прыпыніў.
Побач калі зубраня тупоча з нядрэмнай зубрыцай,
Шумы ад зброі любой маці прыводзяць у злосць.
Гучным рыканнем тады аб гневе рыкае магчымым,
Быццам гаворыць усім: не падыходзьце бліжэй.
Звер калі стрэне каго, то кідацца першым не будзе,
Гнацца не стане за тым, хто адступіцца рашыў.

Бавіцца ў гулях дзятва, а бацькі насцярожана й пільна
Сочаць, як толькі далей брыкаць гарэзы пайшлі.
Самі цяляты ва ўсім паслухмяныя, проста на дзіва,
Знаку стае аднаго — бегма да маці бягуць.
Зубрыкі ў гульнях сваіх цераз сосны ляжачыя скачуць,
Ды на прагалках лясных носяцца, бы не ў сябе.
Махам адным на бягу пралятаюць над ямай шырокай,
Там, дзе пагроза для іх, рожкамі бойка трасуць.
Кволыя целам, яны дужэюць у рухах няспынных,
Зрэдку для новых забаў робяць кароткі спачын.
Гэткі цялец трывалым расце, ахвочым да дзейства;
Хоць і вялікі, а ўсё ж жвавасцю дзівіць людзей.
Як на прагалку зачне танцаваць свае выкрутасы,
Вірыць і круціць ён так, быццам не звер, а віхор.
Перш чым качацца, бадне і рэпіцу схопіць на рогі,
Потым рагамі кружок вокал сябе растрасе.
Гожыя надта ў зуброў відовішчы гульняў вясельных,
Там на зубрыны манер бойкі-турніры ідуць.
Дзееціца шал асенняй парой, як сваволле Венеры
Звера бунтуе штогод некалькі дзён і начэй.
Шлюбнае свята зубры спраўляюць надзвычай цікава,
Знаць аб пачуццях даюць мыканнем, поўным пяшчот.
Разнагалосы харал ляціць па ўсім наваколлі,
Гэты лясны перапеў будзіць аж сэрца зямлі.
Кажуць і знаўцы яшчэ, што вясельныя гукі такія
Лепей за музыку труб, вабней мелодыі лір.
Велічны хор галасоў гучыць як адзіная песня,
Вуху нідзе не пачуць песню за тую мілей.
Мне невядома, на жаль, зубра даўгалецце наогул,
Пэўна сказаць не магу, колькі ён часу жыве.
Пішуць між тым: недзе ў статку зубрыным важак-пераможца
Жыў, гэта з мецін відно, цэлых дзве сотні гадоў;
Хваляй паўзла да вачэй сівая блішчастая грыва —
Так вось праз гэты касмыль зубрам назвалі яго. *
Можа, каб зменлівы час асілка таго не бянтэжыў,
Страціў ён вока адно, бойку як з ворагам вёў.
Тое ж здараецца ў нас, калі за вяршэнства і ўладу,
Быццам якое звяр'ё, бойкі заводзяць паны.
Доказы спрэчак былых засталіся рубцамі на целе,
Прыйдзецца год не адзін знакі ад звадаў насіць.
Зрэшты, ссівелы той звер наўрад ці так доўга трымаўся,
Ды не магу ўдакладніць звесткі мінулых вякоў.
Многа чаго ад людзей пачуеш пра нашага зубра,
Я ж не хачу падаваць тое, што сам не спазнаў.
Іншыя цешаць няхай забаўнымі плёткамі вушы,
Лес жа, звычайна, шуміць сціпла і ціха зусім.
Хай пашукаюць зуброў на дзедаўскім полі квяцістым,
Мы ж атрымалі наказ, як нам пакрочыць далей.
Іншы хай цешыць сябе і бавіцца воляй сваёю,
Той жа, каму я пішу, праўду жадае пачуць.
Хутка расце маладняк і скора збіваецца ў статак,
Гурт свой агулам зубры ноччу пільнуюць і днём.

---

* Ад. лац. слова juba 'грыва' — *Заўв. перакл.*

Сторaж адзін асабліва глядзіць за бяспекай астатніх,
Зорачы грозна вакол, гурт аббягае штораз.
Права на ўладу бярэ, хто самы прыгожы і моцны,
Зверхнасць такую быкі мусяць крывёю набыць.
Бойкі адну за другой вядуць важакі-бедалагі,
Часу ім нават няма на перадых і спачын.
Прага уладу займець у ярасны гнеў пераходзіць,
Часта кіпучую злосць толіць смяртэльны зыход.
Кончыўся жорсткі турнір з яго непрадбачаным лёсам,
Стане цяпер важаком той, хто ў баі перамог.
Хто ж перамогі не ўзяў, дык тупае прэч як выгнаннік,
Следам за любым сваім сумна зубрыца ідзе.
Двое, пакінуўшы гурт, і стрэлаў баяцца і коп'яў,
Цэлы ж зубрыны агул страхаў не мае такіх.
Прышлых аднекуль быкоў навакольныя статкі не прымуць,
Хіба што зноў да сваіх можа зубрыца прыйсці.
Бацьку заб'юць, дык з цялём і вяртаецца матка у статак,
Там застаецца, пакуль смерць не падкосіць яе.
Грозны указ ашчаджае зубрыц ад ярыг-ліхадзеяў,
Найвышэйшы эдыкт скарбы лясоў беражэ,
Гэтыя скарбы народ цэніць больш, чымся золата нават,
Лепшых багаццяў няма, слушна гаворыць і князь.
Хай прыплываюць да нас караблі адусюль за набыткам,
Вечна кішаць берагі мноствам тавараў любых.
Рэкі, якія нясуць багацці на цэлыя землі,
Лайбы прыводзяць купцоў з туга набітай сумой.
Мернаю працай людзей спатоліцца плодная глеба,
Шчодры затым ураджай добрая ніва дае.
Многа ўсялякіх жывёл блукае і ў лесе, і ў полі,
Месцамі бачыш табун быстрых ліхіх скакуноў.
Поўнім розным дабром чужаземныя судны даверху,
Тое, што ёсць за мяжой, маем ад земляў сваіх.
Край наш багаты. Але з усіх наяўных багаццяў
Люд перавагу аддаў скарбам, прынамсі, лясным.
Шаты зялёных дуброў так і вабяць утульным спакоем,
Ды не за гэта адно любіць свой лес гаспадар.
Воску на поўню бяруць у нетрах адвечнае пушчы,
Шмат карабельнай смалы з чыстай жывіцы. Штогод
Шкуры звяроў здабываюць лаўцы для зімовай апраткі —
Так што з манетай купец знойдзе паўсюдна тавар.
Процьму кражыстых дрэў па рэках сплаўляюць у мора,
З дрэваў пасля караблі робяць, будынне кладуць
Там, дзе бракуе лясоў і дзе лясіна патрэбна,
Каб жытло чалавек меў для радзіны сваёй.
Тут, на спрыяльнай зямлі, растуць самавітыя дрэвы,
Большых лясоў ці садоў я і не бачыў яшчэ.
Хто гаварыў, што ад іх няма аніякага плёну,
Пчолаў вунь колькі гудзе, колькі вунь мёду нясуць.
Нівы паміж гаёў духмяняцца водарам кветак,
Люду гурма на палях робіць, а недзе ўсутыч
Борці для сотаў пчаляр павыдзеўбе высака ў дрэвах —
І з дапамогай людзей мёд здабывае пчала.
Водзіцца ў нашых лясах пярнатых вялікая колькасць,
Людзі палююць на іх шротам ці меткай стралой.

Скопы глушцоў, ці інакш тэтраонаў, як Пліній гаворыць,
У лесе ты нават часцей стрэнеш, чым птушак другіх.
Целам глушэц немалы, гусака пераважыць любога,
І на спажыў будзе лепш: мяса яго — смаката.
Надта прыгожа глядзець, як падстрэлены падае долу,
Ну, а ўпалюеш глушца, маеш двайную карысць:
Жывячы ўдосталь нутро, накорміць глушаціна й розум,
З'еў, дык і цела і глузд крэпнуць ад гэтай яды.
Той, хто паставіў сіло, або іншую хітрую пастку,
З лесу дадому нясе ладную нейкую дзіч.
Кожнаму права адно: жадаеш, палюй на здароўе;
Вольнасць такую дае мноства багаццяў лясных.
Больш таго, птушкі й звяры, што жывуць у вадзе і на сушы,
Гінуць, калі чалавек вельмі ашчадны да іх.
Бачыў не раз і не два, як меншала рыба ў азёрах,
Дзе гаспадар не даваў рыбы лавіць рыбакам.
Так і нярэдка сады гібеюць за тынам высокім,
Губіць усё ж найчасцей сквапнае поле ўраджай.
Дзіваў нагледзеўся шмат, па нашай зямлі пахадзіўшы,
Думаю, часам, няўжо хоча такое сам бог,
Ці ўжо ад чараў якіх нараджаюцца, потым знікаюць.
Роем калі ў галаве думкі пра наўды снуюць,
То прыгадаеш якраз, што ўсялякае могуць і травы,
Дый загаворы яшчэ здольны дзівосы тварыць.
Мне і Медэя прытым не здаецца звычайнаю казкай,
Гэтая казка вякоў праўдай амаль што была.
Як не згадаеш сабе пра цуды сучаснага веку,
Хрысталюбіўцы аднак хочуць усё заказаць.
Схопяць і ўраз валакуць на касцёр чалавека любога,
Як пагалоска аб ім дойдзе да іхных вушэй.
Кара насцігне й таго, хто аднойчы у штуках вядзьмарства
Трохі замешаны быў, ды аб хаўрусе маўчаў.
Вось неяк плёткі людзей кагось незнарок зачапілі,
Самыя ж факты віны трэба яшчэ высвятляць:
Схопяць адразу яго, павяжуць і рукі і ногі,
Дзе паглыбей, у ваду кідаюць, быццам чурбак.
Бачаць, што цягне на дно, то, значыцца, невінаваты;
Плавае, лічаць, што ён звязан з нячысцікам нейк.
Я назіраў, як спавіты дзяг'ём з вірамі змагаўся,
Каб найхутчэй галаву цалкам накрыла вадой.
З лямантам просты народ глядзеў на судзілішча гэта,
Жах няўцямны й мяне цалкам здранцвелым рабіў.
Голаў заклятую плынь чамусьці глынаць не жадала,
Быццам ужо на сябе мала падобна рака.
Болей сумленны агонь, калі судзіць вядзьмацкія справы:
Дзе зашугае, дык там зло вынішчае да тла.
Можа не верыце мне? Тады самі ў Літве пабывайце,
Зведаўшы наша быццё, сцвердзіце словы мае.
Блуду вядзьмарства аднак часцей аддаюцца жанчыны,
Хіба з хірлявых якіх стрэнеш мужчын-ведзьмакоў.
Досыць, змаўчу я далей. Адзначу вось толькі, што ў пушчы
Сілы нячыстае плён мае нямнога вагі.
Поўна забавак у нас. Але на абшары вялікім
Рэчаў існуе няшмат, вартых наймення «дабро».

Цешуся тым, што ў лясах пароднага звера багата,
Дый шчэ такога, які ратнікам смелым раўня.
Воін, як з раці прыйшоў, гартуе сябе ў паляваннях,
Цяжкаю працай лясной здобіць кароткі спачын.
Гэта мацуе найлепш і цела і дух чалавека,
Старасць надыдзе, а ён крэпкі і ў поўню гадоў.
Праца і лес неашчадна даюць здароўе і сілу,
Дзейснасць лаўцоў пажылых сведчыць яскрава аб тым.
Той, хто прывык паляваць, без пары ў сівізну не ўбярэцца;
Будзе адораны ён вострым, надзейным чуццём.
Як намагаемся мы улавіць нават шорах нязначны,
Гук тады ў нашых вушах болей выразна гучыць.
Рэч, што няблізка ад нас, калі мы стараемся ўбачыць,
Высілак той для вачэй — самы гаючы бальзам.
Так вось лавец паводзіць сябе, палюючы звера,
Зроку і вухам яшчэ дапамагае ўсяляк.
Звер жа пачуў небяспеку даўно і цяпер выбірае
Трапны манеўр, каб лацвей збіць з панталыку лаўца.
Кемнасць такая зубрам прыродаю шчодра даецца,
Гэткае ўсё зразумець дужа складана для нас.
Тое, што я гавару, бывалым у лесе вядома,
Хто ж недасведчан, наўрад верыць захоча і мне.
Пойдзем далей ад нявераў такіх. Няхай жа нас судзяць
Тыя, хто ў поце чала самі хадзілі на лоў.
Шмат нагадалі б яны, а я напішу незамнога:
Часу няма і таму ёміста не расказаць.
Дзе насцярожаны лес зазвініць ад сабачага брэху,
Колькі пачуццяў душы будзіць такі пераявон.
Што робіць лямант і крык, як, мірны спакой узарваўшы,
Ўздымецца й падае зноў хваляю ў тысячу нот.
Ровам пра што касалапы раве, пранізаны дзідай,
Ранены дзік вунь аб чым віскам надрыўным вішчыць.
Што адчувае ад ран злюцелы магутны зубрына,
З пашчы калі загучыць страшны і жудасны крык.
Поўніць шалёная злосць да краю пачварныя зрэнкі,
Ярасці буйнай агонь паліць і нішчыць вакол.
Гэтак і ранены тур басідлам калі зарыкае,
Ўсё наваколле дрыжыць, пушчу трасучка трасе.
Рынецца звер і падскочыць затым напорыста й грозна,
Жах працінае наскрозь чуткіх лясных жыхароў.
Сэрца трапеча ў грудзях людзей нават смелых і моцных,
Знойдзецца мала такіх, страхі каго не бяруць.
Пэўна, і мы не заўсёды ў жыцці штосьці значнае робім,
І не заўсёды адкрыт вартасцей нашых тайнік.
Час патрабуе аднак падумаць над бедствам айчыны,
Як нам яе падтрымаць, чым аднавіць яе моц.
Прытарнасць свецкіх забаў нярэдка гняце чалавека,
Ловы ж на розных звяроў целу здароўе даюць
Больш, чымся лекары ўсе. Хто справаю гэтай прыемнай
Стала займае сябе, дужы ад працы лясной;
Хто забаўляцца прывык на ўлонні зялёным, гаючым,
Клопатаў многіх цяжар каб не давіў на душу,—
Той і жыве найдаўжэй, як мага адаслаўшы падалей
Добрых і злых дактароў з іхным ліхім рамяством.

Markdown
Markdown
Рознае зелле ссляпа ён жлукціць не будзе зацята:
   Лопне шчэ раптам жывот, як перапоўніш яго.
Холад паўночны нясе чалавеку бадзёрасць і жвавасць,
   Смачнае мяса звяроў служыць пажыўнай ядой.
Вось чаму трэба лясам аддаваць перавагу заўсёды,
   Разам і звера цаніць вышай за ўсякую рэч.
Далей паведаць хачу пра нашыя спосабы лову,
   Коратка вельмі, на жаль: часу бракуе ў мяне.
Ды ўжо каго зацікавяць якраз тутэйшыя звычкі,
   Ведае хай: на зуброў крочым сцяжынкай сваёй.
Волата-звера не ўзяць кап'ём ці стралою здалёку
   І не засіліць яго самаю хітрай пятлёй.
Сіла сапраўдных мужоў узнёслага прагне заўсёды,
   Баяць, што гэты імпэт нехта наводзіць з нябёс;
Кажуць яшчэ, што і звер лясы пакідае такія,
   Дзе не ў адкрытым баі хтось перамогі б жадаў.
Выдумка мо ці лухта, якую нясуць абібокі,
   Можа, аднак, сапраўды дзеюцца дзівы ў лясах.
Лепей адкіну я прэч няпэўныя звесткі пра зубра
   Ды раскажу пакрысе тое, што сам пражыў.
Сказ пра Дыяну з кап'ём, пра яе паляўнічую світу
   Склаў бы таксама, калі б мусіў багіню апець.
Часу б вось толькі пабольш, каб лук Апалона праславіць,
   Стрэлы хваліць, ад якіх кроўю сцякаюць звяры.
Молімся мы Ісусу Хрысту і ягонаму бацьку,
   Ў песнях жа нашых часцей правяць Юнона і Зеўс.
Быль ад калішніх гадоў не стану аздобліваць казкай,
   Ісціну голую дам проста насуперак тым,
Хто, увядзёныя ў зман, дзівосаў шукаюць і песцяць
   Блудныя думкі людзей даўніх паганскіх вякоў.
Плоцкі біскуп Эразм ганьбуе такое, дзе Бога,
   Першага творцу ўсяго, месцяць на водшыб кудысь.
Дзеі сваёй дабрыні памнажаючы, нават ніколі
   Ў рукі не возьме чытаць сана не вартую рэч.
З воляй ягонай ў лад я словы мае кампаную,
   Што ў іх святога — яно цалкам ідзе ад яго.
Хто ж за прыемным бяжыць і забаўкі пацешныя любіць,
   Мала той знойдзе сабе кветак на нерушы злым.
Снегам яго замяло, і лёдам яго закавала,
   Так што і песня мая цалкам належыць зіме.
Войнаў бясконцых віхор улетку нас круціць, шматае,
   Ловамі ж бавімся мы, як залютуе мароз.
Пэўна, разбэшчаны Марс пераняў гэту нашую звычку,
   Войны яму і зімой хутка прыйшліся пад густ.
Мушу пра войны пісаць. Маўчанне было б тут ганебным.
   Бедства людзей вымагло словы і слёзы мае.
Бойкі агулам вядзем, хоць воямі кожны сваімі,
   Каб як мага адстаяць веру святую братоў.
Вораг жа ў наступ ідзе, няшчадна ломіць і крышыць,
   Нават пакляўся ужо знішчыць Хрыстова імя.
Войнамі рушыць на нас не дзеля багацця і ўлады,
   Не для таго, каб ізноў сілу сваю паказаць.
Прагне ўсяляк басурман крывёй чалавечаю ўпіцца,
   Тых пагалоўна губіць, іншай хто веры якой.

Вояў забойствам людзей рыхтуе для будучых бітваў,
Целы ж ахвяр крывасмок птушкам кідае і псам.
Дзе перамог, дык няхай пераможаным гібель адразу,
Жыць і пакуты цярпець горш, чымся парыць зямлю.
Ён насаджае сілком ягоныя толькі абрады,
Не дазваляе нідзе Бога-тварца шанаваць.
Мы перад ім, і ён тупіць кап'ё аб нашыя целы,
Нашага воіна кроў наступ паволіць яго.
Мы яму шлях закрываем сабой, каб меч супастата
Болей не рэзаў, не біў кожнага, хто шчэ жывы.
Лезці баіцца далей і скрыгоча зубамі ад злосці,
Значыцца, можам усё ж ворагаў перамагаць.
Вось каб суседні народ, Хрыстовае веры такой жа,
З боку другога не грыз, не рабаваў, не паліў.
Мае працяглы спакой, абаронены высілкам нашым,
Пнецца з вайною аднак, згубы жадаючы нам.
Не дапамог, а з'яднаў крыважэрнага ворага сілы,
Нават яму паспрыяць радай зычлівай гатоў.
Час ім усё ж не спыніць. Скора цяжкія беды, якія
Нам выпадае цярпець, рынуць таксама на іх.
Мо і збяруцца уняць хваробы старой ліхаманку,
Толькі ж ратунку ад зла лекі ужо не дадуць.
Той, хто знарок сваіх воч не закрыў на відочныя рэчы,
Знае, што блізка зусім ворагаў орды стаяць.
Ну, дык шкадуй, ненажэра, звяроў, грызі свае шлункі,
Кроўю снягі накармі, глеба тлусцее няхай.
Люд у аковы гані, што табе працягнулі, хоць потым
Цяжка абдыме ланцуг карак і твой і сыноў.
Вунь над табою ужо рука ўсемагутнага Бога,
Карай адзначыць суддзя чорныя дзеі твае.
Думаеш, помста міне, бо не ўдарыў пакуль што маланкай?
Цешся, хоць скора і ты прымеш пакутную смерць.
Богу адкажаш спаўна, да дробязі самай маленькай,
Моцна адчуеш тады зверства уласнага плён.
Зведаеш ліха не менш, калі даў ліхадзеям зачэпку
Тысячы нашых людзей гнаць у няволю на здзек.
Рабствам такім прыгняце, што не скончыцца многія леты,
Прышлым нашчадкам тваім хопіць і гора і слёз.
Хіба ж захочуць яны, паядналыя верай Хрыстовай,
Мучыцца ў пекле, куды сам іх падводзіш цяпер.
Слушны мой сказ, ды жальбы ў лясах — безнадзейная справа,
Лепей да звера скіруй голас твой, Гусавіян!
Сцежкай, вядомай лаўцам, якія палююць у пушчы,
Зараз пакрочым туды, дзе пачынаецца лоў.
Вунь і сцяна са зваленых дрэў пралягае па лесе.
Гэта загон. Унутры ёсць і адсекі яшчэ.
Тын па лямоўцы сваёй міль дванаццаць складае ці болей,
Як вымяраць даўжыню на італійскі памер.
Сокі,* пакінуўшы спрат, уваход закрываюць за зверам,
Каб абмануты не мог выйсці ізноў на прастор.
Новы загон не заўсёды кладуць. Старыя загоны
Пасткаю служаць, і там ёсць не адзіны праход.

* Тыя, хто сочыць.

Звер хай у пастку ідзе, закрыць жа праходы няцяжка;
Хай бестурботна затым пасвіцца, рады жыццю.
Гэтак замкнутых зуброў палюем, замкнёныя самі,
І невядома, адкуль выскачыць смерць на цябе.
Тут перад ліхам нічым не паможаш і блізкаму сябру,
Слуг каля пана няма, каб ратаваць ад бяды.
Бацьку не выручыць сын, і бацька не выручыць сына:
Кожны заданне сваё здзейсніць павінен найлепш.
Можаш застацца жывым, а можаш раптоўна загінуць,
Нават нікчэмны пралік шмат будзе вынікаў мець.
Тое, што мусіш рабіць, суровы загад вызначае.
Кара уладзе адной падпарадкуе людзей.
Твой паратунак увесь, бяспека твая і надзея —
Конь быстраногі, што ўміг здольны адскочыць убок.
З намі ўсутыч каралі у ашчэрах самой небяспекі,
Слабага духам ніхто б не захацеў ратаваць.
Так найяснейшых клінок знішчае і скіфскія орды,
Дзівіцца ўсюды народ войнамі ў моры крыві.
Вунь і цяпер на ліхіх скакунах каралі сярод лоўчых,
Смеласць не шкодзіць нічым знатнасці слаўных мужоў.
Сціснуў рукою пяро, што імкнецца ў нястрымным парыве
Пець, Сігізмундзе, табе славу на векі вякоў.
Бацька айчыннай зямлі, даруй, бо нялёгкая праца
Добрыя дзеі твае хоць бы крыху апісаць.
Творыш вялікае ў нас, яшчэ большае ў станах замежжа,
Слоў не хапае ў мяне ладна сказаць аб усім.
Першы ты ў лесе, аднак я жадаю мацней тваё поле —
Ратнае поле хваліць, сілы б наколькі было.
Неба калі мне пашле хоць бы трохі спакойнага жыцця.
Час мой хачу прысвяціць чыннасці мудрай тваёй.
Гэты ж прыспешаны твор цікуе зуброў у загоне,
Можа б ставала яму пра аднаго расказаць.
Часта здараецца так, што некалькі волатаў прыйдуць,
Справіцца з імі пасля цяжкі занятак лаўцам.
Бачыў я купкі зуброў, спатыкаў адзіночак таксама;
Вось перад намі такі ходзіць, закуты сцяной.
Ценькія стрэлы здалёк у зубра спярша паляцелі,
Ўпіліся колкім васцём зверху, на хібе яго.
Гнеўна зірнуў на людзей паранены злёгку палоннік,
Ровам магутным зароў, ноздрамі трэплючы рык.
Потым крутнуўся назад, дзе бегма, а дзе і падскокам,
Мерыўся быў уцякаць, каб ухіліцца ад стрэл.
Верхнікі следам хутчэй са свістам і лямантам гучным,
Пушча ад крыкаў дрыжыць, рэха сягае да зор.
Ледзь толькі ён даімчаўся туды, дзе сцяна паўставала,
Дзе яму тын заступаў шлях на абшары лясоў,
Гучныя крыкі людзей і там бегляка сустракаюць.
Звер прыпыніўся. Куды ж трэба цяпер уцякаць?
Зноў паляцела страла, каб ад новай калючае раны
Зубра палаючы гнеў з большаю сілай шугаў.
Той, калі стрэлы адчуў, што ў цела балюча ўпіліся,
Раптам у ярасць прыйшоў, злосць авалодала ім.
Позіркам жудасным бык усіх паляўнічых свідруе,
Грозна чакае, пакуль вораг падыйдзе бліжэй.

Кінуўся перш на сабак, якія шчыльней падступалі;
Груду скрываніўшы псоў, рынуўся быў на людзей.
Хлопцы імкнуць хто куды, адразу ж і збочыўшы коней,
Зыканне, гойканне зноў поўняць звярэджаны лес.
Нельга ўцячы напрасткі, адкінь нават гэту надзею.
Хочаш сябе ўратаваць, ломаным шляхам скачы.
Ярасць, шалёны імпэт шпурляюць бычыну далёка,
З целам такой грувізны крута не збочыць яму.
Вокала звера штораз нахабныя верхнікі шнырацць,
Ён жа за кожным бяжыць, пэўна, не можа інакш.
Выцягся нейк, пабольшаў яшчэ, сігае раз'юшаны,
Быццам на злом галавы, ровам глухім равучы.
Вецер калыша і гне пачварную грыву нароскід,
Грозны і страшны цяпер гэты лясны веліканн.
Гневам напяты увесь, шыбуе праз пні і калоды,
Прагнучы, як наталіць ярасць крывёю ахвяр.
Колькі жуды на людзей звяруга тады наганяе,
Кожны уявіць сабе хоць бы з падзеі такой:
Хтосьці з паноў, знакамітых пры тым багаццем і родам,
Неяк надумаў, што ён здатны і можа адзін,
Ўзяўшы на ловы мушкет і смела пайшоўшы на зубра,
Мігам разнесці нашчэнт гэту жывую гару.
Хутка й дазвол атрымаў, з мушкетам схаваўся пад елкай,
Ціха чакае, пакуль выбежыць бык на прагал.
Тупат зямлю скалануў, зубрына з'явіўся раптоўна,
Енкі знявечаных псоў лютасці рэхам былі.
Бачна здалёку, як звер, клубы́ выдыхаючы пары,
Рогам сабаку праткнуў, стаў, каб яго даканаць.
Пільна затым паглядзеў на ельнік, дзе хлопец хаваўся,
Той і падумаў: канец, бачыць мяне, забадзе.
Хоць паляўнічы стаяў ад гэтага зубра далёка,
Жахам працяты наскрозь, мёртвым зваліўся на снег.
Цэлым, ды змёрзлым ужо баязліўца сябры адшукалі,
Верачы мала, што мог страх чалавека забіць.
Позіркам злым васіліск і руйнуе жывое паўсюдна,
Хлопца ж не бачыў зусім. Як жа загінуў панок?
Потым рашылі: яго загубіла ягоная пудкасць —
Жарты і смех дзецюкоў здобілі смерць бедака.
Добра згадаўшы сабе падзеі часоў тых, я помню,
Вершык яшчэ вось такі быў на магільным грудку:
Што там пра рогі казаць. Пагляд раззлаванага зубра
Пана Лаўрына забіў. Тут спачывае цяпер.
Дзіваў нагледзеўся я. Але ў калатнечы на ловах
Болей мяне узрушаў звера бушуючы гнеў.
Скокам пачварным ляціць, усё падмінае і трушчыць,
Покуль ударам рагоў не растрыбушыць кагось.
Як прыпыніўся крыху, наставіць раздзьмутыя ноздры,
Нюхае, каб мог учуць, дзе затаіўся бягляк.
Рынецца потым ізноў і нішчыць агулам жывое,
Лічыць, што кожны яму чыніць і раны і боль.
Некага знойдзе, пырне, высока падкінуўшы ў неба,
Ды шчэ рагамі затым ловіць скрываўлены кус.
Трапіцца хай з канём чалавек, дык таго і другога
Тут жа бадзе, і ўгары целаў кавалкі відны.

Рве, падкідае увысь, і драбнеюць астанкі, а вецер
Гэта мясное шмаццё сее крывавым дажджом.
Часткі суставаў, хрыбцін змяшае настолькі, што з кожнай
Сочыцца, толіць зямлю кроў седака і каня.
Звера, які захацеў кудысь уцячы і схавацца,
Хутка нагоніць, заб'е, толькі б заўважыў яго.
Бачыў тады часцяком у паветры дарослых аленяў,
Іх падкідваў так волат на сцежцы лясной.
Больш яшчэ нападаў на дзікоў і сярдзітых мядзведзяў,
Можна б успомніць было мноства крывавых нагод.
Моцным ударам адным садане і павыпусціць шлунне,
Кверху вантробы ляцяць, сцелюцца ўроссып на дол.
Рэшткі шпурляе ізноў настолькі адлегла, што нават
Верыць не хочаш вачам, хоць і на буйства глядзіш.
Птахі клююць на ляту атрэп'е ападу мяснога,
Прагна жарэ вараннё труп'е на лапінах дрэў.
Верхніка неяк дагнаў і закінуў далёка на сучча,
Тым жа ударам каню ён растрыбушыў нутро.
Часам абодва яны узляталі на голле адразу,
Верхнік аднак завісаў і заставаўся жывы.
Выпадкаў многа такіх, але ўсе я прыводзіць не стану,
Мала карысці ад слоў, веры каторым няма.
Звера адчуе наўрад, хто не зведаў ягоную лютасць,
Хто не глядзеў, як рагач валіць ахвяру далоў.
Дзе б стрымгаловы ні бег, куды б ні імчаў апантана,
Рушыць усё на шляху, быццам лавіна з гары.
Ровам рыкастым раве, імкліва сігае і скача,
Рады, калі ўцекача можа на рогі падняць.
Рэзкі, парыўны імпэт з'яўляецца ў рухах ягоных
Там, дзе ён хоча сквітаць буйствам рахункі свае.
Падшага цёплая кроў як хлыне на рогі, шалее —
Слоў не хапае ў мяне зверскасць яго апісаць.
Так ён віруе наўкол, што ўрэшце заместа зубрыны
Клубяць густыя клубы снежнага пылу й зямлі.
Сведчыць пра гібель чыюсь узляцелае ўгору вантроб'е
Снег, набрынялы крывёй, вызначыць месца бяды.
Гэта засведчаць не менш астанкі мясныя на вецці,
Што не апалі на дол з іншым крывавым рыззём.
Ўслед за кармільцам сваім, куды б ні хацеў ён падацца,
Лётае хцівец-груган, бегае звер-жывадзёр.
Бык жа знявечаны труп яшчэ доўга рагамі шматае,
Цалкам не можа ніяк злобы агонь патушыць
З месца не сыдзе, пакуль не патрушчыць забітага косці,
Цела пакуль не парве ды не затопча у снег.
Рэдкім крывым ланцужком наўкола верхнікі скачуць,
Звера бунтуюць усяк: пострахам, ганай, кляцьбой.
Кожны у гонах штукар. Але й тут не бывае без ліха,
Гіне, на жаль, і спрытняк, звыклы да розных нягод.
Дзе ёсць шырокі прастор, там бег свой працягваць лёгка,
Можаш з канём абхітрыць лютага з лютых звяроў.
З гонам у лесе цяжэй. Упалае дрэва гнілое
Шлях адразае каню, збочыцца мусіць лавец;
Пасткаю будуць яму кратамі ўскапаныя норы,
Слізкае месца ці лёд пад маласнежным пластом.

Цяжка і сук абмінуць, які долу звісае занадта,—
Безліч у смерці дарог, схопіць раптоўна зусім.
Конь або верхнік упаў, то звяруга рагамі іх порыць,
Міг — і высока ўгару звякшыя трупы ляцяць.
Зрэдку на момант, бадай, чалавек і ўхінецца ад звера,
Хвацкія рогі аднак потым насцігнуць лаўца.
Тое, што помню цяпер, калі б я прыгадваць меўся
Дый пра звярыну пісаць разам усё захацеў,
Ледзьве закончыў бы сказ, і нават не знаю дакладна,
Як бы разбухла тады сціплая кніжка мая.
Скажа сёй-той, што зуброў паляваць — неразумны занятак,
Ловы такія нясуць згубу для многіх людзей.
Ды пахвалу ці віну апраўдае зачынца суровы,
Храбрага мужа імя славяць і ў нашыя дні.
Гэтай задумай адной адважнага Вітаўта розум
Сілу радзімей вярнуў, княствам вялікім зрабіў.
Ловамі ў нашых лясах рыхтаваў ён ваяцкую моладзь
У тыя гады, калі быў князем літоўскіх зямель.
Вораг каб не шаламіў, літвін у зацішку між войнаў
Раці свае прымушаў цяжкасці перамагаць.
Любячы мір на зямлі, палымнеў ваяўнічым запалам,
Дзе ўжо клінок агаліць мусіў для бітвы на смерць.
Лук свой татарын зламаў і яго працягнуў пераможцу,
Долу схіліў галаву, страхам ахоплены ўвесь.
Хто шчэ нядаўна збіраў з фанабэрыстай пыхай здабычу,
Сам жа здабычаю стаў, ганьбай акрыўшы сябе.
Вітаўт апекаваў тых, каму дазваляў уладарыць,
Воляю князя васал жыў або траціў жыццё.
Быццам нявольнік які, маскавіт яго зваў уладыкам,
Хоць і магутным царом быў сярод многіх цароў.
Турак, мацак і тады, прысылаў дарагія падаркі,
Сведчыў здалёку, што ён князю скарыцца гатоў.
Трое вось гэтых, што жах на цэлы сусвет наганялі,
Моўкнулі ўраз перад ім, рот баючыся адкрыць.
Воі адвагу і спрыт не толькі ў баях здабывалі,
Усюды і як толькі мог Вітаўт кагорты вучыў.
Зборні літвінаў калісь ажно віравалі ад войска,
Мірны для ратніка час быў нібы часам вайны.
Каб і страла і кап'ё пацэлілі трапна і моцна,
Воін удзень і ўначы працай сябе гартаваў.
Лукі з тугой цецівой спявалі ў нястрымным харале,
Гэтакі спеў азначаў трапнае вока й руку.
Верхнікі, творачы круг, стралою дзіравілі з ходу
Шапкі-лямцоўкі, што ім шчодра кідалі уверх.
Часта ляцелі ўгару таксама і шапкі-кучомкі,
Зноў як валіліся ўніз, дзюрак на іх не злічыць.
У небе высока стралой крыло жураву падсякалі,
Падаў курлыка з нябёс іншых не маючы ран.
Птаху ніяк не маглі ўратаваць ні дрэва, ні крылы,
Нават кудысь па вадзе ёй не схавацца было.
Вітаўту дзіч прынясеш, аддзячыць табе, абы толькі
Ты яму птушку дабыў лоўкай, умелай рукой;
Дужа хвалілі таго, хто ловамі стала займаўся,—
Так што ішлі на звяроў цэлыя процьмы ваяк.

Хмарышчы коп'яў і стрэл, галёканне, крыкі і посвіст
Збеглага ў самы гушчар гналі са сховы далей.
З восцем жалезным мядзведзь ці нехта другі уцякае,
Зваліцца потым ад ран і застаецца ляжаць.
Лоўчых пялегаваў князь. Але вайскаводцу-літвіну
Болей па густу былі гонкі на конях ліхіх.
Скачаш туды, дзе паставілі знак, мо стадыяў сотню,
Шлях немалы дый к таму надта складаны й цяжкі.
Раці імчалі гурмой, наколькі хапала ім сілы,
Пырхалі коні ў галоп, ноздраў ашчэрыўшы зеў.
Сіўка адзін не выцягне гон, і з гэтай прычыны
Разам з канём седака бег табунок запасных.
Жвавы рысак атрымаць найхутчэй сваю ношу імкнуўся,
Рады, што гаспадару можа падставіць хрыбет.
Хлопцы з калчанамі стрэл на дзіва прыгожа і спрытна
З коней сягалі адных на седлавіну другіх.
Каб недалуга які выпадкам не стаў пераможцам,
Гонкі вяліся знарок ноччу, ды што пацямней.
Добрая дзяка затым даставалася самым найлепшым,
Той жа, хто не перамог, кпіны ды ганьбу цярпеў.
Вельмі цяжкім быў заклад раку найхутчэй пераплысці
Там, дзе ўладарна быстра вірам глыбокім віхрыць;
Там, куды глыбай вады ударыць шалёная хваля,
Потым, стаўшы дыбка, сквапная, хлыне назад.
Кожны, хто плысці жадаў, павінен, як гэта рабілі,
Зброю надзейна звязаць, шчытна апраткай спавіць.
Конь гэты вузел пасля, грудзьмі рассякаючы хвалі,
Вынесе з буйнай ракі, нават нярэдка сухім.
Рынула конная раць, плыве цераз бурныя воды,
Бачны галовы адны, чутна, як ноздры фырчаць.
Хлопцы таксама плывуць, заграбаючы левай рукою,
Правай рукі пяцярня конскую грыву сцяла.
Першым хто пераплыве, то і прэмію першую возьме,
Прыме другую другі, кожны сваім чарадом.
Воін з гартоўкай такой, не маючы броду ці моста,
Плысці са зброяй сумеў цераз любую раку.
Дзікае пекла вайны патрабуе адважнага воя,
Ратнік павінен ісці смела, рашуча на бой.
Вітаўт за шчасце лічыў, як воін быў храбры і жвавы,
Што і нялёгка было зухаў-байцоў асачыць.
Мужныя справы тады адзначаліся дзякай належнай
Шчодра адорваў князь вояў, дастойных пахвал.
Пудкасць, няхай і паноў, знявагу ў яго выклікала,
Строга й сурова караў звычкі дурныя людзей.
Ён справядлівасць любіў, шанаваў яе нормы святыя,
Не дазваляў, каб махляр дзесьці абходзіў закон.
Як ужо ў суд выклікаў, то большая колькасць віноўных
Самі губілі сябе, толькі б не йсці да яго.
Людзі з нячыстай душой пятлю панадзейней шукалі,
Шанцаў не меў ліхадзей неяк ад кары ўцячы.
Жорстка ўладар катаваў ілжывых, падкупленых сведкаў
З тым, каб ніхто надалей суддзям хлусіць не пасмеў.
Хмуры, азмрочаны, ён выслухоўваў клятваадступцаў,
Вельмі баяўся ілжэц рот для няпраўды раскрыць.

Рэшткі знявечаных цел, абгарнутых звярынаю шкурай,
Кідалі вучаным псам, каб разарвалі нашчэнт.
Вітаўт без жалю караў і суддзяў, да хабару ласых,
Скора, як некага з іх ён выкрываў хоць бы раз.
Кажуць, суддзю аднаго раздзёрлі на часткі, бо хцівец
Права за тым прызнаваў, хто яму хабары нёс.
Той легкадум пагарджаў суровым эдыктам для суддзяў,
Вось і расцялі яго дзеля навукі другім.
Знікла, прапала тады саслоўе людзей прагавітых,
Дык і за гэтакі плён Вітаўту слава навек.
Мужны і смелы літвін нямала вялікага здзейсніў,
Толькі ж пра ловы цяпер будзе гаворка ісці.
Ратая князь навучаў і ратнаму дзелу, бо звечна
Ў полі за плугам хадзіць лепей умеў селянін.
Мог пажадаць валадар, каб у лагер даставілі зубра,
Ды каб і ран не было, проста, каб звязаны быў.
Людзям нягеглым — дакор, а кемным — адменная дзяка,
Лоўчых збіралася шмат, спорна работа ішла.
Страх не затрымліваў іх, загад яны дзейснілі хутка,
Звера лавілі жыўцом, ставілі князю ля ног.
Я менавіта лічыў такое амаль немагчымым,
Мушу паверыць аднак, словы пачуўшы старых.
Каб сумняваўся я менш, расказалі дзяды і пра ловы —
Зубра, як сведчылі мне, лоўчыя бралі вось так:
Клалі шырокі двухсцен, які паступова звужаўся,
Быццам агромністы клін, зяпу раскрыўшы сваю.
Клін у сярэдзіне меў яшчэ некалькі моцных завалаў,
Іх закрывалі лаўцы веццем зялёных ялін.
Тын захінуты наўкол галлём і ламаччам усякім,
Каб не заўважыў падман чуйны, апаслівы звер.
Потым юнак у чырвоным плашчы і з блішчастаю шабляй
Зубру на вочы здалёк, нібы на шпацыр, ідзе.
Згледзеў нахабніка звер і раз'юшаны рынуў насустрач,
Хлопец імчыцца назад шляхам, абраным раней.
Як даімчаўся бягляк да каварна раскрытае пасткі,
Скочыў таропка туды, звер жа па пятах імкне.
Буйны агонь не патушыш зара́з, утрапёны таксама
Ярасць не можа стрымаць, з'юшаны ў пастку ляціць.
Клін тае пасткі з вугла хлапчыну дазволіў праскочыць,
Бык жа захрас, і цяпер не развярнуцца яму.
Тут выбягаюць лаўцы, грамідла рагатае вяжуць,
Дужыя ногі яго путам сплятаюць уміг.
Петлі на ім, рамянём заціснута пенная храпа,
Ад галавы да хваста дзяг ды вяровак віткі.
Зроблена справа, ды так, што нават і вояў кагорта
Здолела б гэта наўрад, ліха не меўшы ад рог.
Цягнуць бычыну гурмой, прымушаюць і з путамі крочыць,
Страхам працяты, ідзе, сілу адчуўшы людзей.
Час некаторы мінуў, і зубра вызваляюць ад путаў.
Роўнядзь, прастора прад ім — дык і звяруга пабег.
Верхнікі скачуць услед, шыбаючы скіфскія коп'і:
Воіну ж нельга забыць звыклага дзела свайго.
Лепшых чакаюць дары, бо памечаны коп'і, а зубру
Фарбай мішэні-кругі намаляваны былі.

Тым, хто пацэліў бліжэй, дастанецца большы дарунак,
Меншы — таму, хто далей, кожнаму, што заслужыў.
Воям, якія кап'ём паранілі зубра глыбока,
Непераможны ўладар шчодрую дзяку даваў.
Быў літвін у той час надзвычай адметным уладцам,
Гэта й не толькі, што ён подзвігам ратным вялік.
Рэчы зямныя цаніў намнога ніжэй ад нябесных,
Бога-тварца шанаваў сэрцам усім і душой.
Першы з народам сваім прыняў хрысціянскую веру,
З ёю святыні дзядоў паразбурыць загадаў.
Богу навышняму князь узводзіў раскошныя храмы,
З верай глыбокай даваў служкам царкоўным дары.
Ідалаў даўніх багоў адкінуўшы цвёрдай рукою,
Чэсна прызнаў, што і сам верыў заблудна калісь.
Знатнае гэта імя пакідаю зусім неахвотна,
Бо не апеў да канца слаўнага князя Літвы.
Часу не маю цяпер, дый вымушан помніць намер свой
Волата-зубра найперш неяк агулам зваліць.
Мо запытаюць мяне, ці не збочыў я з нашай дарогі,
Дык я на гэта скажу: збочыў, бо мусіў чакаць.
Хлопцы ж бычыну таго нясіляць і гонам і крыкам,
Вунь як на многа ладоў пушча трывожна гудзе.
Можна бадай што канчаць з натомленым гонамі зубрам,
Ярасці буйнай запал добра яго змардаваў.
Потам сцякаючы ўвесь, калоціць нагамі пад брухам,
Пены ашмоцце густой падае часта на дол.
Крокам няцвёрдым ідзе, хістаецца, быццам ад хмелю,
Скора пабачыш, як смерць звера такога заб'е.
Асатанелую злосць часова бычына спатоліў —
Верхнікі з сёдлаў хутчэй, коней адводзяць убок.
Хваты-хлапцы па звычцы дзядоў з мячамі аднымі
Выйшлі, каб зубра дабіць меткім ударам клінка.
Стаўшы за дрэвы, яны адважна чакаюць звяругу,
Дзеля высокіх пахвал стрэнуць гатовы і смерць.
Рубяць паветра лязом, аж свішча клінок зіхатлівы,
Кожны быка да сябе выклікаць хоча на бой.
З гневам азлоблены звер ірвануў на лаўца, нібы віхар,
Хлопец за дрэва ступіў, каб захінуцца ад рог.
Зубр, як ляцеў напрасткі, так і гакнуў рагамі ў стваліну,
Быццам па дрэве з лаўцом ляснуў маланкай пярун.
Голле трашчыць, паляцела кудысь адламанае сучча,
З лёту ашчэпак такі можа нянацкам забіць.
Трэба, каб лоўчы тут быў чалавекам рухавым і пільным,
Месца, дзе лётае смерць, не для слабых і маруд.
Бачылі мы, як аднойчы дзяцюк, і жвавы і моцны,
Выпусціў раптам клінок ды і ад жаху знямеў.
Хлопца калі б ад бяды не адратавала фартуна,
Так і загінуў бы ён, смерцю засілены сам.
Дрэва, дзе хлопец стаяў, кучомкаю снегу бялела,
Гэта старая сасна звесіла голле над ім.
Бухнуў асілак у ствол, і тоўсты камель хістануўся,
З важкаю ношай сваёй дрогнула вецце ўгары.
Белая шапка адтуль абрынула воблакам снегу,
Густа ахутала ўсё: зубра, сасну і лаўца.

Хлопец ачомаўся нейк, ажыў сваім целам і духам,
Даў з усіх ног драпака ў снежнай густой пеляне.
Бег той імклівы сябры праводзілі рогатам гучным,
Быццам сябе ратаваць ганьба якая ці зло.
Думалі мо, што ў баі сустрэліся роўныя сілы,
Хтось застанецца жывым, некага смерць забярэ.
Моцна зубрына бадаў, ды камель аказаўся мацнейшым,
Стоячы, нават і сам звера за рогі трымаў,
З корнем заслону тваю каб не вырвала гэта пачвара,
Толькі на цвёрдай зямлі дрэва сабе выбірай.
Той, хто даверыцца ўсё ж хваіне на глебе сыпучай,
Зробіць фатальны пралік: хвоя прыдушыць яго
Дрэва, якое зваліць не мог аніякі вятруга,
Выверне з'юшаны зубр, гакнуўшы добра ў камель.
Дзіўна, як сіліўся бык сасну паваліць векавую,
Як звар'яцела рыкаў, як віраваў ля ствала.
Гнеў яму вочы сляпіў, злюцеласць пачуцці глушыла,
Пэўна, рашыў, што бадзе хлопца з блішчастым клінком.
Цяжка адрозніць ужо, ці то скача дзяцюк, ці зубрына,
Месца, што ўтупана скрозь, пыл засланіў і смуга.
Ярасць і зубра аднак не заўсёды сляпою бывае,
Можа злюцелы рагач многае шчэ заўважаць.
Так, на аблаве адной каралю Аляксандру прыйшлося
Страшную рэч пераджыць. Жах, як успомніш, бярэ.
Ўсё каралеўства тады слязьмі залілося б ад гора,
Бог калі б з неба якраз не дапамог каралю.
Вось што было: на высокіх слупах чатырох сярод лесу
Ложы ўзвялі, каб глядзець, як забіваюць зуброў.
Там каралева цяпер паміж знаці ўрачыста садзіцца,
Побач і світа яе: пані й паненак радок.
Воддаль, але ж на віду, зуброў маладзёны чакаюць,
Лепшым хто лічыць сябе, звера цікуе пабольш.
Хочуць яны паказаць і сілу сваю і майстэрства,
Зверху ж на дрэве Амур сэрцы іх раніць стралой.
Слухай, Амур! Забаўляйся ўжо там, дзе кроў не пральецца!
У пушчу нашто прыляцеў, ніцы, шкадлівы блазнюк?
Што, як надумае хтось дзяўчыне сваёй падабацца?
Можа, дурны, праз цябе мігам жыццё загубіць.
Вось і тупочуць звяры, а ўслед насядае пагоня,
Рупіць усім гледачам бачыць, што будзе далей.
Зверху жаночы букет зіхацеў пералівам квяцістым,
Фарбамі рознымі ззяў дам знакамітых убор.
Колер бялюткі на ім купаўся у золаце тканым,
Яркаю барвай гарэў шоўк, нібы зыркі агонь.
Як той расквечаны цуд паўстаў перад статкам зубрыным,
Гурт замяшаўся крыху і запаволіў свой бег.
Я не кажу пра людзей, іх пачуцці — забава жанчынам,
Слабаму полу далі права яшчэ на звяроў.
Гучныя крыкі з трыбун назад беглякоў павярнулі,
І з перапуду зубры на паляўнічых ішлі.
Раптам звяруга адзін з параненым целам крывавым,
Зоркі на вока яшчэ, чуткі й на вуха пакуль,
Стаў, падзівіўся на дам, пахітаў галавою камусьці,
Быдта знаёмых былых згледзеў сярод гледачоў.

Потым, абураны тым, што відовішча красяць забойствам,
Гібель адзначыць сваю нечым адметным рашыў.
Мызу падняў і гучна зароў, надзімаючы ноздры,
(Гэтым ён знак падаваў гурту, што спуджана бег)
Рынуў на ложы пасля і як бухнуў рагамі ў падпору,
Дык у паветры цяжар часткай адной і павіс.
Воляй багоў калі б гэты памост абваліўся дадолу,
Многа б нявіннай крыві там паглынула зямля.
Як лютавалі б ссляпа зубрыныя вострыя рогі,
Страшна падумаць сабе, розум ад жаху маўчыць.
Вось чаму трэба найперш знясіліць трывалага звера,
Каб развярэджаны гнеў чуйнасць яго заглушыў.
Пашчу раскрыўшы, няхай наглытаецца пены дасыта,
Выкіне з глоткі язык, доўга матляючы ім.
Гучна і часта хвастом няхай памалоціць паветра,
З ноздраў павыдзьме яшчэ воблакі пары густой.
Зверу спрыяе мароз. Але, пастараўшыся добра,
Можна і ў холад з яго выгнаць нямала патоў.
Глянь, ужо цяжка сапе і чэрава лупіць няшчадна,
Пена ідзе адусюль, так яго выматаў гон.
Млявасць у рухах відаць, хадою няцвёрдаю крочыць,
Зрок засцілае туман, часта міргае вачмі.
Каб не цягнула у рот дыханнем парывістым грыву,
Свой жа настырны касмыль, злосна кусаючы, рве.
Як не страчае ахвяр, лютуе над целам уласным:
Той ці другою нагой бруха калоціць сваё.
Вецер аднекуль падзьме і зашорхае лісце сухое,
Дык і на шорах такі сослепу рынецца ён.
Птаха ляціць угары, дрыготліва цень зашыбуе,
Бегма імчыцца за ім, быццам за нечым жывым.
Знойдзецца многа прымет, па якіх можна бачыць, што ў гоне
Зручны ўжо момант настаў хлопцам у наступ ісці.
Сэнсу хаця і няшмат у такой перамозе, дзе нехта,
Перш чым звярыну забіць, моцна прытоміць яе.
Мо завялічыў я твор мнагаслоўем не надта змястоўным,
Ды пачакай, мой чытач, хутка ўжо будзе канец.
Хвою зубрына бадзе, а з боку другога са зброяй
Лоўчы да дрэва прыпаў, зліўся з камлём у адно.
Хай на адзін хоць бы міг ён адступіць ад гэтай стваліны,
Волат насцігне яго, зваліць, затопча, парве.
Вокала дрэва таго абое віруюць зацята,
Скача туды то сюды бык і адважны лавец.
Хоча клінком чалавек у лясное страшыдла пацэліць,
Звер жа сваім языком торкае, нібы лязом.
Доўгі зубрыны язык зачэпіць калі за апратку,
Ліха тады не мінуць, будуць хлапчыне канцы.
Ды апрача языка небяспека існуе другая —
Зубр і нагамі яшчэ лупіць, нібыта даўбнёй.
У цела страла не так хутка ляціць, як звяруга нагою
Стукне, нутро адаб'е, косці патрушчыць лаўцу.
Хлопец аднак з галавой: напад заўважае адразу,
Бачыць, што трэба рабіць, дзе адхінуцца й куды.
Зблізку звярына дыхне, апякае гарачаю хваляй,
Розняцца мала зусім подых такі і агонь.

Як паляўнічы клінком не праколе зубрынае сэрца,
Палячым жарам дыхва будзе загублены сам.
Каб не падоўжыўся бой, сябры адусюль памагаюць,
Сіляцца крыкам сваім збіць з панталыку быка.
Колючы спрытна, лаўцы прабіваюць зубрыныя грудзі,
Ў сэрца загнаны клінок цяжкую працу спыніў.
Голасна трубяць у рог, дзецюкі усміхаюцца вяла;
Зубр перад імі ляжыць, даўся вялікай цаной.
Пушчаў жыхар, наймагутнейшы звер, пераможаны ўкленчыў,
Недзе схаваўся другі. Што ж, бык, яшчэ пажыві.
Будзе як час, адшукаю цябе. Але гвалты, забойствы
Ты вынішчай і вайне рогі настаў, каб цяпер
Злога і я не тварыў, бо з розумам несумяшчальны
Войны, якімі грыміць Марс-крыважэр па зямлі.
Мутныя плыні ірвуць Хрыстовую светлую веру,
Слабую надта ў баі, ды і ў царкве не мацней.
Зброяй сваёй раздзірае сябе, а вораг не дрэмле.
Ганьбіць паўсюдна яе, дзе толькі можа, грызе.
Просіць бядачка даўно сабе дапамогі ад неба,
Губяць надзею аднак цяжкія нашы грахі.
Што ж каралі сёння робяць для нас? А можа паснулі?
Самі, прынамсі, яны дбаюць аб міры найменш.
Толькі адно ім наўме, аб адным заклапочаны вельмі,
Як бы на голаў каму зброю лацвей апусціць.
Іхны занятак — вайна на пагібель айчыннаму люду,
Гэтай забаве ліхой цалкам сябе аддаюць.
Воінства гіне з абодвух бакоў у аднолькавай меры,
Бо захацелі князі ўладу найбольшую мець.
Творачы глум і разбой, забаўляюцца нашаю кроўю,
Кепікі строіць ужо вораг тутэйшых краёў.
Гурт усяляк бараніць абавязак прамы самадзержцаў,
Ды абаронцы, на жаль, статак авечы ірвуць.
Пыха манархаў і злосць надзвычай далёка заходзяць,
Сэрцы жалезныя іх лютасцю ярай кіпяць.
Не заўважае булат, якая вісіць небяспека
І ў заняпадзе якім стан паспалітых зямель.
Хто не купаўся ў крыві, пралітай у часе разгулу
Нашых мячэй, хаця больш меч басурманскі сячэ.
Турак вунь рэжа людзей, паўсюдна вунь паліць, рабуе
Замкі, святыя дамы, селішчы і гарады.
Порты заняў, мацаванні паклаў і войска падводзіць
Столькі, каб можна было знішчыць астатняга з нас.
Кроўю старых і дзяцей ружавее праклятая забойца,
Чыніць бязлітасна гвалт. Ведае, мсціўцаў няма.
Як нават пора лязом мацярок цяжарнае лона,
Горкія слёзы адны бачыць разбэшчаны кат.
Ён не баіцца сустрэць каго-небудзь з нашых са зброяй —
Гэткі сляпы мы натоўп, гэткі зацюканы люд.
Самі ж к таму каралі абы ўгледзелі сілу якую,
Спосабам розным тады прагнуць аслабіць яе.
Кожнаму вельмі карціць, каб нідзе не ўзялі перавагу
Тыя, хто служыць Хрысту, хто яго веру нясуць.
Бачыць сын Божы і сам нябеснае волі маланкі,
На дапамогу сваю не спадзяецца пакуль.

Дзева, маці Хрыста, калі я імя тваё толькі
Мерыўся быў напісаць, дык затрымцела рука.
Здзіўлены, доўга рашаў, ці замоўкнуць, заціхнуць мне лепей,
Ці гаварыць і далей, бо і знямелы крычу.
Буду маўчаць, дык жа вартая ты, каб сусвет цябе славіў,
Каб апявала цябе ўсё, што пад небам жыве.
Буду калі гаварыць, то язык чалавечы і розум
Не падбярэ нават слоў, велічы годных тваёй.
Знаю аднак дабрыню, якою ты перамагаеш,
Боскае многа вышэй рэчаў нябоскіх, зямных.
Вось я нікчэмны прыйшоў. Даруй, маё сэрца трапеча.
Кленчу ў цябе каля ног, дзева Марыя. Даруй.
Звонку я брудны увесь, нутром яшчэ болей нячысты,
Бледныя вусны мае словы малітвы ракуць.
Ды я малю не таму, што варты хоць слова прамовіць,
Смею прасіць, бо якраз ты можаш нам памагчы.
Бог цябе выбраў калісь, шкадуючы лёс чалавечы,
Нібы свяціла падняў, каб ратавала другіх.
Бегма да маці бяжыць птушанятак бяскрылых чародка,
Горнеш і ты да сябе смертных існуючы род.
Матка падхопіць дзіця, што раптоўна звалілася долу,
Гэтак жа робіш і ты, як хто нянацкам падзе.
Кветак дзявочых краса! Прачыстая дзева Марыя!
Просьбу маю падтрымай боскай малітвай сваёй.
Ты паглядзі на пажары вайны, на кроў, што ліецца,
Многае воляй нябёс меч дазваляе сабе.
Гіне народ, а яму, з'яднанаму верай Хрыстовай,
Трэба, каб мір для жывых запанаваў на зямлі.
Нашым князям, каралям прыдай ты разважную кемнасць,
Дапамажы зразумець, дзе яны здрадзілі нам.
Ёсць абавязак. Яны ж уладай сваёй злоўжываюць,
Стражы па назве, а так, сутнасць іх — зграя ваўкоў.
Покуль ачомяцца ўсе, дык ты ўжо за нас заступіся,
Ворагаў ход запаволь дый прыпыні хоць крыху.
Каб яны бедных людзей не рэзалі, не рабавалі,
Каб не цягнулі ў ярмо бездапаможны народ.
Шлях неблагі забяспеч Адрыянусу шостаму ў моры,
Мо адкладзе надалей цяжбы і рады свае.
Хай абганяе вятры, што імкнуць караблю спадарожна,
Ды затрымае клінкі, лютасць якія ўзняла.
Скажа няхай слепакам, адкуль небяспека зыходзіць,
Дзе супастаты, якіх біць патрабуе закон.
Папа і ўладу набыў не за грошы, а згодна закону,
Меч і народу яго будзе правы бараніць.
Хай пастараецца ён пантыфікам быць дасканалым,
Гэткім, якога даўно хоча скрываўлены час.

# СВЕДЧАННЕ ЭПОХІ

Думаю, што сёй-той задасць пытанне: а навошта ўвогуле патрэбны яшчэ адзін пераклад класічнай, хрэстаматыйнай «Песні пра зубра»? Ёсць жа, маўляў, пераклад — грунтоўная праца Язэпа Семяжона, на жаль, ужо нябожчыка.

Калі казаць папросту, мне, чалавеку, які лаціну разбірае ледзь-ледзь, са слоўнікам, хацелася б ведаць, пра што ж там усё-такі напісана. Рэч у тым, што пераклад

Уладзіміра Шатона — эквілінеарны, колькасць радкоў у ім супадае з арыгіналам, але гэта не падрадкоўнік, не літаральны пераклад. Ён чытаецца як паэтычны твор. У арыгінале і ў Шатонавым перакладзе — 1072 радкі, у Семяжонавым на 445 радкоў больш. Такое, як называў яго сам Семяжон і называюць крытыкі, пераствapэнне паэмы, натуральна, робіць тэкст у найлепшым сэнсе **чытэльным**, ён успрымаецца паэтычна, часам вельмі паэтычна. Гэты пераклад мае сваю эстэтычную, агульнакультурную ролю, уключае сюжэт Гусоўскага ў кола вобразаў сучаснае паэтыкі. Але ўсё ж калі-нікалі няма ўпэўненасці, што чытаю той, чатырохсотгадовае даўнасці, твор.

Мне здаецца, што Шатонаў пераклад досыць удала спалучае гістарызм — у ім няма гістарычных аберацыяў — з чытэльнасцю, да таго ж ён аднаўляе метрарытміку элегічнага двуверша (гекзаметр з пентаметрам). Гістарычныя аберацыі пры перакладзе твора даўно мінулай эпохі магчымыя тады, калі перакладчык — свядома ці падсвядома — абсучаснівае погляды аўтара, прыпісвае яму стэрэатыпы свайго часу, робячы гэта, натуральна, з найлепшымі намерамі.

Нас цікавіць праблема этнічнай самасвядомасці Гусоўскага. Надта важныя тут радкі

In nemus arctoum, quamvis scriptoribus impar
Romanis, certe hac arte, Polonus eo.

(апошнія словы літаральна значаць «іду палякам», як нашыя «магу сысці за паляка») першы перакладчык падае так:

Край мой (цяпер ужо ўласнасць Кароны) калісьці
Я перамераў удоўжкі і ўпоперак пешшу.

Перакладчык, відаць, хацеў «змякчыць» самахарактарыстыку аўтара, але атрымалася недакладнасць: усё ж і пасля з'яднання з Каронаю Польскай у федэратыўную Рэч Паспалітую Вялікае княства Літоўскае наўрад ці можна было лічыць «уласнасцю Кароны», бо яно мела і ўласную армію, і ўласную грашовую адзінку, гаспадарства жыло сваімі законамі, паводле свайго Статута. У Шатона:

Хоць я зусім не раўня пісьменнікам даўняга Рыма,
Нетры ж паўночных лясоў ведаю, быццам паляк.

Для рымскіх чытачоў Гусоўскага паняцце Polonia было стэрэатыпам далёкіх земляў на поўначы айкумены, дзе густыя лясы, дзікія звяры і ўсё так не падобна да Італіі з яе морам і сонцам, і наўрад ці аўтар засведчыў тут сваю этнічнасць.

Пытанне стаўлення да рэлігіі на той час было прынцыповым. Я думаю, што прамінулі гады, калі сярэднявечных творцаў стараліся зрабіць ледзьве не атэістамі, непрыхільнымі да веры і царквы людзьмі (атэістычнасць лічылася своеасаблівым «пропускам» у пантэон прызнаных савецкаю навукай і літаратуразнаўствам). Таму ўсцешна, што ў Шатона — у поўнай адпаведнасці з арыгіналам — Вітаўт «з верай глыбокай даваў служкам царкоўным дары». У папярэднім перакладзе ўжыты стылёва зніжаны зварот «адвальваў з угоддзяў не скупа». Разам з тым Гусоўскі — сын народу, нагэтульні блізкага да зямлі, да прыроды, што ў ім да сёння жыве разумны пачатак паганства: «Молімся мы Ісусу Хрысту і ягонаму бацьку, У песнях жа нашых часцей правяць Юнона і Зеўс». Аналітычна, галавой, розумам Гусоўскі шчыра служыць Богу, але свет магутнае дзікай прыроды будзіць ягоную паганскую душу. Шатонаў пераклад дае гэта адчуць.

Мне цікава, якую Гусоўскі меў дзяржаўна-палітычную свядомасць, як, вольны ад нашых цяперашніх ідэалагічных догмаў, ставіўся, прыкладам, да адносінаў паміж Княствам і Масковіяй. Зразумела, што асаблівага піетэту не было: «Быццам нявольнік які, маскавіт яго (Вітаўта) зваў уладыкам, Хоць і магутным царом быў сярод многіх цароў» (параўн. згладжанае Семяжонава: «Як знакаміты багаццем і сілай Масковіі землі, Усё ж і яны прымірэння прасілі з літвінам»). Да трох суседзяў-супернікаў Княства — «татарына, турка, маскавіта» — Гусоўскі, як, мабыць, таксама іншыя ягоныя суайчыннікі, ставіўся роўна, з пачуццём гонару і адказнасці за сваю радзіму.

Я даўно знаёмы з Шатонавым перакладам «Песні пра зубра» і пераканаhelы, што ён надта ўдала дапаўняе пераклад ранейшы. Цешуся, што і гэтая праца пабачыць свет: багацейшае і глыбейшае будзе нашае ўяўленне пра Беларусь эпохі Гусоўскага.

**Пётра САДОЎСКІ**

# ЛІСТЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ ЛЮДЗЕЙ

Нумар часопіса «Спадчына», які вы, шаноўныя чытачы, трымаеце ў руках,— усяго толькі восьмы. Тым не менш, мы, супрацоўнікі рэдакцыі, ужо пачынаем падводзіць пэўныя вынікі нашай амаль двухгадовай сумеснай працы над зусім і прынцыпова новым выданнем: асэнсоўваем надрукаванае, шукаем новыя формы падачы матэрыялаў і іх мастацкага афармлення, разважаем над вашымі прапановамі і заўвагамі. І тут — паверце, не дзеля прыгожых слоў пішу гэта — вашы лісты з падтрымкай, парадамі, палемікай з'яўляюцца надзвычай каштоўнымі для нас. А лістоў гэтых да нас прыходзіць багата. На некаторыя з іх мы адразу давалі адказы, частку паспрабую прааналізаваць зараз.

Першае, што засведчылі вашы лісты,— гэта тое, што наша праца не засталася незаўважанай. Большасць карэспандэнтаў падтрымліваюць накірунак часопіса, а Парафянюк — адказны сакратар камянецкай раённай газеты «Ленінец»— нават даслаў нам нумар газеты са сваёй рэцэнзіяй «Праўда пра нашу гісторыю», у якой ён аналізуе наш часопіс з мэтай, «каб прыбавілася чытачоў «Спадчыны». Дзякуй Вам! Мы таксама дбаем пра тое, каб як мага больш людзей далучалася да гісторыі нашай радзімы. Сярод мноства цёплых і добразычлівых лістоў сустракаюцца і адзінкавыя экземпляры накшталт ліста з Баранавіч, які дзеля справядлівасці я тут працытую цалкам : «Уважаемый товарищ редактор! Возвращаю Вам журнал «Спадчына», № 2 за 1989 г. Может Вы разберетесь, как он оформлен? Мне вышлите настоящий журнал. С уважением Почетный член Белорусского добровольного общества памятников истории и культуры И. И. Косинский». Здараюцца і тэлефонныя размовы з «сердитыми» чытачамі, а часам той-сёй і наведвае рэдакцыю, пагражаючы, што «за вами ваши места навечно не закреплены». Што праўда, то праўда — ніхто з нас не вечны на гэтай грэшнай зямлі!..

Чытаю напісаны на 6 старонках ліст Валько з Нясвіжа, які востра занепакоены, што, нягледзячы на наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай, яна па-ранейшаму «не ажывае», ёй не карыстаюцца нават многія журналісты-прафесіяналы Гродзенскага і Брэсцкага тэлебачання. Вось як заканчваецца гэты ліст: «Звяртаюся да Вас з просьбай узняць гэтае пытанне перад кіраўніцтвам рэспублікі. Пара ўжо ім самім пачаць карыстацца беларускай мовай. Тады яна пойдзе і ў нізы... Па-другое, ва ўсёй рэспубліцы, асабліва ў раённых цэнтрах, неабходна пераводзіць школы і дашкольныя ўстановы на беларускую мову. Сорамна павінна быць нам, беларусам, што нехта зверху камандуе, якой мовай карыстацца. Думаю, што кожны жыхар Беларусі зможа, калі не карыстацца, дык разумець мову беларусаў Купалы, Коласа, Багушэвіча».

Болем за стан беларускай мовы, увогуле культуры нашага народа пра-

сякнуты і лісты чытачоў «Спадчыны», якія жывуць па-за межамі Беларусі і якія нават не з'яўляюцца беларусамі. Так, Аляксандр Кайсін жыве ў вёсцы Адышава Кіраўскай вобласці РСФСР, працуе настаўнікам замежных моў, рускі. Нашу мову вывучыў самастойна, зацікавіўшыся газетай «Літаратура і мастацтва». Кайсін з цяжкасцю змог аформіць падпіску на наш часопіс, але цяпер чытае яго з задавальненнем. І ён, рускі, напісаў нам на зусім нядрэннай беларускай мове: «Мова беларуская мне вельмі падабаецца — прыгожая, пявучая, сакавітая і не магу зразумець беларусаў, якія ганьбяць і, па сутнасці, ненавідзяць родную мову. Паверце, неяк няёмка робіцца за ўвесь беларускі народ, за беларускі урад, які дапусціў такую прыкрасць і, калі ўсе рэчы называць сваімі імёнамі, вельмі дапамог, што Менск, усе гарады беларускія — рускамоўныя. Каб выратаваць гэтую катастрафічную сітуацыю, калі мова гіне, патрэбны больш рашучыя, больш радыкальныя меры, і зусім не тыя паўмеры, вызначаныя ў Законе аб мовах — адзін толькі тэрмін увядзення Закона ў дзеянне (10 год!!!) чаго варты!» Кайсін просіць нас расказаць на старонках часопіса пра «сумна вядомую рэформу беларускай граматыкі», пра нацыянальную сімволіку і нацыянальны гімн. Часткова гэтыя прапановы мы ўжо выканалі, іншыя — на чарзе.

Яшчэ адзін наш іншанацыянальны карэспандэнт — Дзянісенка — даслаў нам ліст на украінскай мове аж з Паўночна-Асяцінскай рэспублікі, дзе ён, украінец, пражывае ўжо 45 гадоў. Жонка і нявестка — асяцінкі. Павіншаваў нас з Новым годам і Калядамі, віншавальныя паштоўкі даслаў яшчэ на 70 адрасоў — рускім, украінцам, карэлам, латышам, малдаванам, яўрэям. Дзянісенка паведамляе, што на Беларусі за ўсё сваё сямідзесяцігадовае жыццё быў толькі 10 дзён, але для таго, каб чытаць нашыя выданні, авалодаў беларускай мовай, і цяпер ганарыцца, што ў сваім Алагірскім раёне з'яўляецца адзіным падпісчыкам «Спадчыны». Дзянісенка з болем піша пра нашу праблему адраджэння мовы, аналізуе нацыянальную палітыку ў СССР, спрабуе зразумець, што ж з беларусамі, дый украінцамі, сталася, што цураюцца роднай мовы. Цалкам пагаджаемся з нашым украінскім чытачом з Каўказа, што «беларусы без беларускай мовы, украінцы без украінскай мовы — гэта нонсенс, абсурд». Разумеем яго заклік, каб нашы народы збліжаліся, бо шмат у чым, калі не ў самым галоўным, бяда і на Беларусі, і на Украіне — адна.

Перабіраю, перачытваю лісты, разумею, што і нас, і чытачоў хвалююць адны і тыя ж праблемы. Напрыклад, вандалізм у стаўленні да помнікаў гісторыі і культуры народа. Так, Аляшкевіча, настаўніка-пенсіянера з вёскі Цімкавічы, што на Капыльшчыне, «надзвычай уразіў» артыкул А. Петрашкевіча «...До основанья, а затем...», і наш карэспандэнт распавядае, як руйнаваўся касцёл у Капылі, як бурылі царкву ў яго вёсцы. І зноў радкі, напісаныя рукой неабыякавага чалавека: «Ваша публікацыя, канешне, мае выключную важнасць для выхавання нашай моладзі. Яна, безумоўна, важны ўрок выхавання гісторыяй, і гэта катэгарычнае папярэджанне супраць падобнага вандалізму... Моладзь камсамольскага ўзросту хутка возьме ў рукі «лейцы кіравання», а таму трэба, каб як мага большая частка моладзі ўсвядоміла неабходнасць ашчадных адносінаў да гісторыі і культурных здабыткаў беларускай нацыі».

Як і мы, нашы чытачы не хочуць мірыцца з ідэалагічнымі догмамі, напластаваннямі стэрэатыпаў, што пануюць аж да сёння ў аналізе гістарычных падзей, што мелі месца на нашай зямлі. Ашурок з Салігорска вітае часопіс за яго змаганне за аднаўленне гістарычнай праўды, выпрацоўку «новай гістарычнай канцэпцыі» і абураецца фактамі надзвычай жывучай ідэалагічнай хлусні. Вось вытрымка з яго ліста: «У надрукаваным у салі-

*горскай газеце «Шахцёр», № 60 за 17 красавіка 1990 г. гістарычным нарысе «На берагах Случы», які павінен увайсці ў «гістарычна-дакументальную хроніку-кнігу «Памяць» чытаем: «Літоўскія князі, скарыстоўваючы феадальную раздробленасць Старажытнай Русі, пачалі нападаць на суседнія заходне-рускія землі. Дасягнулі яны і Случчыны. Раз'яднанасць рускіх зямель... выкарысталі літоўскія і польскія феадалы. Умацаваўшы свае дзяржавы ў 13—14 стагоддзях, яны пачалі захоп і далучэнне беларускіх паўднёвых і ўсходніх зямель. У ліку гэтых зямель у 1326 годзе адышло да Літвы і Слуцкае княства». Усё старое. Калі ж будзе пісацца праўда?!»*

*Мы амаль не атрымліваем лістоў у чыстым выглядзе дзяжурна-кампліментарных. Большасць з іх, вядома, пачынаецца з падзякі, а далей ідуць сур'ёзныя разважанні па той ці іншай праблеме. Так, адгукаючыся на артыкул «Ці патрэбны тэатр гістарычнай драмы?», Марчанка з Гродна, дарэчы, руская па нацыянальнасці, дасылае нам па сутнасці цэлы праект ці мадэль такога нацыянальнага тэатра, бо, як яна слушна лічыць, практычная рэалізацыя такой ідэі была б моцным «уздзеяннем і мовай, і гістарычнымі звесткамі аб сваёй зямлі, і любоўю да ўсяго роднага — гэта б фарміравала нацыянальную свядомасць, якую вельмі цяжка выхаваць у грамадстве».*

*Чытачы Вострыкаў з Гомеля і Яраш з вёскі Вірышча Карэліцкага раёна ўважліва прачыталі артыкулы маладога даследчыка Віктара Чаропкі «Князь, ваяр, манах» і «Бітва ля Сіняй вады». І ўступілі з ім у палеміку — значыць, даследаваннямі нашай даўняй гісторыі займаюцца не адно толькі навукоўцы ці літаратары.*

*У адных лістах — палеміка (водгук Кармачова з Веткі на артыкул «Чарнобыль і наша гістарычная спадчына» А. Трусава), у іншых — падказка тэм для новых публікацый (допіс Белага з Мінска). Розныя лісты, але ўсе яны — найвялікшы стымул у нашай працы, бо разумеем, што маем свайго чытача — людзей неабыякавых, якім дарагі лёс нашай агульнай Бацькаўшчыны.*

**Вячаслаў РАКІЦКІ,**
**рэдактар аддзела.**

# СТАЛІНШЧЫНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Сачанка Б. І. **Сняцца сны аб Беларусі...** Мінск. «Мастацкая літаратура» 1990 г.

Загадка смерці Янкі Купалы, малавядомая і маладаследаваная гісторыя беларускай эміграцыі, матэрыялы, прысвечаныя дзеячам нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст... Пра гэтыя і іншыя трагічныя старонкі нашай гісторыі апавядае новая кніга Барыса Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...».

Бадай, пакуль што няма другой кнігі, дзе б так яскрава былі паказаны спусташальныя вынікі панавання сталіншчыны ў беларускай культуры. Нельга без хвалявання чытаць словы пісьменніка: «Для нас, беларусаў, сталіншчына куды страшнейшая, чым для некаторых іншых народаў. У нас жа рэпрэсіраваны былі не толькі людзі, але і мова наша, наша гісторыя і культура, і нават у значнай меры дзяржаўнасць... Колькі скалечана лёсаў, стаптана чалавечых душ, не народжана дзяцей, не напісана кніг, не адкрыта адкрыццяў! А рабства, усмоктанае з малаком маці, загнанае ў думкі і помыслы!

Сталінізм асуджаны. А сталіншчына. Ох, як нялёгка ад яеназбыцца...»

Па сутнасці, гэта кніга — спроба закрануць абыдзеныя маўчаннем факты і імёны, якіх выявілася зашмат у літаратуры, мастацтве, навуцы. Тут, на жаль, больш чым дастаткова «белых плям». І ў дарэвалюцыйны, і ў савецкі перыяд. Хто сёння зможа падлічыць, што мы страцілі?! Многае з таго, што засталося, не знішчана, дайшло да нас — аплявана, абылгана, апаганена, абчэплена вульгарызатарскімі ярлыкамі. А дэфармаванае разуменне прыгожага, што нанесла непапраўную шкоду літаратуры, адбілася на развіцці мовы? І, як вынік, нават сёння даводзіцца даказваць, як неабходна кожнаму ведаць свае карані, неабходна народу мець гістарычную памяць. Нашы папярэднікі пакінулі велізарную спадчыну духоўных скарбаў. І час парупіцца аб тым, каб выдаваць, перавыдаваць і прапагандаваць. Шмат што ўжо робіцца ў гэтым напрамку. Але ёсць у літаратуразнаўстве не так даўно яшчэ «закрытая» для даследчыкаў тэма, якая тым не менш заўжды выклікала надзвычайную цікавасць,— тэма беларускай эміграцыі. Менавіта ёй прысвечаны першыя артыкулы кнігі.

Упаміналася эміграцыя раней мала і аднназначна адмоўна. Калі ў пачатку 70-х гадоў мне давялося працаваць з беларускімі кнігамі, што выдаваліся ў Англіі і ЗША, у спецфондзе Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, то яго загадчык папярэджваў: «Ні ў якім разе не спасылайцеся на тых даследчыкаў, якія былі або знаходзяцца ў эміграцыі. Гэта будзе для іх занадта вялікая пашана». Першым «зону маўчання» парушыў крытык і літаратуразнавец Міхась Мушынскі, калі некалькі гадоў назад у часопісе «Нёман» апублікаваў даследаванне пра выданні беларускай эміграцыі. Другім «парушальнікам» стаў Барыс Сачанка. Яго артыкул «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні» ў часопісе «Маладосць» у 1988 г. адразу стаў з'явай у развіцці беларускага літаратуразнаўства.

Нельга не згадзіцца з наступнай думкай пісьменніка: «У апошні час, у сувязі з дэмакратызацыяй і галоснасцю з'явілася магчымасць аб'ектыўна і дыферэнцыравана паглядзець і на эміграцыю... Паўстае законнае пытанне — а чаму мы, беларусы, маўчым, чаму забыліся, што ў нас таксама ж існавала ды існуе і цяпер эміграцыя. Няўжо яна нічога каштоўнага там, за мяжою, не стварыла, пра што можна было б расказаць ці нават і надрукаваць сёе-тое з таго ў нас...»

Перад чытачамі кнігі «Сняцца сны аб Беларусі...» праходзяць асноўныя этапы жыццёвага і творчага шляху многіх прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. Сярод іх ксёндз Язэп Германовіч — вядомы ў Заходняй Беларусі пісьменнік; аўтар паэтычных і празаічных кніг Вінцук Адважны; спявак Міхась Забэйда-Суміцкі; паэтэса Ларыса Геніюш, паэт Уладзімір Жылка. Выклікае асаблівую цікавасць аналіз творчасці адной са старэйшых беларускіх паэтэс Наталлі Арсенневай, якая, на погляд аўтара, займае першае месца сярод некалькіх таленавітых паэтаў-прафесіяналаў. Б. Сачан-

ка характарызуе вершы Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Уладзіміра Клішэвіча, акцэнтуе ўвагу на творчасці празаікаў Кастуся Акулы, Юркі Віцьбіча, Леаніда Свэна.

Карціны «Беларускае мястэчка», «Вёска Даманавічы», партрэты «Беларуска», «Калыханка», «Жанчына» нам невядомыя, як і іх аўтар Івонка Шыманец-Сурвіла, што нарадзілася ў Беларусі ў 1936 г., скончыла філалагічны факультэт у Сарбоне і вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы. Жыла ў Францыі, Іспаніі, цяпер — у Канадзе. У раздзеле «Мастакі, кампазітары, спевакі, вучоныя» Б. Сачанка прыводзіць кароткія біяграфічныя звесткі пра найбольш выдатных прадстаўнікоў беларускай культуры за мяжою, якія мы не знойдзем ні ў адной з энцыклапедый, што выйшлі ў рэспубліцы і ў краіне.

На невядомым дагэтуль архіўным матэрыяле будуе Б. Сачанка артыкул «Бэндэ», які расказвае пра крытыка-вульгарызатара, аднаго з арганізатараў Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў і аднаго з яе псеўдамарксісцкіх тэарэтыкаў.

Загадка смерці Янкі Купалы. Пра гэта нельга гаварыць абыякава. Пісьменніку давялося правесці вялікі і доўгі пошук — не толькі літаратурны і гістарычны, а ў нейкай меры і крымінальны. Аналіз перыядычнага друку 20—30 гадоў, шматлікія сустрэчы з пісьменнікамі, партыйнымі і дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі, са сведкамі, якія жылі або працавалі ў той час у гасцініцы «Масква». Б. Сачанка напісаў не толькі таленавіты літаратурны твор, але і адначасова сур'ёзнае навуковае даследаванне. І хаця, як кажуць, кропка над «і» яшчэ не пастаўлена, нашы веды пра смерць Я. Купалы са з'яўленнем артыкула папоўніліся даволі значна.

«Гараць ці не гараць рукапісы»— такую назву мае матэрыял, у якім гаворыцца пра неабходнасць выдання творчай спадчыны многіх беларускіх пісьменнікаў. Можна смела сказаць, што гэты артыкул стане праграмай дзейнасці для цяперашніх і будучых даследчыкаў гісторыі беларускай літаратуры. З болю ў сэрцы, з пачуццём горычы апавядае пісьменнік пра трагічны лёс твораў Сімяона Полацкага, Адама Міцкевіча, Паўлюка Багрыма. Па-за апошнім акадэмічным Зборам твораў Я. Купалы ў сямі тамах (Мн., 1972—1976) засталося, па далёка не поўных падліках, каля ста твораў паэта. Не ўсе яго творы пакуль што і выяўлены.

Кіраўнікі выдавецтваў «Мастацкая літаратура», «Навука і тэхніка», Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР! Гэта да вас звяртаецца Б. Сачанка, калі піша: «Не выдадзены пакуль што поўна, з адпаведнымі каментарыямі і тлумачэннямі творы Уладзіміра Хадыкі... Калісьці выдаць усю спадчыну У. Хадыкі браўся Варлен Бечык. Хто возьмецца цяпер? А Міхась Чарот? Няўжо той двухтомнік, што выйшаў трыццаць год таму назад, гэта і ўсё, што засталося вартае са спадчыны песняра рэвалюцыі і першых год Савецкай улады на Беларусі? Быў раман пад назвай «Ён» і ў Платона Галавача. Былі творы, якіх мы дасюль не чыталі і ў Барыса Мікуліча, Васіля Каваля, Сымона Баранавых, Тодара Кляшторнага, Васіля Шашалевіча, Сяргея Дарожнага, Уладзіслава Галубка, Юлія Таўбіна...»

На працягу многіх дзесяцігоддзяў мы таксама абыходзіліся маўчаннем, накладвалі табу на шэраг фактаў і імёнаў дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Іх нават не ўпаміналі. Б. Сачанка быў адным з першых сур'ёзных даследчыкаў, хто паставіў перад сабой задачу зняць гэта табу. Так з'явіліся артыкулы «Аляксандр Прушынскі — Алесь Гарун», «Казімір Сваяк», «Власт (Вацлаў Ластоўскі)», «Дазволю сабе нагадаць» (Язэп Лёсік), змястоўныя радкі пра Аркадзя Смоліча. Поўнасцю згодзен з думкай аўтара кнігі, што варта выдаць іх творы, нават калі людзі ў нечым вінаватыя перад Савецкай уладай.

Своеасаблівым тэматычным заключэннем кнігі стаў артыкул «Край, дзе жывём...»— пра гісторыю і культуру Беларусі, пра нашу скалечаную мову, пра сённяшнюю моладзь і яе намаганні адрадзіць беларускія святыні. Прывядзем радкі аднаго роздуму: «Леў Сапега... Што мы пра яго ведаем? Беларуская Савецкая Энцыклапедыя адвяла яму некалькі радкоў тэксту. Ні партрэта, ні біяграфіі. А гэта ж быў у свой час адзін з выдатнейшых людзей у Еўропе. Акрамя таго, што займаў ён розныя высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім... ён — выдатны пісьменнік-публіцыст, адзін са стваральнікаў і рэдактараў Статута Вялікага княства Літоўскага — самага значнага дасягнення юрыдычнай думкі ў Еўропе ў XVI ст. (гаворка ідзе аб Статуце 1588 г.— **Э. І.**). Статут дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі, у Літве, у Эстоніі, на левабярэжнай Украіне на працягу больш чым двух стагоддзяў, быў перакладзены і выдадзены ў Польшчы, Германіі, Расіі... З'яўляецца ён і цяпер адным з буйнейшых помнікаў культуры сярэдневякоўя...»

Кніга Б. Сачанкі знаходзячыся на стыку публіцыстыкі, літаратуры і гісторыі, прымушае задумацца і глянуць іншымі вачыма на агульнанацыянальныя каштоўнасці, што хочацца бачыць узнёўленымі ў сённяшнім дні. Кніга дапамагае паглыбляцца ў мінулае, праз яго ісці да разумення сучаснасці, з гонарам несці славу беларускага народа.

**Эмануіл ІОФЕ**

**«НАСЛЕДИЕ»**
**(на белорусском языке)**



Замак у Любчы. Канец XVI — першая палова XVII ст.

Цана 1 руб.

Індэкс 74988



Выгляд Сафіі Полацкай ў XI ст. (спроба рэканструкцыі Г. Лебедзева).

Спадчына, 1991, № 2, 1—112.